***Гісторыя хваробы***

***Аповесць***

*Человек переживает землетрясения, эпидемии, ужасы болезней и всякие мучения души, но на все времена для него самой мучительной трагедией была, есть и будет — трагедия спальни.*

*Л. М. Талстой*

***Вяргейчык***

Увосень, як толькі скончылася «бульба» і пачаліся заняткі, у інстытуце толькі і гаварылі пра стыпендыю, якая налічвалася цяпер у залежнасці ад адзнак (за кожную пяцёрку даплочвалі па пяць рублёў), і пра трагічную смерць аднаго са студэнтаў, паэта Вяргейчыка Валодзі. Улетку, у будатрадзе, ён з хлопцамі ішоў з суседняе вёскі з танцаў; было ўжо цёмна, ззаду ехала грузавая машына. Хлопцы сталі галасаваць, шафёр, відаць, спужаўся, вільнуў — Вяргейчыка стукнула падножкай, ён адляцеў наўзнач, патыліцай на бардзюрыну, і хутка памёр.

Пра стыпендыю, грошы, пяцёркі і дадаткі гаварылі рознае. Хто меў больш пяцёрак, хваліў новую сістэму. Некаторыя казалі, што, як там ні было, якія ні ёсць гэтыя стымулы ненадзейныя і ненармаваныя, іх даўно трэба было ўвесці, хоць такім чынам нешта «перабудаваўшы ў вышэйшай школе». Другія казалі, што гэта чорт ведае што, а не «перабудова» і не «стымулы»: адным падавалі па пяцьдзесят, па шэсцьдзесят рублёў, а другім за адну тройку — нічога.

Пра смерць размовы ішлі зусім іначай, ціха, сумна. Вяргейчыка шкадавалі. Ні яго жыццё за два гады вучобы, ні смерць, якім бы страшным і незразумелым фактам у адносінах да дваццацічатырохгадовага чалавека яна ні была, не давалі асаблівых падстаў плёткам, што звычайна неяк самі сабою паяўляюцца на свет Божы ў такіх выпадках. Былі, праўда, такія-сякія разнабоі ў трактаванні ягонай смерці, але малазначныя. Так, некаторыя казалі, што нябожчык быў п’янаваты, не бярогся, і трошкі быў сам вінаваты. Другія даказвалі, што п’яны быў не Вяргейчык, а шафёр, інакш чаго б ён збіў на роўным месцы чалавека? Брусавец, які жыў з Вяргейчыкам у адным пакоі і ведаў яго добра, ішоў тады разам з ім з танцаў, а пасля бегаў выклікаць «хуткую», казаў, што Вяргейчык не мог быць п’яны, калі нават і захацеў бы, бо апошнім часам піў нейкія таблеткі, якія няможна было ўжываць разам са спіртным...

Расказвалі, як улетку ў інтэрнат прыязджала матка і Вяргейчыкаў дваюрадны брат, забіралі нейкія рэчы. Газеты дружна грамілі Сталіна, Хрушчова, Брэжнева, заклікалі людзей да Перабудоваў, Дэмакратыяў і да Галоснасцяў — з вялікай літары; разбівалі закаўказскія мафіі, асцярожна праходзіліся па незразумелай вайне ў Афганістане, называючы яе «помощью афганскому народу»; пісалі пра замежных спецыялістаў і пра ялцінскіх прастытутак, якія ў дваццаць гадоў маглі лёгка набыць машыну апошняе мадэлі, нідзе не працуючы... А мне ў вачах стаіць чамусьці тая Вяргейчыкава матка, як яна забірала яго рэчы — хоць я і не бачыў гэтага.

***Брусавец***

Мае асабіста адносіны да гэтай смерці былі дваякія.

Я добра ведаў нябожчыка, пэўны час нават сябраваў з ім, чытаў яго вершы — а таму разам з навіною пра яго гібель нейкая частачка мае душы нібы адрывалася ад свету. Але што ты зробіш — сесію я здаў з дзвюма тройкамі, стыпендыю мне не давалі, і, як ні ўпарцілася маё сумленне, чужая смерць зменшвала мае перажыванні.

Мне, па няправільнай логіцы, здавалася, што гэта толькі я шукаю сабе з усяго выгоды — нават з чужой бяды. Былі хвіліны, калі я баяўся і ненавідзеў сябе за шмат якія свае думкі. Думкі гэтыя, у розных варыяцыях, грунтаваліся на тым, што чым больш бедаў пасыплецца на знаёмых мне людзей, тым больш будзе расці маё асабістае шчасце. Паўтаруся, што мяне палохала гэта, і я ў такія хвіліны цягнуўся да людзей, якія, як мне здавалася, так, як я, думаць не маглі.

Такім чалавекам быў для мяне Мікалай Брусавец. Ён добра вучыўся, добра апранаўся, меў выдатную спартыўную фігуру, а галоўнае, быў здаровым аптымістам. Здавалася, калі б з ім і здарылася якое няшчасце, дык ратаваўся ён, пэўна б, не тым, што параўноўваў бы гэтае сваё няшчасце з няшчасцямі іншых і радаваўся, што сваё меншае. Калі Брусавец бачыў канец работы, за якую браўся — тады выходзіў плён, як і было ў яго з вучобаю. Калі не — ён кідаў пачатае з тою ж лёгкасцю, з якою пачынаў. Памятаю, яшчэ на першым курсе, пад уплывам Вяргейчыка, ён зрабіўся вялікім прыхільнікам беларускай мовы, ухапіўшыся за прапаганду яе, як галодны за хлеб. Недзе праз месяц, убачыўшы, што «змаганню» няма канца-краю, ён астыў, перастаў не толькі прапагандаваць, а і сам перайшоў, як і раней, на расійскую мову. І студэнты, і выкладчыкі, якім колькі дзён назад ён даказваў пра «запушчанасць нацыянальнага пытання» і пра «неадрыўнасць мовы ад культуры», смяяліся з яго. Ён прыдумаў, ці то недзе вычытаў, сказ і гаварыў яго ўсім знаёмым: «Калі адышоў ад справы Брусавец, гэта не азначае, што справа не вартая Брусаўца, а што Брусавец не варты справы», — і сам пры гэтым смяяўся...

Гадзін у сем вечара, у першы дзень пасля заняткаў, я пайшоў да Брусаўца.

— А я цябе ўжо даўно чакаю, — сказаў Брусавец, калі я, пастукаўшы ў дзверы, зайшоў. — Здароў. Сядай дзе бачыш. Я сам ужо збіраўся да цябе...

У пакоі была перастаноўка, ложкі з голымі сеткамі стаялі не так, як раней, а ссунуты разам каля акна. На падлозе ляжаў адчынены чамадан, Брусавец яго пакаваў.

— Перасяляюць? — спытаў я, сядаючы на сетку.

— Сам не захацеў тут... Ведаеш, усё будзе напамінаць пра яго. Во, ужо штаноў няма!.. — Брусавец гаварыў і глядзеў у шафу. — У цябе нічога не ўкралі за лета? У мяне недзе знікла адна спартоўка і сінія штаны. Ты адкуль, Васкевіч, я забыўся, з Мядзеля?

Брусавец мала змяніўся за вакацыі, у тым сэнсе, што мала змяніліся яго звычкі. Я ўжо ведаў: калі ён шмат гаворыць і шмат задае пытанняў, то нечым незадаволены.

— Не з самога Мядзеля, з раёна, — адказаў я.

Брусавец пакорпаўся ў чамадане, выцягнуў сінюю, абдзёртую на краях папку і сеў побач. Я трохі пасунуўся.

— Гэта Валодзева папка, — сказаў Брусавец, развязваючы шворкі, — а вось ягоны дзённік. У шафе ляжалі. Я хачу ведаць, што тут напісана... Не, вось тут, пры канцы.

Я глянуў.

— Звычайная беларуская лацінка, — з задавальненнем, як знаўца, паясніў я. — Табе што, цяпер перакласці?

— Калі не палянуешся, перакладзі пісьмова.

Я скрывіўся. Напісана было вельмі дробным почыркам.

— Гэтая шлюха, якая памагла загнаць Валодзю ў труну, працуе цяпер у тваім Мядзелі, у адной са школ... Я ведаю, ты сябраваў з Вяргейчыкам, рабіў з ім адну справу — памажы мне перакласці гэтыя запісы. Давай з’ездзім у ваш Мядзель і знойдзем гэтую прастытутку, га?

— Мяцельская, калі ты гаворыш пра яе, выдатна ведала лацінку, — задуменна прамовіў я, робячы выгляд, што для мяне ніякая не навіна гісторыя Вяргейчыка і Мяцельскай; праўда, я ведаў, што нешта між імі было — у асноўным, з інтэрнатаўскіх плётак; ведаў, што Вяргейчык збіраўся ледзь не жаніцца і толькі ўлетку, падчас сесіі, у іх чамусьці разладзілася... Пра ўсё іншае, у прыватнасці, што казаў цяпер і што, відаць, яшчэ меўся сказаць Брусавец, я чуў упершыню і таму навастрыў вушы. — Ты хочаш сказаць, што ў гэтым сшытку напісана пра яе?

— Я не ведаю, што тут напісана. Хоць, вядома, пра яе... Я ведаю толькі, што яна... вінавата ў ягонай смерці больш, можа, за таго шафёра!

— Я чуў, што Вяргейчык збіраўся жаніцца на ёй, — спакойна, каб не выдаваць свае зацікаўленасці, сказаў я. — Няўжо ён мог зрабіць такое без кахання? Пачакай, я дакажу... Я чуў пра Мяцельскую таксама плёткі, але няўжо Вяргейчык быў дурнейшы за нас з табою? Не можа ж быць, каб ён не бачыў у ёй нечага такога, за што можна было б яе кахаць.

Врусавец, які запаліў цыгарэту, аж закашляўся дымам:

— Кахаць? Ён ненавідзеў яе!

— Значыць, яна яго кахала. Бачыш...

— І гэтага не было. Чорт яго ведае, як яны сышліся ўвогуле. Можа, спачатку нешта між імі і было, але ўлетку — Вяргейчык вяртаўся ад яе мерцвяком. Я бажуся, што ніколі не бачыў такіх людзей... Так і напісана было на ім, што доўга не пражыве!

«Каб яго не збіла машына, дык нічога б не было на ім цяпер напісана», — ледзь не сказаў я ўслых. І папрасіў:

— Раскажы.

— Я ўжо добра не памятаю, — адразу пачаў Брусавец, — ён увесь апошні месяц жыў як не на гэтым свеце, не дзіва, што яго забіў гэты п’яны прыдурак... Ён быў падрыхтаваны да смерці — чаго я і вінавачу гэтую... Неяк раз збіраемся на заняткі, ён адзін чаравік абуў, сядзіць на ложку, апусціў рукі і глядзіць на гэты чаравік. Я з дзвярэй кажу: хутчэй, а ён страсянуўся і ідзе! У адным чаравіку. У дзвярах толькі ачомаўся і сам засмяяўся. Кажа, «нізка ўпаў, бо высока ляцеў».

Адзін раз, было гэта позна ноччу... Здалі мы ўжо, здаецца, перадапошні экзамен — як ён здаваў іх, ні разу кніжкі не адкрыўшы, не ведаю. І на чатыры, на пяць... Вось гадзіны ў тры ночы прачнуўся я ад святла, а ён стаіць сярод пакоя —

ну, мярцвяк мерцвяком! Белы, схуднелы, страшны... Стаіць і глядзіць на мяне. Я ажно падскочыў, сеў. Ты што, пытаю. Тады ён ачомаўся, ужо неяк інакш глянуў на мяне і сеў на тумбачку. Ведаеш, кажа, Коля, што са мною толькі зрабілі? Я даўно ўжо сам сябе не лічу за чалавека, даўно ўжо да ўсяго прывык — але нашто ўжо такое рабіць? Хоць, кажа, што я некага вінавачу? Вось я сяджу, не даю табе спаць і сам не сплю, бо для мяне быццам на дышоў канец свету, і мне трэба, каб пра мае пакуты ведала ўсё чалавецтва. А мае ж пакуты, кажа, ува мне самім, у маім целе. І калі не стане цела, дык не стане і пакутаў, але ўжо ад таго, што я табе вось гэта цяпер кажу — ніколі я гэтага не зраблю! Ніколі я не пазбаўлюся пакутаў такім спосабам; вось так пакажу-пакажу, нацешуся сам і напужаю на першы раз, а на другі насмяшу таго, хто слухае — і буду жыць. Далей.

«Ды што ўжо там такое?» — усклікнуў я.

«Яна пасмяялася з мяне страшэнна, а можа, мне падалося, што яна смяялася... І тады я саўсім страціў розум, нагаварыў ён страшных слоў, ужо забыўся якіх, абазваў яе брыдка... Але нічога, мне ўжо меней страшна. Яна адыходлівая, я ведаю. Трэба толькі трошкі пачакаць, яна даруе. Я не павешуся і не застрэлюся — я пайду прасіцца ў яе. Стану на калені, буду глядзець знізу ўверх і казаць адно толькі слова: «Даруй, даруй...»

Ты не палохайся, кажа, я сам ведаю, што вар'яцею, але я з тых ціхіх вар'ятаў, якія могуць сябе яшчэ неяк кантраляваць. Памятаеш, кажа, у Караленкі сляпы гаворыць, што сляпым не трэба дабрыня і ласка: іх трэба выводзіць на дарогу і даваць у рукі кіёк, хай жабруюць. Дык вось яшчэ большая памылка, што такіх, як я, — вясковых, забітых, слабых фізічна, без грошай — людзей трэба вучыць у школе. Хто мне калі растлумачыць, начорта трэба, каб яны чыталі пра Анегіна, Пячорына і пра Раскольнікава? Начорта галаву маю з малых гадоў набілі класічнымі вобразамі, нашто мяне навучылі думаць? Чаму мне выпісалі пахвальны ліст і адправілі вучыцца ў горад, а не навучылі даіць кароў і падбіраць гной? Начорта я навучыўся думаць, аналізаваць свае ўчынкі і адчуваць такія самыя пачуцці, як Анегін, Пячорын і Раскольнікаў, калі я не маю ні грошай Анегіна, ні фізічнага здароўя Раскольнікава? Каму трэба марнаваць мяне ў вялікім сталічным горадзе на сорак рублёў у месяц, дзе я навучыўся курыць «Космас», і з гэтых сарака дваццаць адзін пракурваю. Чым я надзелены, у параўнанні з другімі, каб жыць у вялікім сталічным свеце? Нічым. Толькі хаценнямі, якія развіліся незалежна ад мяне — калі я быў малады, я ж не хацеў нічога, што цяпер хачу. Я хацеў, як і ўсе людзі, якіх ведаў змалку, курыць «Прыму», пасвіць кароў, у газеты закручваць сала з хлебам і з памідорамі, а кнігі чытаць толькі друкаваныя вялікімі літарамі.

А вершы? Людзі, якія друкавалі ў тоўстым часопісе мае выдуманыя вершы, на самай справе капалі мне яму. Яны публічна, аўтарытэтна зацвердзілі, што я не толькі роўны, але і вышэй за многіх іншых людзей. Як я мог ім не верыць? Друкаванне гэтых вершаў зрабіла з мяне маральнага калеку, бо дысананс паміж тым, як я пачаў аб сабе думаць і што я на самай справе з сябе ўяўляў, вырас да вялікіх памераў. Што я практычна магу, чалавек дваццаці чатырох гадоў? Пісаць вершы? Тую ж Таню, якую я мучыў паўгода, цікавяць менш за ўсё мае вершы; яе цікавяць мае грошы, маё адзенне і мой рост у сантыметрах і дзе мы будзем жыць, калі, скажам, пажэнімся...»

Пасля ён зірнуў на гадзіннік і пабег. Я патушыў святло і лёг спаць.

— Ён паміраўся тады? — спытаў я.

— Не ведаю, ён прыйшоў праз хвілін дваццаць, я шчэ не паспеў заснуць. Ён ціха ўключыў начнік над сваёй тумбачкаю і да самай раніцы нешта пісаў.

Мы памаўчалі. У пакоі стала цёмна. Мне было добра і не думалася, што чатыры месяцы таму, на гэтым самым ложку сядзеў чалавек, які нешта думаў, нечага дабіваўся, адчуваў цемру і цяпло.

— Дам ёй гэтыя паперы — хай чытае і пакутуе, — сказаў Брусавец.

І неяк смешна і недарэчна прагучаў гэты грозны сказ; я быў упэўнены, яшчэ не прачытаўшы гэтых папер, што наўрад ці яны будуць некаму такой ужо страшнай помстаю.

— Можа, ён пісаў і не пра Мяцельскую. Калі хочаш, дай я прачытаю, а заўтра табе аддам, — папрасіў я.

— Бяры...

***Я***

Я не любіў Валодзю Вяргейчыка, хоць і сапраўды нейкі час мы з ім сябравалі.

Можна не любіць чалавека за тое, што ў яго не такія, як у цябе, погляды на рэчы, што ён ні з чым з табою не згаджаецца, і на словах альбо ў душы грэбуе табой, але можна з аднолькавай сілай не любіць чалавека, які вельмі на цябе падобны. Гэта тое ж самае, як чалавеку з фізічным калецтвам на твары часта падсоўваюць люстэрка. Я не любіў Вяргейчыка якраз з-за гэтай, другой, прычыны. Я таксама быў з беднай вясковай сям’і, таксама не мог пахваліцца нейкімі фізічнымі вартасцямі — але калі мне сорамна было ўсяго гэтага і рэдкі чалавек ведаў, чаго каштавала мне жыццё ў Мінску на сорак рублёў у месяц, а калі — і без іх, Вяргейчык не толькі не саромеўся, ён лічыў за норму, каб пра ягоныя беды ведаў кожны стрэчны-папярэчны. Ён плакаўся і сваёй беднасцю, і тым, што не пішуцца вершы, і тым, што на экзаменах яму задаюць больш пытанняў, бо адказвае па-беларуску... Ёсць людзі, якія да таго звыкаюцца з выдуманым імі ж крыжам, які яны быццам бы цягнуць на сваю Галгофу, што адчуваюць у гэтым нават асалоду. І прапануй толькі — так, дзеля смеху, скажы: «Табе памагчы?» — з якім гонарам твая «помач» будзе адрынутая!

Нябожчык, мне здавалася, быў з такіх людзей.

Сышліся мы з ім яшчэ на першым курсе, калі ён даведаўся, што я скончыў беларускую школу і калі-нікалі гавару па-беларуску, з-за гэтага і пачалося наша сяброўства. Мы гадзінамі сядзелі ў накураным пакоі і разважалі пра нацыянальныя праблемы. Недзе праз месяц такога лікбезу пайшлі першыя рознагалоссі: Вяргейчык вырашыў, што «гаварыльні» досыць і трэба пераходзіць да справы. Мы пайшлі да рэктара і сказалі, што трэба зала на трыста чалавек, дзе будуць праходзіць сустрэчы з пісьменнікамі і гісторыкамі, і нам адвялі гэтую залу. На першае пасяджэнне прыйшлі два пісьменнікі і два студэнты — я і Вяргейчык.

Я тыдзень не мог спаць ад сораму, пайшоўшы на так званы «збор заяваў у беларускія клясы». У адной кватэры старая бабулька смяялася з нашых агітаванняў

і казала: «Каб гэтага хацела правіцельства, дык хто ў нас пытаўся б?» Мяне ўразілі яе словы, я адчуваў, што яна мае рацыю, і ўрэшце адкрыта заявіў Вяргейчыку, што хадзіць па кватэрах — гэта авантура.

— Ты прапаноўваеш скласці рукі і сядзець?

— Я прапаноўваю толькі рэальнае размежаванне. Мы — будучыя настаўнікі, хіба гэта наша справа самім сабе шукаць вучняў? Ці быць беларускім класам можа і павінен вырашаць толькі ўрад, як правільна сказала бабуля. А калі ўрад гэтага не хоча, дык недзе тут і трэба шукаць прычыну, а не цягацца па кватэрах. Няўжо ты не бачыш, што, калі хадзіць па кватэрах, беларускіх школ мы дачакаемся праз пяцьсот гадоў?

— З такімі, як ты, мы іх ніколі не дачакаемся!

За два гады нашага знаёмства я не помню ні аднаго выпадку, каб удалося ў нечым пераканаць Вяргейчыка. Спачатку я бачыў у ім толькі зафанацелага «адраджэнца», для якога не існавала ніякіх чалавечых пачуццяў, калі яны выказваліся не па-беларуску; пасля выпадкаў з залаю і з заявамі актыўнасць Вяргейчыка пачала здавацца мне проста неразумнаю. Я шмат у чым расчараваўся, адышоў ад «справы» і толькі збоку наглядаў за Вяргейчыкам. Тады і разладзілася нашае сяброўства.

А ён не сунімаўся. Ужо на другім курсе, зімою, ён сабраў чалавек сем беларускамоўных і стварыў у інстытуце суполку «Раніца». Гэтая суполка то рассыпалася, то зноў утваралася, і невядома было, чым яны канкрэтна займаліся, акрамя бясконцых размоў. Недзе пад той час узнікла і пайшла гуляць па курсе плётка, што ў Вяргейчыка закахалася дзяўчына з ягонае суполкі, пяцікурсніца Мяцельская, якая памяняла за пяць курсаў пяць хлопцаў, і цяпер хоча закружыць Вяргейчыку галаву і выйсці за яго замуж.

Усё, што я ведаў, акрамя гэтай плёткі, дык гэта што Мяцельская была вельмі прыгожая і выдатна ведала беларускую мову — як ніхто ў інстытуце.

***Вяргейчыкавы паперы***

Я вярнуўся ад Брусаўца, сеў на стол і не без гідлівасці, якую звычайна нясуць рэчы нябожчыкаў, развязаў матузкі сіняе папкі. Чытаў я хутка. Почырк у Вяргейчыка быў добры. Недзе гадзіны праз дзве я меў уяўленне, што трымаю ў сваіх руках.

Дзённік ён вёў два з паловаю гады. Дзённік яго можна было падзяліць на тры часткі: першая, напісаная на рускай мове, складалася з нейкіх жыццёвых, вайсковых назіранняў і з вершаў па-руску. Другая, пісаная па-беларуску, была скрозь пра нацыянальныя праблемы і канчалася словамі: «Выйшаў «ЛіМ» — цэлая падборка пра мову!!!» Урэшце, трэцяя, самая вялікая па плошчы, была напісана беларускай лацінкай — пра каханне, пра асабістае жыццё. Акрамя дзённіка, у папцы ляжалі чатыры неадпраўленыя лісты: два да стрыечнага брата Валіка (ён прыязджаў да Вяргейчыка ў інтэрнат) і два — Сяргею Антоненку. Сяргей вучыўся на першым курсе разам з Вяргейчыкам, пасля кінуў інстытут і паехаў дамоў, здаецца, у Калінкавічы. Я чуў, што ён нядаўна жаніўся, і ведаў, што Вяргейчык перапісваўся з ім.

Я расклаў на стале лісты, гартаў дзённік і ўсё не мог зразумець, што мяне непакоіць. Я пачаў перачытваць яшчэ раз лацінку, раптам на сярэдзіне спыніўся...

Перада мною ляжаў, можа, адзін з самых праўдзівых твораў — нельга сказаць, мастацкі, хутчэй — хранікальна-дакументальны, але твор. Гісторыя чужога кахання: з завязкай, сюжэтам і кульмінацыяй... Вяргейчык пунктуальна запісваў толькі свае разважанні і пачуцці, апускаючы дэталі і дзеянні, з якіх гэтыя пачуцці вынікалі, але якраз у гэтым мне чамусьці ўбачылася арыгінальнасць формы. Як ні дзіўна, мне было цікавей чытаць гэтыя сухія, часам аднастайныя разважанні, чым іншыя: поўныя яскравых дэталяў апавяданні, у якіх былі «патрэсканыя карыты», «парцалянавыя ракавіны», «свінні з вушамі-лапухамі», «пажарныя капелюшы», «дзяды Яўхімы з вузлаватымі ад працы рукамі», «акварыумы-аўтобусы». Словам, гэта былі трапныя дэталі, з якіх тым не менш вынікалі разважанні настолькі прымітыўныя, што рабілася сорамна за таго, хто пісаў.

Зрэшты, прычына тут яшчэ магла быць як у маім літаратурным дылетанцтве, так і ў тым, што я асабіста ведаў і Вяргейчыка, і Мяцельскую. Мне непатрэбны былі дэталі, каб уявіць наш інтэрнацкі пакой, ноч, прыгожую, халодную, зняверaную ў людзях жанчыну, якая стаіць перад люстэркам і прыхарошвае валасы; недзе збоку, на ложку ці на крэсле, прымасціўся і не зводзіць з яе вачэй напаўзвар’яцелы ад сваіх бясконцых думак чалавек, які смаліць адну за адной цыгарэты «Космас» і ўсё гаворыць, гаворыць... Ён бачыць, што надакучыў тут, што красуня думае цяпер пра што хочаш, толькі не пра яго, але яшчэ страшней яму вяртацца да сябе ў пакой, заставацца сам-насам у дзіўных пошуках жаночай логікі.

Я расклаў неадпраўленыя лісты не па датах напісання, а згодна зместу дзённіка — і вось што выйшла:

***Лісты***

***Ліст першы***

Дзень добры, Сяргей!

Вялікі дзякуй табе за ліст.

Я рады, што ты жэнішся, — нехта з вялікіх прыкладна казаў так: «Да жаніцьбы я рос як яблыня-дзічка, а цяпер такое адчуванне, быццам мяне падраўнялі і я расту ў адным правільным напрамку». Я не змагу быць на тваім вяселлі — улетку еду ў будатрад, але абяцанне сваё выконваю. Калі ты помніш, абяцанне гэтае было — расказаць табе, калі ты жэнішся, сапраўдную прычыну мае меланхоліі за апошнія паўгода, і якую ролю ў гэтай маёй хваробе адыграў ты. Я не буду шмат філасофстваваць. Помніш, паўгода назад ты прыязджаў у Мінск і начаваў у Тані? Каб ты толькі ведаў, чым я цяпер заплаціў бы, каб раніцой ты не заходзіў тады да мяне! Можа, калі б я не ведаў падрабязнасцей той ночы, нічога цяпер са мной не было б. Вы — ты і Таня — былі мне як брат з сястрою. Нас яднала адна справа, і бажуся, што мне ў галаву не ўлазіла, як гэта проста робіцца — пагаварыўшы з жанчынаю аб высокіх матэрыях, класціся з ёю ў ложак і рабіць тое, пра што ты тады мне расказваў. Пасля твайго аповяда ў мяне знікла, галоўнае, вера, што на зямлі ёсць нешта святое, бо наша справа была для мяне адзіным, чым я жыў пасля

войска.

Чым я жыву цяпер? Гэта страшна, Сяргей. Найперш я пачаў думаць так: калі б я не быў дурны і жыў па прынцыпу «беларушчына беларушчынаю, але не забывайся і смачна пад’есці, і пераспаць з бабаю, як надарыцца момант», калі б я так думаў раней, дык мог быць на тваім месцы. Уяўленне маё запрацавала як ніколі. Уся беларушчына паступова выцяснялася без следу, а галава напаўнялася іншым... Вось я бачу кожны ваш рух, чую кожнае слова... А пасля таго? Як ЯНА ўставала? Як апраналася? Прасіла цябе адварочвацца? Якое было вашае першае слова раніцаю? Раней мне здавалася, што «свядомая беларуская мова сама па сабе ўзвышае, і людзі, якія гавораць на ёй, неяк вышэй і разумней за астатніх. Тады ж, зімою, усё ў мяне перамяшалася, усё святое руйнавалася кожным тваім словам. «Мне не было дзе пераначаваць, — расказваў ты, — я пайшоў да Мяцельскай. Яна была адна, ужо засынала. Я лёг на суседні ложак, ляжаў. Пасля падумаў — а-а, і перайшоў да яе. Яна не супраціўлялася...» (Ліст абрываецца).

***Ліст другі***

Добры дзень, Валік! Пішу табе на лекцыях, хапаючыся. Дзякуй, што хваліш мой верш, думаю, ён не варты таго.

У маім жыцці адбыліся такіясякія змены — не ведаю, ці можна пра такое некаму пісаць ці казаць, але і варыць усё ў сабе няма ўжо моцы. Запісы для сябе, у які-небудзь дзённік мяне не задавальняюць, доўга ў яго запісваць я не магу. Мне трэба бачыць перад сабою нейкі канкрэтны твар... Пачну здалёк, як я сам усё разумею: з гэтага навучальнага года я свядома перайшоў на беларускую мову, г. зн. пачаў гаварыць на ёй у магазінах, на лекцыях, з людзьмі, пісаць лісты. Зрабіў я гэта таму, каб вучыцца так думаць, бо тады яшчэ звязваў сваю будучыню з літаратурай. Пасля гэтага адбылося вось што: па-першае, на лісты мае адказаў толькі адзін чалавек — гэта ты (калі не лічыць маткі); па-другое, і ў сваім інстытуцкім асяроддзі я зрабіўся, па сутнасці, ізгоем. Хацеў я таго ці не, мне трэба было шукаць такіх, як сам. Нават не шукаць, бо такія людзі неяк самі знаходзіліся. Адзін раз, яшчэ ўвосень, да мяне зайшла адна вельмі прыгожая дзяўчына з нашага інстытута, з апошняга курса, і спытала, ці праўда, што я гавару ўвесь час «на мове»? Так мы пазнаёміліся, пачалі неяк трымацца адно аднаго, і адносіны паміж намі былі, як у даваенных фільмах — нейкія задужа ўжо цнатлівыя і ненатуральныя. Але адзін раз — перад зімовымі вакацыямі — я...

Каб ты лепш мяне зразумеў, апішу, як было. Я тады вярнуўся з вуліцы. На вуліцы — зіма, вечар, вецер. У пакоі цёмна, пуста, тыя ж сцены і адно й тое ж на сценах — усё знаёмае, што мяне раней неяк супакойвала, суцяшала і настройвала на свае вершы, раптам падалося страшэнна змрочным і сумным. Ведаеш, бываюць хвіліны, калі ты поўны энергіі, сіл, але не ве даеш, дзе іх дзець. Адзінота страшэнная, спаць яшчэ рана. І тады я пайшоў да Тані і бажуся, як толькі па стукаў у дзверы, зайшоў, сеў, павітаўся — словам, зрабіў тое ж, што і сотню разоў да гэтага — уся мая трывога некуды знікла. Яна зрабіла гарбаты, чакаючы, пакуль закіпіць, села насупраць за стол і спытала, ці чытаў я нейкі артыкул пра мову. Я пачаў, як заўсёды, казаць, што чытаў, што артыкуламі тут справы не вырашыць — і

дзіўная рэч! — я ўпершыню з ёю гаварыў адно, а думаў другое. Я думаў: «Яна адна, у кароткім халаце, за акном — ноч, вецер, яна мяне паважае за мае вершы, ззаду — ложак, яна ўжо збіралася спаць...» Мы былі зусім адны. «Можна, я астануся, Таня?» — сказаў я раптам... (Ліст абрываецца).

***Дзённік***

***6.2.87***

Урэшце дабраўся. А колькі ўсяго мог назапісваць за гэты час, каб не лянота! Сесію здаў на пяцёркі, і адна тройка. Адказваў па-беларуску, акрамя гістмату. Вакацыі прайшлі кепска, увесь час не выходзіла з галавы Т., было сумна, нудна, я так і не прывык за шэсць дзён да вясковага жыцця. Перад вакацыямі самае цікавае — вечар у М. Т. Упершыню за паўгода нашага знаёмства захацеў астацца ў яе начаваць, і не на вольным ложку, а з ёю. Яе гэта здзівіла і спалохала. Я сказаў (навошта!): ведаю, што ты спала з Сяргеем — ён сам на другі ж дзень расказаў мне. Тады яна раптам заплакала — горка-горка, і плакала доўга, а я ўсё чакаў. «Дык што, вам хочацца спаць, а на мне свет клінам сышоўся? » — спытала яна праз слёзы.

А я таксама быў страшна здзіўлены, бо, па логіцы, са мною, якога яна паважала больш, як Сяргея, яна павінна была легчы ў ложак з яшчэ большаю ахвотаю. Але ж не скажаш гэта ўслых! Я пакрыўдзіўся і пайшоў, а пасля шкадаваў і сябе, і яе. Ды што пасля — ніколі не забуду, як горка яна плакала.

***16.2.87***

Прайшло дзесяць дзён — і я гатоў. Не магу ні вучыць, ні спаць, згасаю сам на сваіх вачах. І невядома ад чаго. Закахацца я не мог, але прычына, здаецца, у Тані, бо гэта адзінае, пра што мне цікава думаць і гаварыць. Калі б я тады, перад вакацыямі, пераспаў з ёю — ніякіх пакутаў цяпер не было б. А цяпер справа зайшла дужа далёка. Я адкрыў перад ёю карты, бухнуўшы ў лоб: «Таня, дык можна мне спадзявацца?» — «На што?» — «Каб... гэтак... як Сяргей?» — «Што? Выкінь з галавы, Вяргейчык! Гэтага ніколі, ніколі не будзе», — засмяялася яна. Тады я нечакана сказаў, што кахаю яе, абняў і пацалаваў, і яна сцішылася і была такая радая! Але далей пацалункаў не пайшло.

Але чаму? Дзе я тут раблю памылку? Нехта пісаў, што мужчына часта гаворыць жанчыне больш, чым ёй патрэбна пра яго ведаць: ён сказаў і забыўся, а яна помніць. Не дзіва, што пасля маіх слоў («У мяне, акрамя цябе, нікога няма; ты самая лепшая дзяўчына» і г. д.), яна проста не чакае ад мяне нічога новага, у лепшым выпадку — паўтору. Але й паўтор не дасць ужо нейкага эфекту. Ёй цяпер трэба, мусіць, упэўніцца, ці яшчэ хто (лепшы, прыгажэйшы за мяне) не скажа такіх самых слоў. Сам жа я хачу ўжо нечага боль шага за паўтор і, што кепска, не адкладаючы.

План прыкладна такі: даць ёй зразумець, што я заўсёды ў яе пад рукою; не злаваць самому і не крыўдзіць яе (накшталт: ці ёсць у мяне надзея?); пастарацца знайсці сабе справу, каб не думаць пра гэта ўвесь час — і чакаць.

***18.2.87***

Учора ўвечары, упершыню за два месяцы, так лёгка і спакойна было на душы. Ішоў мокры снег, я хадзіў на вакзал тэлефанаваць у Гомель і думаў пра тое, як перад гэтым быў у лазні, раздзеты, і доўга глядзеў на сябе ў люстра, у якім адбіваўся з галавы да пят. Я ўсё зразумеў. Мне дваццаць чатыры гады, але фізічна я складзены, як пятнаццацігадовы падлетак. А твар зморшчаны, скура нясвежая — відаць, ад цыгарэт. А як страшэнна я схуднеў за гэты год! Вось дзе трэба шукаць прычыну, што з ЁЮ нічога не выйшла і не выходзіць. Яна не кахае мяне. І як можна кахаць такога?!

Няўжо калі б я быў таўсцейшы на дзесяць кілаграмаў і вышэйшы на дзесяць сантыметраў, яна пакахала б мяне яшчэ паўмесяца назад — у той жа дзень, калі я захацеў гэтага?! Так, можа быць. Чаго ж мне так страшна, калі я ведаю, што фізічна змяніцца не змагу?

І ўвечары страх прайшоў. Я думаў — а якую я сам сабе выбраў будучыню? Літаратурная работа, мінская кватэра, дача, машына — тыповы набор для шчасця тыповага сына вёскі. І ці не ёсць мой страх у тым, што будучыня гэтая можа для мяне не спраўдзіцца?

Але чаму я выбраў сабе такую, а не іншую будучыню? Бо яна такая ва ўсіх — у сэнсе, усе імкнуцца зрабіць сабе такую будучыню. Але раз я не такі, як усе, раз я проста фізічна горшы за астатніх, дык я магу раўняцца на іх?

Калі гэтае будучае жыццё будаваць такімі метадамі, як іншыя, пазіраючы на іх, робячы, як яны, і ведаючы наперад, што ніколі ў мяне так не атрымаецца — дык нават калі нейкім цудам тое будучае жыццё і пабудуецца, пакуты мае не акупяць яго. Але тады што — паміраць? І не будзе пакут: ні пазнейшых, ад натуральнай смерці, ні цяперашніх — ад шматлікіх балючых парыванняў «быць, як усе», у прыватнасці, зрабіць тое, што Сяргей.

Усё — лухта, бо смерць — гэта задужа цудоўна, і даецца яна лепшым і моцным, а не такому духоўнаму рабу, як я.

Выйсце: раз насільна я памерці не магу — баюся; раз у мяне няма будучыні, бо жыць, «як усе», не атрымаецца, — значыць, трэба жыць быццам памерламу ўжо. Нічога ад жыцця не чакаць, не імкнуцца, сабою распараджацца вольна. Жыццё з гэтага часу павінна стаць мне грашыма, выпадкова знойдзенымі на дарозе, якія траціць можна як папала, на рэчы, для якіх свае грошы шкадаваў бы. Рэчы, на якія я збіраюся траціць сваё нікому не патрэбнае жыццё, хай будуць: спакой, поўная да ўсяго абыякавасць.

Не ведаю, ці надоўга хопіць гэтай выдумкі і колькі я пражыву такім «памерлым» спосабам, але бачыць Бог, нічога іншага мне не астаецца.

Шчасце для тых, хто не думае пра яго, хто карыстаецца ім і сам таго не ведае. І хто не вызначае, што такое «шчасце». (Як я агульна пішу, а ў галаве толькі адно: гэта Сяргей быў шчаслівы, калі спаў з Мяцельскаю; гэта ён саўсім не думае і не шукаў гэтага «шчасця»; гэта ён быў з прыгожаю, малазнаёмаю жанчынаю, а значыць, быў шчаслівы і сам таго не ведаў).

***4.3.87***

Атрымаў ліст ад Валіка.

У яго — настальгія па вёсцы. Смешна. Я даўно ўжо не люблю вёску: смешна яе любіць — цяперашнюю. Але хто калі зразумее маю страшэнную настальгію па жыцці, якое я мог пражыць, каб не быў Вяргейчыкам? Адкуль яна ўзялася? Ніколі я не думаў, што захварэю якраз на такую настальгію. Хай я быў бы Сяргеем, Брусаўцом нават, Міцурам — кім-небудзь, толькі не Вяргейчыкам. І тады яна кахала б мяне, была б удзячная мне, пакорлівая. Была б шчаслівая, нават калі я кінуў бы яе, як зрабіў Сяргей.

Страшна і незразумела, калі думаеш, што яна бавіць час са мною і цалуе на развітанне не таму, што нешта там адчувае, а таму, што нікога іншага, апроч Вяргейчыка, побач няма. Калі мы дзе на людзях разам, яна саромеецца мяне: «Не бяры мяне за руку, я не люблю пры людзях», «Пасля пагаворым, тут жа людзі», «Толькі не шапчы на вуха — людзі ж глядзяць». А мне ўспамінаюцца адразу зімовыя дні, калі прыязджаў Сяргей, а яна шчабятала яшчэ па-расійску, толькі вучылася беларускай мове і была мне проста знаёмая, амаль чужая. Мы сядзелі тады ў інтэрпакоі, нехта з замежнікаў іграў на піяніна, усяго было чалавек дзесяць — замежных і «сваіх» студэнтаў. Яна, падабраўшы пад сябе ногі, сядзела на канапе побач з Сяргеем — і, далібог, яна сама абдымала і тулілася да яго. Вочы ў самой ззялі, і гаварыла ціха-ціха, і смяялася, усё абдымаючы яго, бы баялася, што зараз яе прагоняць. Тады яна яшчэ паважала мяне, бо думала, што я не хачу быць «як усе». Думала, што я хаджу па вуліцах і гавару па-беларуску — вось усё, чым я для яе быў.

Гэта было на другі дзень пасля таго, як між імі ўсё адбылося.

***12.3.87***

— Божа мой, Вяргейчык! Калі гэта скончыцца? Я не прастытутка, бажуся табе!

— А як тады быць... з Сяргеем?

— Які ты дурань! Каб ты толькі ведаў, што ты цяпер сам сабе робіш сваімі словамі... Можа, калі б ты маўчаў, я пакахала б цябе, як нікога, і ты даўно дабіўся б таго самага, што і Сяргей.

— Хіба на гэта абавязкова трэба каханне? Хіба ты кахала Сяргея?

— Не.

— Але я проста не магу не думаць пра тую вашу ноч!

— (Уздых). Вяргейчык, калі б на тваім месцы быў нехта іншы, я даўно яго выгнала б... Я табе сто разоў тлумачыла — у мяне быў такі перыяд, вельмі страшна была адзінота. Я пасварылася са сваім хлопцам назаўсёды, з хлопцам, з якім хадзіла два гады. Ужо мелася быць вяселле, пасля з-за нейкай драбязы мы пасварыліся — раз, другі... і я асталася адна.

— А ты кахала свайго хлопца?

— Кахала.

— Раскажы хоць, як гэта бывае.

— Ён быў зусім непрыгожы (позірк на мяне), кепска апрануты, але я гатова была абараняць яго перад усім светам, калі мне гаварылі, што ён мяне не варты. (Смяецца). Даходзіла да таго, што мы не маглі быць адно без аднаго нават гадзіны, сыходзілі з лекцый... Я скажу шчыра — ні з табою, ні з кім іншым такога я больш не адчуваю, уся неяк згарэла... З табою, праўда, нешта падобнае ўзнікае, але ты топчаш яго...

— Мяне ніхто ніколі так не кахаў. Было нешта, але ўсё не тое. А чым скончылася?

— Пасля пачалося тое, чаго так дамагаешся ты — і я яго ўзненавідзела. Не ён мяне кінуў, а я яго. Хоць пасля і мучылася страшэнна, на сцяну лезла ад жаху і адзіноты. Тады ж і падвярнуўся Сяргей — ну, нашто я гэта рабіла! Я ж ведала ўжо, чым такое канчаецца. Валодзя, ну, нашто табе гэта? Каб ты быў жанчынаю, ты ведаў бы, як гэта брыдка, які гэта фізічны і духоўны боль...

— Маўчы ты хоць пра фізічны, лепш увогуле маўчы!..

«Вяргейчык, Вяргейчык! Як бы цябе кахала, каб магла!» Страшна ўспомніць, бо гэта праўда. Хутчэй за ўсё, яна шчыра хоча і пакахаць мяне, і ўсё астатняе — і не можа. Мароз бяжыць па скуры, і страшна невыносна ад уяўлення, якім было б тое, сапраўднае, каханне.

Кожны чалавек мае прыкладна аднолькавы запас кахання. Выліваецца гэты запас найчасцей на абы-каго, на чалавека, якому каханне ці непатрэбна наогул, ці патрэбна на малы час... У яе запас гэты амаль не крануты, але мне яна вылучае маленькую долю — столькі, каб трымаць каля сябе. Цяпер — ад суму, на буду чае — проста так, на ўсялякі выпадак. Каб пагаварыць, паплакацца, паскардзіцца на жыццё, на Сяргеяў і на Сцяпанаў, якія «пагуляюць» з ёй і кінуць.

Яна кажа: «Ты хочаш, каб я цябе ўзненавідзела... пасля гэтага? Да ўсіх пасля гэтага нянавісць!»

«Усіх, — паўтараю я, — усіх тых».

«А ўсіх было двое», — чырванее яна. Можа, гэта і праўда, але мне робіцца раптам так страшна, што адрываецца нешта ўсярэдзіне, і я раблю так, як рабіў у дзяцінстве, калі дарослыя, смеючыся, палохалі мяне: «Памрэш, памрэш — станеш стары і памрэш!» Жах паралізоўваў мяне ўсяго, я ведаў, што гэта праўда, але пачынаў шаптаць: «Не вер! Не вер!» Памагала. Праз нейкі час я ўжо забываўся на смерць. Тое самае раблю і цяпер, шапчу: «Толькі двое!» Хутка робіцца лягчэй — цяпер я веру, што была яна толькі з двума.

Але ніколі я не паверу, што яна ненавідзіць Сяргея. Адзін раз, падчас гэтых нудных вечароў, якія не адрозніш адзін ад другога, я сказаў, калі яна глядзела на Сяргея, дык у яе зусім інакш ззялі вочы. Толькі пачуўшы гэтае імя, яна страпянулася ўся і, бедная, разгублена спытала: «Так? Бачыш, а я і сама не помню».

Калі б ён першы паспрабаваў вярнуцца, прыйшоў да яе і сказаў прыкладна тое, што я кажу ёй ужо два месяцы: «Таня, я цябе кахаю, я не магу без цябе жыць. Давай вернем тую ноч, бо інакш я проста звар’яцею», — яна не вагалася б ні хвіліны.

***4.4.87***

Упершыню цэлых два дні да яе не заходзіў. На трэці яна прыйшла сама. Адбылася такая прыкладна размова:

— Чаму ты не прыходзіш?

— Таня, я не магу ўжо адносіцца да цябе проста як да чалавека... Калі я не магу дабіцца таго, што й Сяргей, дык...

— Ого! А калі хто пра мяне падумае, як я сама хачу?

— Я не скончыў... Без кахання ты не будзеш мая, я ўжо бачу. Таму і не прыходжу.

— Дурны ты, Вяргейчык. Проста... за гэтыя два дні я пабачыла. Проста я не магу без цябе жыць — усяго толькі. Ну, чаго ты ўбіў сабе ў галаву, што каханне правяраецца такім спосабам? Калі ты зразумееш, што, чым больш ты думаеш і гаворыш пра адно і тое ж, тым больш настройваеш мяне супроць сябе?

— Я не веру, што мяне можна кахаць. Але я ніяк не ўцямлю, чаму мне не можна таго, што можна Сяргею? Я замучыўся страшэнна, Танюха, мне нішто не наўме ўжо... Толькі і думаю, чаго я не нарадзіўся Сяргеем?

— І што было б?

— Тады была б ноч...

— А пасля? Чаго і ты пра мяне не падумаеш?

— Пасля я зрабіў бы ўсё, што ты сама захацела б.

— Вяргейчык, у цябе было і ёсць вельмі простае выйсце. Мне здаецца, ты яго даўго ведаеш.

— Якое?

— Гэтага я табе ніколі не скажу.

— Давай напішам на паперцы.

Я ўзяў аловак, даў ёй асадку і паперку, сам сеў на ложак і хутка напісаў на чыстым ражку газеты: «Табе трэба было падмануць мяне, сказаць, што хворая, ці што-небудзь выдумаць, і што «зможаш» толькі ўвосень. А за лета я цябе забыўся б. Я ж усяму веру і гэтаму паверыў бы».

Яна сядзела за сталом, пісала вельмі доўга, абдумвала, крэсліла; урэшце мы абмяняліся, і я прачытаў: «Лепш было б, каб я любіла твайго Брусаўца, а ты — маю Віку (дзяўчына, з якой яна жыла), але гэта жарт. Выйсце ў цябе вельмі простае, але не дай Бог, каб ты здагадаўся, бо тады я апынуся на тваім месцы, а гэта страшна».

Першае, што мігнулася, было — жаніцьба. Мне — жаніцца?! На жанчыне, якая сама мала спала з двума, адзін з якіх ранейшы мой сябра і сакурснік? Гэта было нешта немагчымае, я адкінуў думку пра жаніцьбу праз паўхвіліны.

— Я нічога не разумею.

— Дай, бо сапраўды ты зараз навыдумляеш... — яна выхапіла паперку і засмяялася.

***5.4.87***

Што яна хацела сказаць, напісаўшы ў паперцы пра маё выйсце? Калі ёй можа быць страшна, апынуўшыся на маім месцы? Калі кінуць яе, не прыходзіць? Знайсці сабе другую дзяўчыну? Лухта.

Значыць, яна проста хацела выйсці замуж. Я насіў у галаве сваё, а яна,

мабыць, толькі: «Замуж! Замуж!» Няўжо так проста? Калі я нават і памыляюся, да яе ўжо не цягне. Адчуванне волі, якога за два месяцы яшчэ не было. Быццам знайшоўся шыфр і адразу, раптам, расшыфраваў усе яе словы і дзеянні за гэты перыяд. Правільна яна аднойчы сказала: «А ты не ведаеш жанчын». Апёкшыся колькі разоў, яна хоча гарантый, што, калі тое адбудзецца, я яе не пакіну. Як лёгка і проста! «І адыйшла зіма трывог, і стаў з нябёс герояў строй, і зноў ёсць май, і зноў ёсць бой, і зноў ёсць свет і ў свеце — Бог!»

Іншым, значыць, гэтае дазволена без усялякіх гарантый.

Для іх, жанчын, хлопцы, відаць, як і яны для нас, дзеляцца на катэгорыі: з гэтым можна адно, а з гэтым — іншае... Як добра, што ўсё скончана!

***9.4.87***

Цыдулкі, якія пісаў ёй, седзячы на лекцыі, і пабаяўся аддаць. «Я не ведаю тваіх намераў, але так не робяць! У жанчыны на першым месцы заўсёды цела. І тое, што яна з некім пераспіць — гэта не распуста, а ўзвышэнне, бо пасля яна набывае права асуджаць таго чалавека. Яна тады становіцца вышэй за мужчыну, і кожнае яе слова будзе праўда».

***11.4.87***

«Значыць, калі я не пайду на вашае пасяджэнне, ты пакрыўдзішся і нават не будзеш са мною гаварыць? Значыць, калі ты сама нечага хочаш, а другі не выконвае гэтага хацення, ты крыўдзішся ў такой ступені, што нават не хочаш гаварыць?»

***13.4.87***

«Вы ўсе хочаце, каб я была ў вас рэччу!»

«Я нікому даўно ўжо не веру».

«Чым ты лепшы за іх?»

І гэта ўсё, чаго я дабіўся за два з паловаю месяцы. Трэба ўспамінаць, што я ёй агідны, што яна не кахае. Было б каханне — не трэба было б аніякай логікі.

***Ліст трэці***

Добры дзень, Валік! У мяне ўсё па-старому. Я баюся здацца назолаю, але дэпрэсія мая нешта не праходзіць. Адзінае, чым магу пахваліцца — гэта спрабую стварыць у інстытуце літаратурна-гістарычную суполку «Раніца», якая выдавала б сваю насценную газету і прымала ўдзел у адраджэнскім жыцці Беларусі. Знайшлося шэсць чалавек: тры хлопцы і тры дзяўчыны, і ўсе былі досыць актыўныя. Але нават гэта вельмі хутка мне надакучыла — я зусім не разумею сам сябе і магу толькі канстатаваць тое, што ёсць. Усе гэтыя справы здаюцца мне цяпер дзіцячаю гульнёй у нешта сур’ёзнае, а ў людзях я, як ні стараюся рабіць зваротнае, бачу з некаторых часоў толькі фальш. Мне здаецца, што той-сёй не верыць у тое, што робіць, што той-сёй гаворыць высокія словы, але сам дбае ў гэты момант пра іншае, толькі не

пра святое і не пра высокае. Я мяркую толькі па сабе. Я без астатку быў аддадзены справе ўжо два гады: не злічыць, колькі праводзілі са мною розных гутарак — ад камітэта камсамола і дэканата да спецработнікаў адпаведных устаноў. Ніколі я не ўсумніўся ў святасці таго, чаму вырашыў прысвяціць жыццё. Але дзе цяпер уся мая вера? Чаму я служыў, калі малюсенькі дробязны выпадак, пра які сорамна расказваць людзям, разбіў гэтую веру амаль да шчэнту? Вось тут я абсалютна не ведаю: ці вінаваты я, прыняўшы звычайнае за святое, ці вінаваты наш беларускі рух, які, не варты звацца святым; ці, хутчэй за ўсё, я — самы звычайны чалавек, а рух — самы звычайны рух, але ў свеце ёсць нешта вышэйшае, свяцейшае і праўдзівейшае як за мяне, так і за ўсе нашы адраджэнскія рухі. Што гэта такое — я не ведаю. Але яно ёсць. І служыць ранейшым сваім святыням, не верачы ў іх, уяўляецца мне горшым за здраду.

Я пісаў табе адзін ліст узімку, але адаслаць яго пабаяўся. Ведаеш, я закахаўся. Ва ўсякім разе, усе дзяўчаты нашага інстытута і з усяго свету перасталі для мяне існаваць, акрамя адной. Гэта цудоўная, нешчаслівая дзяўчына, але яна выпадкова «палюбілася» з маім сябрам, пасля яны рассталіся назусім — ні лістоў, ні ўспамінаў. Калі паспрабаваць неяк адным словам вызначыць той стан, які цяпер у мяне, дык гэта будзе неразуменне. Неразуменне, чаму мне так упарта адмаўляюць у тым, у чым не адмаўляюць іншаму чалавеку? Тым больш што... (Ліст абрываецца).

**16.4.87**

Як добра, што мы памірыліся! Як небяспечна я да яе прывык — і каму расказаць, «хто ўратуе і хто дапаможа?».

Цяпер, калі мы памірыліся, лёгка пісаць пра ўчарашняе, але суткі — цэлыя суткі я жыў адчуваннем, што ўсё скончана, і, калі б яна не прыйшла першая, я не ведаю, што зрабіў бы. Як жа яно ўсё было? Я, помню, сказаў ёй, што не пайду на пасяджэнне «Раніцы», спаслаўся, што трэба хоць нешта рабіць па ўроках, і яна пайшла сама. На самай справе на апошнім пасяджэнні я заўважыў дзіўную рэч: я нічым (калі глядзець яе вачыма) не вылучаюся ад трох нашых хлопцаў! Больш, на месцы дзяўчыны я выбраў бы ці Міцуру — ён прыгожы, наіўны, не служыў шчэ нават у войску, ці Рамановіча — ён спакойны, здаровы, як дуб, ці нават Васкевіча — ён вясёлы, хоць і апрануты горш за тых... Я побач з імі, як сыч; ніхто ні пра што, праўда, не здагадваецца, бачаць ува мне толькі лідэра, якога больш за ўсё хвалюе наш агульны клопат, але Таню не падманеш. У яе вачах я чытаю беспамылкова: «Мы ўсе тут добра ведаем мову, у чым тады лідэрства і выключнасць Вяргейчыка?» Усё, што б я ні казаў, яна аспрэчвае. «Не таму, што ёй трэба праўда, а каб хлопцы далі ёй увагу, — думаю я. — Што ж, буду маўчаць». Так сяджу і маўчу, паступова і іншыя апускаюць насы. Пасяджэнні, якія раней былі жывымі, з душою, збіралі па пятнаццаць чалавек, сталі як хаўтуры.

Яна была рада, што я не іду, а ўслых сказала: «Ну, вучыся, хоць і сумна будзе без цябе».

Увечары, гадзін у адзінаццаць (пасяджэнне ішло аж на дзве гадзіны болей) з’явілася мая Таня. «Як сумна было без цябе!» — «Выдатна было», — перакладаю я і чарнею, як хмара. Брусавец заўсёды выходзіць, пакідаючы нас удваіх, я бачу, што

ён не любіць Таню, але ўдзячны яму страшэнна.

— Таня, я зноў за старое. Я ніяк не магу вызначыць, што ў нас за адносіны? Як ты сама іх разумееш?

— Звычайныя. Ты кахаеш мяне, я — цябе, — яна падышла і абняла мяне. Я вызваліўся.

— Хіба так кахаюць? Нашто ты хлусіш? Ты ж халаднееш з кожным днём больш і больш. І я ўжо не ведаю, кахаю ці не...

— А, так! А сапраўды, як гэта я не заўважыла, што ты перастаў у апошні час дамагацца свайго... Я ж ведала, што гэтым скончыцца.

— Як ведала? Значыць, ты ведала, бачыла, што я цябе перастаю кахаць, і нічога не спрабавала зрабіць інакш? Табе ўсё роўна, кахацьму я ці не?

— Не ўсё роўна, проста ведаеш, калі сутыкнуць халоднае і гарачае, дык не заўсёды награецца халоднае, звычайна астывае гарачае.

— Не стаў, калі ласка, усё з ног на галаву, не рабі мяне вінаватым.

— Ну, добра... Раз ты так дабіваешся, я скажу, як я ўсё гэта разумею... Каб можна было, я зрабіла б усё, каб Сяргей пасля той ночы не ўбачыў цябе; я зрабіла б усё, каб ты не даведаўся, што я з некім была! Я не хацела твайго кахання, я, калі шчыра, кахання перабачыла ўсякага, і мяне цяжка здзівіць яшчэ адным... А тыя восеньскія адносіны паміж намі, як сястры з братам, гэта было нешта сапраўднае, ні на што не падобнае — і павер мне, вышэйшае і лепшае за любое каханне. Але вярнуць нельга, раз яно так здарылася, я сама хацела пакахаць цябе. І нешта ўзнікала, але ўспамінаўся твой націск... Калі б ты пабыў са мною, ты зрабіў бы гэтаксама, як Сяргей... Ну што табе ў гэтым?.. Табе трэба даказаць самому сабе, што ты не горшы за Сяргея?

— Не!

— Так! А я што — машына для вашых маральных эксперыментаў?

Я маўчаў. Яна паклала галаву мне на плячо і сцішылася. «Харошы ты, Вяргейчык... Пастаім даўжэй, каб больш ніколі не сустракацца. Ты ж хоць галавою кіўнеш пры сустрэчы?» Засмяялася і дадала: «Я ж усё адно цябе буду кахаць — па-свойму, без ложка». Адштурхнула мяне і пайшла, не аглянуўшыся ў парозе.

Я даходжу ўжо да таго, што сам пішу, быццам ёй, і сам чытаю, уяўляючы, быццам яна чытае. Нешта вельмі нядобрае са мною за гэты час адбываецца. Цяпер смешна, што я пісаў сам сабе ўчора ўвечары, калі яна пайшла:

«Ніколі б не падумаў, што будзе так страшна. Аказваецца, я даўно ўжо жыву толькі для цябе і толькі табою, і раптам — няма для каго жыць, няма каму пахваліцца, як добра я штосьці раблю, які я напісаў верш. Гэта мне трэба было — жыць для кагосьці, а я думаў, што гэта табе трэба — каб для цябе нехта жыў. Аказалася, нікому не трэба, каб я хадзіў у інстытут, у інтэрнат, на пасяджэнні «Раніцы», еў, піў, спаў».

«А каму трэба, каб я гэтае рабіла?»

«Мне».

«Дык што ты хочаш? Воць я ем, п’ю», хаджу на «Раніцу», у інстытут — ведай гэта, думай, што я раблю гэта для цябе».

«Мне нічога іншага і не застаецца. Ведаеш, калі ты пайшла, ноч была такая... дзікая. Схадзіў я на вакзал, купіў два пачкі цыгарэт і смаліў, смаліў, аж пакуль не

збялеў. Тады лёг — і сон нейкі дурны і страшны. Звычайна пасля якіх бедаў сны шчаслівыя — ведаеш, сніцца, што ўсё добра, а калі прачынаешся, успамінаеш, аж скаланае ўсяго. А на гэты раз і ў сне не забыўся, і тут не так, як ва ўсіх...»

«Колькі я цябе ведаю, ты ўсё плачаш ды скардзішся».

«Мне ж больш няма каму».

«Ах, кінь, Вяргейчык! Колькі можна пра адно і тое ж?»

«Ну, не крыўдуй, калі ласка, хоць тут не крыўдуй. Ты ж на паперы толькі... А помніш, Таня?.. Слухай, я ніколі не ведаў, як табе больш падабаецца зваць цябе, перабіраў усе склоны...»

«Нічога, як завеш, так і добра».

«Проста мне так не падабалася, як ты звала мяне ўсё Вяргейчык, Вяргейчык. Адзін раз толькі назвала імя, памятаеш?»

«Усё памятаю».

«Хто цябе вучыць гэтым «памятаю» зусім не беларускім? Не чытай, дзеля бога, Караткевіча, не вучыся яго ўкраінізмам і неалагізмам, вучыцца мове нам трэба ў Гарэцкага, і ў Ластоўскага, і ў Калюгі, а не ў Караткевіча! А помніш, Танечка, я шчэ ўвосень любіў цытаваць: «Бывае, выльеш горыч на паперы, і ўсё лягчэй здаецца на душы?» А памятаеш, як ты раз павязвала мне гальштук, і я, смеючыся, сказаў, што ёсць такая прыкмета: калі дзяўчына павяжа хлопцу гальштук, дык яны палюбяцца? Няўжо некалі такое было, што ты была мне амаль чужою і я ніяк цябе не раўнаваў!»

«Вяргейчык, ты сапраўды так мучаешся ці прыдурваешся?»

«Навошта, для якое мэты мне цяпер прыдурвацца? Помніш, ты сама казала: «Я думала, у цябе гэта хутка пройдзе, але не ўлічыла, што ты не такі, як усе? »

«У цябе ж было лёгкае і простае выйсце».

«Таня, Таня! Чаго ты ні Сяргею, ні першаму свайму хлопцу не раіла шукаць нейкіх іншых выйсцяў! Як на добры лад, як ёсць каханне, дык якое яшчэ трэба выйсце? Я для цябе зраблю ўсё на свеце, але ж справа ў чым? Ты ад мяне нічога не патрабуеш, і гэта страшней усяго. Мне часта хочацца стаць перад табою на калені, абняць за ногі...»

«Ізноў ногі?»

«Божа, як з табою гаварыць? Хоць на паперы пабудзь тою, якую я выдумаў, каб закахацца».

«Значыць, ты кахаў толькі выдуманую? Як будзе лепш: кахаў ці любіў?»

«Гледзячы што і каго... І хто ў мяне будзе цяпер вучыцца мове?»

«Знойдзеш».

«Не, я, пэўна, ніколі не жанюся, ты для мяне так і ёсць лепшая дзяўчына, іншай я проста не змагу паўтарыць тых слоў, што казаў табе».

«У мяне ўжо баліць галава. Пайду я, Вяргейчык».

«А вось не. Гэта ўжо адзіная мая прывілея — не пускаць цябе».

«Нашто ты пачынаеш усё па-новаму? Каб ты ведаў, як мне гэта надакучыла! Усе твае пакуты ў табе самім, я не магу ім даць ніякай палёгкі, як, можа, сама таго ні хачу».

«Можаш».

«Я ўсё здзіўляюся, чаму хваляць твае вершы».

«Я цябе тысячу разоў прасіў — не чапай мае вершы. Я ж не ўспамінаю пра Сяргея».

«Вяргейчык, падзякуй Богу, што ў мяне засталіся рэшткі вераснёўскай павагі...»

«Пачакай, я баюся, што зараз скончыцца ліст і я цябе ўжо сапраўды не ўтрымаю. Я зараз дакажу, што хацеў, і ты пойдзеш, добра?»

«Ты ў сто разоў горшы за Сяргея — ён хоць не выдумляў ніякіх праблем, з ім лёгка было. Хоць нашто табе гэта казаць? Хто ты мне такі?»

«Я не Сяргей... Я цябе ніколі б не кінуў. Помніш, я ўсё казаў: будзе, як ты захочаш?»

«Усё, Вяргейчык. Табе асталося трохі больш за палавіну ліста. Я цяпер ведаю, чаго ты вар'яцееш: столькі дамагаўся свайго, думаў: «Якая ёй розніца, я ці Сяргей? Дамогся? Проста гэта?»

«Будысты вераць, што чалавек жыве шмат-шмат жыццяў. Памірае, а тады нараджаецца ў новым абліччы. Калі гэта так, і ў тым, будучым, жыцці я буду прыгожым, багатым, вясёлым, а ты — любою, я цябе знайду, добра? І мы ніколі ўжо не расстанемся».

«Шкода, што ты не пішаш больш свае лірычныя вершы».

«Але калі ты і ў тым жыцці мяне не пакахаеш... Буду назаляць табе, як і цяпер... Будзеш тады ведаць. А праўда, табе сумна будзе некалі без мяне? Калі ты скончыш інстытут, паедзеш куды-небудзь і ляжаш з кім-небудзь у ложак, успомніш мяне хоць на імгненне, добра? Успомніш якраз у тое імгненне, калі... Ты пайшла? Як мне заўсёды добра з табою!»

«Вывай, Вяргейчык!»

«Давай іначай: прощай! Так страшней».

«Добра: прощай!»

«Прощай!»

***10.5.87***

То сварыліся, то мірыліся, два дні не бачылі адно аднаго. Мірымся мы так: альбо я не вытрымліваю, іду да яе і стаю моўчкі пры дзвярах — тады яна падыходзіць і цалуе мяне; альбо яна робіць тое самае, і ўжо я цалую яе. На гэты раз яна прыйшла першая, быццам для таго, каб толькі даведацца, ці паеду я праз тыдзень з імі ў Кушляны, на сядзібу Багушэвіча. Яна была такая ціхмяная, пакорлівая — няўжо баіцца мяне згубіць? Калі так — дык няхай жыве!

Гаварылі, як заўсёды, пра нашы адносіны. Я панура плёў, што нам патрэбна расстацца, бо нікому з гэтага кахання няма радасці. «Калі ты вось цяпер, днямі, не здагадаешся сказаць мне нешта вельмі важнае, табе пасля можа быць вельмі кепска. Але я ведаю напэўна, што ты скажаш. «Жаніцца, — падумаў я і спытаў: — Ты маеш на ўвазе, што нам не трэба сустракацца?» — «Не, Вяргейчык, усё ідзе якраз да зваротнага...»

Значыць, жаніцьба? Усе мае здагадкі, што яна хоча замуж, пацвердзіліся. Што ж тут рабіць? Яна была з чалавекам, які, яна ведала, яе не кахае. Значыць, галоўнае, каб яна кахала. Тады ўсё вырашылася б яшчэ зімою, усё — гэта значыць

была б такая, як у яе з Сяргеем, ноч.

Нягледзячы на ўсю сваю наіўнасць, пісанне лірычных вершаў, я страшны, аказваецца, педант. Я ўвесь жыву па схемах. Калі тая ці іншая з'ява падыходзіць пад маю схему — тады я чалавек, як і ўсе, з гонарам, з сумленнем, здольны раскласці гэтую з'яву на белую і чорную часткі. Варта толькі ж сутыкнуцца з нечым незразумелым, што не ўкладаецца ў мае схемы і не падыходзіць пад вычытаныя мной кніжныя сюжэты, я станаўлюся рабом — невядома, чыя тады кроў дык туе мне паводзіны. Хоць і па бацькавай, і па матчынай лініі мы не мелі ніколі ні гербаў, ні фальваркаў. Як добра было б жыць у дваццатыя гады, як гэта ні парадаксальна і як ні смешна гучыць на сямідзесятым годзе «панавання ўлады рабочага класа і бяднейшага сялянства». Матка ўжо слаба памятае, як зваўся мой прадзед, і я яе разумею — ён, як і матка, быў рабом некага.

Цяпер мне добра, спакойна, ані няма прыступу страху, з якім пісаў ёй ліст у дыялогах. Колькі ў мяне ўжо гэтых лістоў, няўжо я быў такі слабы, што хацеў дзяліцца страхам і з братам, і з Сяргеем? Усё ж вельмі проста кладзецца ў маю схему: вядома, яна хоча быць маёй жонкаю. Якія шляхі яна выбірае для сваіх намераў (стаць маёй жонкаю) — гэта яе клопат, а таму яе таксама можна зразумець і дараваць ёй.

Кахання ў яе няма, але няўжо ўсе і выходзяць замуж толькі па каханні? Хутчэй за ўсё, убачыўшы мае пакуты, яна ідзе не ад сябе, а ад мяне. «Я твайго кахання не хацела і не хачу, мне ад цябе нічога не трэба, — але табе трэба, ты ад гэтага пакутуеш, і я ж так сама не камень. Калі сапраўды ўсё так, як ты даказваеш і паказваеш, скажы ці хоць паабяцай, што мы пажэнімся. І ўсё будзе, як ты хочаш».

Як на маім месцы думаў бы нармальны, незаблытаны чалавек:

1) калі мы пажэнімся, дык што ў нас будзе за жыццё, калі яна ўвесь час націскае: «Я гэтага не хацела і не хачу, але калі ўжо так склалася...»

2) трэба не крыўдзіць яе больш, але і не сустракацца.

Ужо ні ў што не веру — ніколі я не скончу гэта нейкай логікаю! Калі ёй самой гэта надакучыць? Калі ўжо яна, плюнуўшы на ўсё, альбо скажа, каб больш не прыходзіў, альбо... Ні тое, ні тое! Сёння сніўся страшны сон: яна ляжала з Сяргеем на вялізным ложку, прыціскалася да яго, ён цалаваў яе, а яна, сонная, паўжывая ад шчасця, так ужо цалавала яго і абдымала! Было гэта ў нейкім маленькім мястэчку, у вялікай кватэры на шмат пакояў. Прыляцелі мы туды чамусьці самалётам...

***20.5.87***

Да якога ачмурэння і ідыятызму можа давесці ўсё гэта! Як смешна, горка і сорамна перачытваць ранейшыя запісы! Чатыры з паловай месяцы жыць пад нейкім гіпнозам, пакутаваць — ад чаго? Я памыліўся — ёй зусім не трэба нічыйго шкадавання, гэта кончаны чалавек. Нічога жаночага ў ёй няма і блізка. Як не хочацца ўспамінаць усяго, а ўспамінаць трэба, бо тое, што адбылося, будзе мне добрым урокам. Вось лагічная нітка тыповых яе паводзін: перад тым, як ехаць у Кушляны, прапанаваў ёй выйсці замуж. Яна згадзілася. У Кушлянах сыходзяць разам з Міцурам — гадзіны ў дзве з'явіліся, невядома адкуль.

Яна зусім свядома рабіла гэта. Яна не магла не ведаць, што так не робіць ні

адна жанчына ці дзяўчына.

Накірунак з гэтых часоў адзін: ні ў галаве, ні ў жыцці яе быць не павінна.

***Ліст чацвёрты***

Добры дзень, Сяргей! Збіраўся напісаць табе шчэ ўчора. Мне казаў Брусавец, што ты быў у Мінску і заходзіў, калі мы ездзілі ў Кушляны. Так і не пабачыліся, а шкада.

Гэты ліст пішу табе ў звязку са сваім папярэднім лістом, які цябе, мабыць, трохі здзівіў, заблытаў і прымусіў ставіцца да мяне насцярожана. Пісаў я той ліст у перыяд вялікай разгубленасці перад жыццём, у хвіліны слабасці. Цяпер гэтага няма. Нейк раптоўна, устаўшы раніцою, я ўсвядоміў, колькі свінства пасеяў за апошнія паўгода; аказалася, усе мае пакуты — толькі вынік сябелюбства і прагі быць вышэй за іншых. Але мяне гэта не спалохала, як раней, калі такая прага ачышчэнняў узнікала, я адганяў яе, палохаючыся, што выпраўляцца позна ўжо, дый непатрэбна, бо ўсе знаёмыя так жывуць — цяпер я не спалохаўся, а, на адварот, радаваўся, як дзіця. Я зразумеў, што ў мяне ёсць шанц вырвацца з гэтага жыцця, у якое я сам сябе загнаў. Усё ў маіх руках. Што тычыцца нашай справы, вершаскладання, металу і року і г. д. — заняткі імі ішлі не ад нейкіх духоўных парыванняў, а скіраваны былі толькі на тое, каб вылучыцца сярод астатніх людзей, узняцца над імі і карыстацца пасля іхняю павагаю. Сам сябе паступова я ўжо ў такой ступені пачаў любіць, што апошнім часам дзівіўся і раздражняўся, калі блізкія мне людзі рабілі не так, як мне хацелася. Спачатку раздражняла, а потым пачало палохаць. Пачаліся нейкія прыступы страху, што мяне любяць менш, чым я таго заслугоўваю: я стаў патрабаваць, каб мною цікавіліся. А патрабаваць нечага духоўнага — гэта, ведаеш, апошняя прыступка гонару... Вядома, што я не з усімі знаёмымі запар такое рабіў, я знай шоў чалавека, на якім у найбольшай ступені сканцэнтраваў словы і дзеянні свае дэградацыі.

Гэта агульшчына. Я памятаю, што абяцаў расказаць табе ці напісаць сапраўдную прычыну свае «хваробы», і якую значную ролю ў ёй адыграў і адыгрываеш ты. Але пачакаю, пакуль у галаве стане ясней і ўсё ўтрамбуецца. Адчуванне такое, як пасля цёмнага выходзіш на зыркае святло: бачна, што светла, але разгледзець нешта цяжка, вочы не прывыклі і скачуць паўсюль чорныя плямы.

Калі раней я лічыў сябе ніжэйшым за цябе, дык цяпер пішу як да роўнага. Упершыню за апошнія месяцы адчуў сябе чалавекам, як усе. Цяпер я ведаю выйсце, ведаю збольшага, як жыць, і ўсе адступленні ад гэтых ведаў будуць толькі весці да новых пакутаў. Мяне цягне ў гэтыя два дні да чысціні чорт ведае чаму: я мыўся з гадзіну сам, перамыў пакой, усё на свеце... (Ліст абрываецца).

***23.5.87***

Хапіла роўна на тры дні. І апусціліся рукі. Тры дні не ходзім ні я да яе, ні яна да мяне. Гэта мая нявеста, дзяўчына, якая «жыць без мяне не можа» і «гатова падпісацца пад кожным пунктам». Пункты... Быццам прайшло тры месяцы. Помню, за дзень перад Кушлянамі яна сама не вытрымала гэтай няпэўнасці і сказала:

«Скажы без сваіх філасофіяў, коратка і ясна — як мне сябе паводзіць? Дай мне якую інструкцыю, ці што, бо я бачу, што раблю табе кепска — а чым, сама не ведаю... Я, праўда, не іграю і нічога не хачу, а ты ва ўсіх маіх паводзінах шукаеш нейкае сістэмы. Што б ты хацеў пачуць ад мяне? »

«Я хацеў бы пачуць, што ты без мяне не можаш жыць, а калі мяне не пабачыш дзень, гадзіну нават — табе кепска і нечага не стае; што ты размаўляеш са мною ў думках; што ты згодна быць разам са мною цэлае лета, а ўвосень... я да цябе прыеду і мы пажэнімся».

«Я падпісваюся пад кожным пунктам».

Я перагортваю цяпер гэты сшытак і чытаю, і здаецца, што раней я дурнейшым не быў, што маё вызначэнне шчасця, некалі запісанае, правільнае. Я ж быў шчаслівы ў той дзень перад Кушлянамі, я дабіўся, па сутнасці, свайго: яна абяцалася стаць маёю і нават не на час, а на ўсё жыццё. Было спусташэнне, спакой, як у сне. Усё знікла, акрамя слоў: «Я падпісваюся пад кожным пунктам». Няўжо то й было шчасце? Яна хлусіла. Нашто? Можа, ад шкадавання, каб я супакоіўся. Восень жа яшчэ далёка, цяпер ён нічога не патрабуе — чаму б «не падпісацца пад кожным пунктам»?

Калі ж памрэ ўва мне гэты боль, колькі ён шчэ будзе мучыць мяне?! Няўжо мяне мала вучыла жыццё? Хіба я не ведаў, што шчаслівыя канцы бываюць толькі ў раманах, напісаных метадам так званага сацыялістычнага рэалізму? Няўжо дзень перад Кушлянамі і дзень там — гэта ўсё маё шчасце, якое праплыло і растала, як дым? Не, не веру, мне толькі дваццаць чатыры гады! Тады чаго ж я хаджу ўвесь час як прыбіты, як пахаваўшы самага роднага і адзінага чалавека? Няўжо я магу так моцна кахаць? І каго?

Ах, ненавісная дастаеўшчына, як я ад цябе ні бараніўся, ты даказала, што кахаць па-сапраўднаму можна не цнатлівых дзяўчынак. У цнатлівых дзяўчынак можна толькі «влюбляться», а кахаць, без памяці, толькі такіх: бесталковых, халодных, хітра-разумньгх і страшэнна, вечна незразумелых асоб лёгкіх паводзін... Не дзіва, што так душыць нейкі д'ябал: «Дурань, цяпер не вернеш, не вернеш!..»

І я думаю: сапраўды, можа здарыцца, што мяне пакахае ціхая цнатлівая дзесяцікласніца, і я яе, і мы пажэнімся, і ўсё будзе добра — але ўспыхваюць перад вачамі Кушляны, і ўсяго пачынае трэсці. Не, ніколі, я ўжо бачу і ведаю, што ніколі не спакушуся на нейкае чыстае, рамантычнае шчасце, нават калі надарыцца магчымасць такое атрымаць. Мне дваццаць чатыры гады, а што я, па сутнасці, бачыў і спазнаў?

Бойкі ў юнацтве, пазней — войска, Маскоўскі акруговы шпіталь, месяц рэанімацыі, два разы — клінічная смерць, з якой цудам выкарабкаўся. Затым — праца, п'янкі... Тыповы прадукт застойных часоў з усёй складзенай псіхалогіяй і поглядамі на рэчы. Змалку — сярод людзей, якія ўсё на свеце падавалі і тлумачылі так, як навучыла іх калдобістае жыццё. Мне хочацца схлусіць, але хлусіць нельга, а праўда тая, што блізкія мне людзі — матка, баба, дзядзькі, стрыечныя старэйшыя браты, словам, людзі, якія так ці інакш выхоўвалі мяне, не стаялі і блізка ля тых сялян-праўданосьбітаў, на якіх маліўся ў свой час Талстой. Мяне вучылі: «Крадзь, але каб не злавілі», «біся, але біся са слабейшым, ад мацнейшага ўцякай», «не чытай кніжак, бо здурнееш», «пі, але знай сваю меру», «як умееш абдурваць —

абдуры, бо самога абдураць...» Людзі самі цёмныя, забітыя, яшчэ ў шасцідзесятыя гады дваццатага стагоддзя — як прывязаныя, без пашпартоў, гаравалі і рвалі жылы немаведама на каго, і, вядома, што яны ніяк не маглі жадаць мне благога; я люблю іх усіх, але...

Але мне цікава, што такое «кепска» і што такое «добра».

А, школа! Яшчэ ж прапусціў школу. Настаўнікі былі вясковыя і гарадскія — горад быў блізка, кіламетраў за восем. Вясковыя пілі на святы, маглі за гнуць нават на ўроку ціхенька мат, вучылі зусім кепска, а галоўнае, мы, вучні, не верылі, што можна нечаму ў іх навучыцца. Пра іх хадзілі такія ж плёткі, як пра звычайных дзядзькоў і цётак. Гарадскія вучылі лепш, але не верылі і ім. Наколькі я цяпер магу асэнсаваць, ішло своеасаблівае змаганне паміж хатнімі нашымі парадкамі з гарадскімі... Вядома, ніхто спецыяльна, знарок ніякага змагання не вёў, рабілася гэта падсвядома, але я помню, як сто разоў на год пачынаў «новае, як у кніжках», жыццё, упадабаўшы паводзіны і словы гарадскіх настаўнікаў.

Помню, у сёмым класе ўвялі новы прадмет — этыку, і пасля двух урокаў мне страшна захацелася некага кахаць. Я выбраў Веру, здаровую белую дзяўчынку, спакойную троечніцу, і напісаў ёй цыдулку: «Давай кахацца». «Давай, прыходзь сёння», — адказала Вера.

Я прыйшоў, у хаце нікога не было, Вера марудна, на маіх вачах, распранулася, лягла на падлогу. «Я таксама хачу з табою кахацца», — сказала яна лежачы. Кахаліся мы дні са тры, пасля нас нечакана злавіла Верына маці. Я ўцёк дадому і яшчэ два дні баяўся хадзіць у школу — чакаў страшнага скандалу. Але мала таго што не было ніякага скандалу — не было ўвогуле нічога. Верына маці здароўкалася са мною, а Вера стала нават трохі грэбаваць — можа, ад таго, што спужаўся і так хутка адышоў ад яе.

Бываюць хвіліны, калі мяне бярэ жах за скалечаныя жыцці сваіх аднакласнікаў. Вера жыве цяпер у вёсцы, у яе двое дзяцей і няма чалавека. У дваццаць чатыры гады яна тоўстая, як дзежка, з патухлымі, некалі сінімі вачамі, з маршчынамі, з пракураным голасам — не жыве, а згасае. Яна гоніць самагонку, пра дае яе п’е сама, на вачах сваіх дзяцей б’ецца з маткаю за грошы. Пасля школы яна паехала некуды ў Жлобін, кажуць, што жыла там гады два вельмі вольна, але не ўмела сябе глядзець, дый грошай не хапала на касметычнае харошае прычындалле, перастала падабацца мужчынам і прыехала назад — да маткі. У Мінску, у вышэйшай школе міліцыі вучыцца на пракурора аднакласнік Ігар К., колісь выдатнік, ціхоня; у войску ўступіў у партыю — каб лягчэй жыць. Гэта страшны, разбэшчаны мінскімі жанчынамі цынік, тыповы кар’ерыст, які хоча займець больш улады, і я яму пры сустрэчах, перачакаўшы ягоныя аповеды пра поспехі і ўцехі, сур’ёзна кажу: «Ігар, як некалі будзеш мяне судзіць за нацыяналізм, дык хоць далёка не высылай». Смяецца: «Посмотрим! » Еxаў я са свайго горада ў вёску ў адным аўтобусе з Жанаю Д., некалі чысценькім, з каснікамі, у школънай форме стварэннем. Яна адна праявіла, помню, нечаканую ўпартасць, калі ў 1978 годзе ў нашай школе перасталі выкладаць па-беларуску. Намеснікам дырэктара стаў тады малады выпускнік педінстытута Майсей Лазаравіч Шульман: ён аб’явіў, што свае прадметы — фізіку і хімію — будзе прымаць і выкладаць толькі па-руску, падручнікі трэба купляць рускія і адказваць па-руску. За ім пацягнуліся ўсе іншыя

настаўнікі, справа была ў пачатку года, і мы за свае грошы ездзілі штодня ў горад купляць рускія падручнікі. Акрамя Жаны. Цягалі ў настаўніцкую яе самую, цягалі бацькоў, хацелі адправіць дзяўчынку да псіхічнага доктара, яна плакала і ўсё роўна не хацела перавучвацца. Памятаю, толькі пасля, калі мы, вучні, сталі смяяцца і цыкаць на яе, яна перш на перапынках, а тады паступова і на ўроках — загаварыла па-культурнаму. Тады, у аўтобусе, Жана ехала з чалавекам — мурлатым п’яным мужыком, які спаў стоячы і ўсё клаў галаву на яе плячо. Перад самай вёскай яго пачало ванітаваць — на сумкі, на падлогу. Жана пабегла да шафёра па анучу і выцірала, а ён толькі цяжка ўздыхаў і соп, відаць, не ў памяці, куды едзе і чаго едзе.

Пра астатніх аднакласнікаў нічога не ведаю, яны недзе жывуць па свеце.

А я?

У дваццаць чатыры гады хачу шчэ нешта вярнуць, шукаю нечага сапраўднага! І страхаюся — няўжо такое маленькае было маё шчасце, няўжо яно больш не вернецца?

***24.5.87***

Таня не прыходзіць.

Каб я быў празаікам, я напісаў бы пра паездку ў Кушляны выдатнае лірычнае апавяданне, і выгаварыўся б, і стала б лягчэй. Але колькі іх ужо напісана іншымі: і выдатных, і геніяльных. А поўнасцю зразумець да канца не можна ніякае. Толькі пачуцці, ніякае лірыкі, успамінай, як было, і запісвай пачуцці — ты ж пішаш сам сабе...

Былі два дні. Першы — дарога, электрычкаю і пешшу; другі — праца, Жупраны, касцёл, вогнішча... Былі: я, Міцура, Таня, Рамановіч і Віка Паскевіч — Таня за гэтыя паўгода «нацягала» яе трохі мове і пачала «далучаць да руху». Хацеў ехаць Брусавец, але, як заўсёды з ім бывае, перад самым канцом перадумаў; былі нават куплены квіткі, і ён здаў свой. Я рады, што ён такі непастаянны. Каб паехаў, дык набачыўся б, чаго не трэба. Мы, памятаю, ехалі нанач, у паўпустой электрычцы. За акном цямнелася, а ў нас на магнітафоне ціха спяваў Камоцкі: «Ну сядай, сядай са мной, калі ласка...» Мы то маўчалі, то трохі перагаворваліся па-беларуску, і пасажыры дзівіліся на нас, а нам было прыемна. Электрычка спынялася на частых станцыях, а потым бегла і бегла наперад — і гэта было вельмі добра; помню, Таня сядзела, сядзела, тады паклала мне галаву на плячо і заснула... Я думаю цяпер — калі б нешта такое пачаў расказваць мне які чалавек, я здзівіўся б банальнасці такіх казак, але калі ў мяне плыла за акном ноч, калі на маім плячы...

Як часта я ў думках і на словах ганьбаваў штосьці чужое: гэта няхораша, тое брудна, тое банальна — ганьбаваў толькі таму, што нехарошае, бруднае і банальнае было не са мной.

Вёў Міцура, ён быў родам з Гродзеншчыны. Ад нейкай станцыі ішлі, ішлі — гадзіны дзве, як не больш, прыйшлі позна ўночы. Пачалі раіцца, будзіць дзеда ці не, ці ставіць палатку? Аж выйшаў сам старэнькі дзед: «Хадземце, хадземце, тут зімно...» Ён звыкся да гасцей. Не сталі нават есці, уздоўж сцяны наклалі спальнікаў і ў адзенні пачалі масціцца.

— А я дзе лягу? — спытаў я.

— Каля мяне, дзе ж яшчэ? Ці не хочаш?

У яе так проста выйшлі гэтыя словы, што я сам здзівіўся — чаго гэта я пытаю, дзе спаць?

Я і спаў і не спаў. На падлозе — белы квадрат, свеціць месяц, Міцура храпе, Віка варочаецца з боку на бок... А яна ляжала тварам да мяне, падабраўшы пад жывот ногі ад холаду, і дыхала ціха-ціха, я цалаваў яе ледзь чутна ў валасы, у лоб, у шчаку, і яна не чула. Салаўі спявалі на ўсе Кушляны, мне хацелася спаць і ад шчасця няможна было заснуць. На досвітку пачаў кашляць дзед, я ўстаў і выйшаў на двор, дзед — следам. Знайшлася работа — зачасаць дзержакі на рыдлёўкі.

— Сякера ж у вас тупая!

— Тупая... — апраўдваўся дзед Ляпёха, — учора хворы быў, праляжаў дзень... Памру скора, так, ужо чую, што памру...

Я слухаў дзеда, а ён хваліў мяне, што рана ўстаў і так спрытна чашу тупою сякерай, слухаў і круціў у галаве цытату любімага Мележа: «Здаецца, нічога не было ў тую ноч, але ўспамін пра яе грэў пасля іх усё жыццё». Нешта такое...

А ўдзень не было калі думаць. Зрабілі процьму работы. Папілавалі сухія галіны, дрэвы, пацерабілі прысады ад нейкіх калючых кустоў, з лесу прыцягнулі па вязцы елачак і пасадзілі алею, канём з’ездзілі на сажалку па ваду і палілі іх, выцягнулі з багушэвічаўскага славутага склепа мяшкоў дзесяць гнілой бульбы... Невядома, як яна туды трапіла і чаго згніла. Ляпёха дзякаваў больш за ўсё за гэтую бульбу, што мы яе выцягнулі і тачкаю завезлі ў яму. І калі пад вечар сабраліся ісці ў Жупраны, я жыў ужо будучай ноччу. Яна будзе такая ж, як першая, нішто і ніхто ў свеце не зробіць так, што не збудуцца мае думкі, што не будзе салаўёў, яе дыхання і месячнай плямы на падлозе, думаў я.

З Жупранаў ледзь прыцягнулі ногі: сем кіламетраў туды і сем назад, без аддыху. Але было яшчэ светла. Я схадзіў у развалены хлеў, набраў жэрдачак, пасек і склаў вогнішча. На сваю галаву.

Помню добра, што яшчэ кантраляваў сябе каля вогнішча, супакойваў, што нічога страшнага, калі Таня стала ззаду Міцуры, які сядзеў на зямлі і глядзеў у агонь, і паклала яму рукі на плечы. Не, брашу — ужо тады нешта пачалося? Але ж я не ідыёт. Не буду ж я раўнаваць дзяўчыну, калі яна два дні назад згадзілася быць маёй жонкаю, дзень назад спіць у маіх абдымках, а цяпер, можа, няўцямна, абняла чужога чалавека. Каб неяк хітрыла, дык знайшла б месца паабдымацца не ў мяне на вачах. Міцуру ўсё роўна, ён нават нездаволены, круціць галавой... Яна ж разумная, як чорт, ведае ўсе мае думкі. Можа абдымацца на маіх вачах, ведаючы, што я падумаю: «Калі нешта сур’ёзнае, дык не на маіх жа вачах». Ёй абсалютна ўсё роўна, каму класці на пляча руку. Міцура прыгажэйшы за мяне.

«Вяргейчык нікуды не дзенецца, а Міцуру я і так рэдка бачу...»

Міцуру што — не скідаць жа яе рукі... Хоць, відаць, яму няёмка, здагадваецца нешта. Віка пазірае на мяне — жанчыны здагадлівыя... Рамановіч разгроб прысак, кладзе бульбу — святы чалавек!

— Пайду спаць, — сказаў я і пазяхнуў, — ные ўсё цела.

— А бульба? — здзівіўся Міцура.

— Ай, я яе не люблю, — схлусіў я, ды так няўдала, што лепш ужо маўчаў бы.

Усе, здаецца, зразумелі і прыціхлі, а я — хочаш не хочаш — паплёўся ў хату.

Лёг, сціснуўшы зубы, узяў і заснуў. Хвілін праз дваццаць як падкінула нешта, усхапіўся, перавярнуўся на жывот і так ляжаў. Вось і Віка прыйшла, мосціцца побач, але не ўшчыльную, пакідае месца. Ах, разумніца Віка, каб ты ведала, як цяжка! Рамановіч накурыўся, кашляе ціха, у кулак, чуваць, як Ляпёха стогне і гаворыць сам з сабою... Калі ж гэта скончыцца? Ну дзе яна? Гэта невыносна... хоць ты ідзі шукаць! Раз, два, тры, чатыры, пяць...

Я далічыў да ста, пачаў спачатку і на «восемдзесят два» пачуў ціхія крокі і своеасаблівы, перарывісты шэпт, якім шэпчуць людзі, калі шмат смяяліся і вымушаны трымаць у сабе яшчэ смех. Пачалася валтузня, шэпт, шэпт, вось пырснуў стоены смех...

— Дайце хоць дзеду паспаць, якой вы халеры... — азваўся сонны Рамановіч.

Сціхлі. Месца каля мяне — пустое. Сэрца раптам замерла, пасля быццам упала ўніз і падскочыла аж да глоткі — раз, другі! Каб не крыкнуць, я ўскочыў і дрыготкімі рукамі абуў красоўкі... Нашто? Куды? На двор, цыгарэту, хутчэй, хутчэй! Вобмацкам, выцягнуўшы наперад руку, прайшоў цераз тры пакоі, выбраўся на доўгі высокі ганак, сеў на дошкі і запаліў... Канец? Але нехта ідзе... Усіх ненавіджу!

— Валодзя, ты што?

Таня стаяла за метр ад мяне, але было так цёмна, што я чуў толькі голас і нічога не бачыў.

— Чаго ты легла не са мною? — ледзь прашаптаў я. — Што я табе кепскага зрабіў?

— Як жа з табою трэба асцярожна!

Мяне і так усяго трэсла. Яе словы — не сэнс, а толькі гукі голасу — быццам разагнулі ўва мне нейкую спружыну. Слёзы сыпаліся як боб, намачылі цыгарэту. Патухла і гэтая светлая кропка. Упершыню я плакаў перад дзяўчынаю! Нейкі нечалавечы страх — ніколі ў жыцці я так не прывязваўся да чалавека, ніколі нікога не было так жахліва траціць.

— Родненькі мой, мілы, прабач мне, міленькі... — спалоханая, яна абдымала і цалавала мяне, ды так асцярожна! Яе ўжо самую пачынала трэсці.

Я пакрысе супакоіўся, мы асцярожна прабраліся ў хату. Таня, памятаю, лягла побач, моцна прыціснулася, узяла маю далонь і паклала сабе пад галаву. Так і заснулі.

***25.5.87***

Назаўтра было няёмка. Я адчуваў сябе вінаватым. Яна была злосная, што я напужаў яе нізавошта.

— Мы з табою пасля пагаворым. Яшчэ адзін такі канцэрт, і цярпенне маё лопне.

— Я сам больш не хачу. Давай больш не сустракацца?

— Як хочаш.

***16.5.87***

Мне не было так страшна ніколі. Чаму яна зімою не сказала, што не кахае мяне? Яна не магла не ведаць, што не кахае. Ці яна кахала? Але нашто згаджацца выходзіць замуж, каб праз дзень рабіць абы-што?

«Когда кого любишь, никакими силами никто не заставит тебя верить, что может не любить тот, кого ты любишь». Бунін. Нічога не магу чытаць, ва ўсім бачацца толькі нейкія аналогіі.

«Есть, брат, женские души, которые вечно томятся какой-то печальной жаждой любви и которые от этого от самого никогда и никого не любят. Есть такие — и как судить их за всю их бессердечность, лживость, мечты о сцене, о собственном автомобиле, о пикниках на яхтах, о каком-нибудь спортсмене, раздирающем свои сальные от фиксатуара волосы на прямой ряд? Кто их разгадает?» Бунін. Няўжо толькі знешнасцъ? Ці ёсць што-небудзь страшней за тое, калі гаворыш жанчыне розныя словы, і яна халодная, а ты ведаеш, што, калі б нават адну дзесятую гэтых слоў сказаў ёй чалавек трошкі прыгажэйшы за цябе, яна б растала і пайшла б за ім на край свету? У Гарэцкага ёсць абразок: чалавек вярнуўся з вайны, а ў хаце — байструк. Жонка плача, валяецца каля ног, ён сам плача, бо любіць яе — сапраўды страшна! Ідэя ў абразку яшчэ і ў тым, што жаночая здрада страшней за вайну, за смерць — гэты салдат на вайне так не мучыўся! Але, я па сабе мяркую, калі б гэта каля маіх ног валялася жанчына, якая здрадзіла, я дараваў бы ёй семдзесят сем здрадаў.

Справа ў тым, што не дужа часта пасля здрады спяшаюцца яны валіцца ў ногі.

«Честное слово, этот мир без Хозяина!» — Махамад Алі Джамальзадэ, іранскі пісьменнік.

***29.5.87***

Добры дзень, Танечка! Пішу гэты ліст сам да сябе, хоць перад вачыма — ты. Ужо дзевяць дзён, як мы не бачыліся. Ужо ты, мабыць, і не прыйдзеш. Я — таксама, і не таму, што не хачу, а таму, што разумею: пры такім, як цяпер, становішчы нам абаім лягчэй.

Як ні мала дзевяць дзён, але й гэты тэрмін дае магчымасць рабіць нейкія высновы. Для мяне гэтыя высновы вельмі нярадасныя. І ніводзін чалавек мяне не зразумее. Ты мне бліжэй за ўсіх, ты, здаецца, больш за ўсіх мяне разумееш і шкадуеш, таму табе ўсё гэта я і пішу. Я мог бы прыйсці і сказаць гэта вусна, але табе будзе цяжка слухаць. Ты не ведацьмеш, што рабіць, будзеш і шкадаваць, і хацець памагчы, і злавацца на мяне яшчэ больш, бо памагчы ты ніяк не зможаш.

Не буду аналізаваць, як у нас гэтае каханне пачыналася, дзе я рабіў памылкі — усё цяпер не важна. Я пытаўся ў знаёмых дзяўчат, ці можна разбурыць каханне? З іх заблытаных адказаў я зразумеў, што — не і яшчэ раз не. Справа зусім не ў маіх дзеяннях і не ў памылках. Я паспрабую сабраць тыя сімптомы, што ёсць, і вызначыць дыягназ. Маё жыццё ў гэтыя паўгода — ненармальны чалавечы стан. Прычына ненар мальнасці — не гэтак, можа, ты, Таня. Ты проста падвярнулася ў гэтай дэпрэсіі пад гарачую руку. Ненармальнасць майго стану заключаецца ў чаканні нейкай вялікай бяды, якая са мной здарыцца. Гэта можа быць альбо смерць

фізічная, свая ці пры якіх абставінах, альбо духоўная — я звар'яцею. Прадчуванне гэтае, хацела ты таго ці не, умацавалася яшчэ і тваімі дзеяннямі, паводзінамі.

Пра маю будучыню ты прыкладна здагадвалася, маеш уяўленне. Але ты, Танечка, нават не здагадваешся, якой гэта будучыня ўяўляецца мне. У мяне яе проста не будзе. Кожную хвіліну душыць адчуванне свае непаўнавартасці: раней, да таго, як ты згадзілася стаць маёю жнкаю, было не так. Цяпер нашмат цяжэй. Я бачу, што раблюся як стары хворы чалавек, са мною цяжка іншым, а табе — асабліва, бо я больш за ўсё бываю з табой. Было б паўбяды, каб мая «хвароба» працякала незаўважна, а то ж я сам усё разумею і бачу. Ты ўжо заўважыла, як палярна мяняецца мой настрой.

Усё гэта з'явілася ў апошні час, раней не было. Мяне гэта палохае. Няма веры, што пройдзе час і нешта там нармалізуецца. Наадварот, здаецца, крызіс мой хоць і марудна, з перапынкамі, але ўзрастае. Не ведаю, чым скончыцца, але чакаю смерці.

Паміраюць малыя дзеці, дзяўчынкі ў семнаццаць гадоў, паміраюць, гінуць, забіваюцца хлопцы, якіх ні разу не цалавалі. Я гэта ведаю і мяркую, што прырода ці Бог у выпадку са мною не робяць злачынства. Але мне горка, часам жахліва. Я быццам патрапіў у дрыгву, якая марудна мяне цягне ўніз. Я вырываюся, кідаюся з боку ў бок, хапаюся то за літаратуру, то за каханне, то за ўрокі, але Нешта дае мне забыцца толькі на кароценькі час. І я зноў успамінаю — дрыгва, будучыні няма! І ўсмоктваюся шчэ глыбей.

Каму можа быць цікава з чалавекам, які думае і прыгнечаны толькі адным? Як я ні стараюся пераключыцца, усё роўна нешта выліваецца. Не толькі ты, а нават такі далёкі мне духоўна чалавек, як Брусавец, заўважыў, што са мной не тое.

Доўгі час я баяўся гэтых думак, стараўся іх не заўважаць. Але яны самі неяк выплылі...

***9.6.87***

Памірыліся, але лепш бы ўжо было як было. Я прыйшоў, сказаў, што не магу быць адзін, яна холадна пацалавала мяне — і ўсё. Што там было ў Кушлянах у яе з Міцурам? Ніхто не ведае, а Міцура змяніўся: стаў хмурым, сярдзітым і нейкім няшчырым са мною. Ён яшчэ не ведае, што з ім такое. Хлопчык, хлопчык, я табе не зайздрошчу! Хоць у цябе, вядома, будзе ўсё добра — здагадаешся і лёгка зробіш тое, чаго ўжо ніколі не зрабіць мне.

Таня цяпер якраз такая, калі ведае, што ўсё выдатна, усе яе любяць, а далей будзе шчэ лепей.

***23.6.87***

Чатыры гадзіны ночы. Брусавец спіць, а я пішу. Ведаю, што, калі зараз лягу ў ложак і выключу святло, пачнецца прыпадак страху. Адзіны паратунак — папера, пісаць. Навошта? Не думаць, я ж вар'ят. Усё складанае проста, ад вялікага да смешнага адзін крок. Аказваецца, паўгода я быў вар'ятам. Замест таго каб самому лячыцца, патрабаваў ад Тані, каб і яна звар' яцела, зраўнялася са мною. Ніякага

іншага тлумачэння больш няма. Як мне ўдавалася абдурнаць столькі часу і выкладчыкаў, і сяброў, і матку, прыкідваючыся разумным? Хоць што — лішні доказ. Дзе хто бачыў вар'ята, які прызнаецца? Гэтак жа і вар'яцеюць: перш нікому не кажуць, што вар'яты, жывуць, нешта сваё вар'яцкае робяць і хочуць рабіць, за ўсё хапаюцца, потым злосць, неразуменне, што нічога не выходзіць...

Трэба сабраць неяк у адно рэшткі свайго хворага розуму і пратрымацца хоць гэтую ноч. Заўтра — да псіхіятра, трэба не забыць сабрацца збольшага, бо наўрад ці адтуль вярнуся. Дый самому не хочацца. «Свет — гэта чорны ўзрушаны вір, а я ў ім — нябачны, маленькі вандроўнік». Калі чалавек сядзіць у турме ці на высылцы і ведае, што сядзіць ні за што, ён хоць бачыць і ведае сваіх непасрэдных катаў: наглядчыка ці там каго. Яго становішча так ці інакш залежыць ад волі нечага канкрэтнага. Маё становішча залежыць толькі мо ад якога д'ябла. Шкада, што я вар' ят, і шкада, што нікому не трэба мае доказы — а даказаў бы я лёгка...

Трэба не няволіць сябе, пісаць, як лягчэй. Пісаць ЁЙ. Усе апошнія запісы, па сутнасці, размовы з ёю на паперы.

Добрай раніцы, мая Танечка! Я ў лісце буду тлумачыць табе сваю віну — не таму, каб апраўдацца, а каб ты пасля мяне верыла людзям. Словы, якія я сёння табе нагаварыў, я ніколі-ніколі не трымаў у галаве. Я ўзнаўлю ўсе сягоняшнія свае і твае дзеянні, і ты зразумееш, чаго я такое казаў.

Я купляў у кіёску на рагу газету, а вы з Вікай выйшлі неяк нечакана і неслі ўдзвюх вялікую гаспадарчую сумку. Ты кіўнула... і пайшла, нават Віка здзівілася, пацягнула за сумку. Тады ўжо ты вымушана была спыніцца. Усё так супадала з маімі думкамі!

Я ўзяў сумку, мы, пакуль ішлі, трохі гаварылі пра ўсё і ні пра што (калі мы не адныя, табе лягчэй), і так зайшлі ў ваш пакой. Ты спалохалася, калі добрая здагадлівая Віка адразу ж некуды сышла; пачала разбіраць сумку, прынесла вады і пачала мыць і рэзаць куру, быццам гэта абавязкова было рабіць цяпер, у дванаццаць гадзін дня. Ніколі ў такі час ты не гатавала ніякіх кураў і ўвогуле абедаў. У цябе былі чырвоныя, у крыві і ў курыных вантробах, рукі, мне здаецца, ты сама гідавала і знарок, на маіх вачах, рэзала яе, каб не абдымацца такімі рукамі. Я моўчкі ўзяў ліст паперы, асадку і пачаў пісаць:

«Таня! Перад Кушлянамі ты пыталася: як я ўяўляю сабе нашую жаніцьбу і як мы будзем жыць у розных месцах? Цяпер, абдумаўшы ўсё як мае быць, я на іх адкажу. Намеры мае жаніцца не тое што не зменшыліся — я не ўяўляю сабе жыцця без цябе. Я пераканаўся, што пачуццё маё не глупства, не гульня, а сапраўднае каханне, якое раней ні да адной дзяўчыны я не адчуваў. Мне хапала маленечкага непарадку ў адзенні альбо, напрыклад, рукі, вымазанай кураю, — і ўсё, нічога не ўспаміналася, акрамя гэтага. Цябе за такія дэталі я кахаю яшчэ больш, бо яны неяк робяць цябе больш даступнаю. Гэта такі доўгі ўступ, а непа срэдна вось што:

Як я сабе гэта ўяўляю?

Лета праводзім разам у будатрадзе, калі выйдзе. Ці — ты едзеш дадому, я — у будатрад, і перапісваемся. Восенню пішаш мне ліст, я прыязджаю, і мы жэнімся.

Як будзем жыць?

Я буду ездзіць да цябе кожны выхадны, вакацыі і святы — разам.

На якія сродкі?

Нeяк раней матка паклала мне на кніжку тысячу рублёў. Хоць на нейкі час іх хопіць. Мне абяцалі работу пасля лекцый — рублёў на восемдзесят, плюс шэсцьдзесят павышаная стыпендыя, плюс рублёў сорак шле матка. Калі атрымаецца з работаю, будзе сто восемдзесят рублёў на месяц, і можна будзе жыць.

На што я спадзяюся?

Можа, як мы пажэнімся, ты зменіш трохі свае паводзіны і станеш да мяне ласкавейшай.

Чаго я баюся?

Усіх афіцыйных фармальнасцяў, звязаных з жаніцьбаю; баюся, што зраблю што-небудзь не так і табе будзе за мяне сорамна. Але калі трэба, я згодзен на любую фармальнасць.

Што я табе абяцаю?

Поўную волю, калі табе нешта ўва мне не спадабаецца альбо ты знойдзеш чалавека, якога больш палюбіш, чым мяне — у цябе астаецца поўная воля».

Ты выцерла рукі, стала чытаць паперыну. Я сачыў за тваім тварам і ўсё больш жахаўся. Не таму, што чытаў на ім насмешку ці пахвальбу, а таму, што нічога не чытаў.

— Навошта ты лічыш грошы, смешны... Хм... Вось якраз воля замужам трэба мне меней за ўсё. Як жа мы будзем жыць, калі я буду чакаць Каханага чалавека?

— Дык пакахай мяне — навошта чакаць?

— Я ўвечары скажу табе, добра? Ідзі павучы пакуль іспыт...

Зусім не так, як было перад Кушлянамі! Страшна, калі ты знайшла ў той пісаніне толькі яшчэ адну спробу зрабіць тое, што і Сяргей некалі.

Я вярнуўся ў пакой, лёг на ложак і глядзеў у столь. Побач валялася кніжка, не хацелася на яе глядзець. Прайшло гадзіны тры, тады пастукалі ў дзверы, і ты зайшла — роўна на тры хвіліны.

— А, ты вучыш? Я думала, ён тут мучыцца, думае, а ён вучыць! Ну, вучы і заходзь да мяне, а яшчэ лепш — заходзь заўтра.

— Пачакай.

— Не, пабягу — там справы...

І пабегла. Заўтра — каб не псаваць мне настрой перад экзаменам. Я ўзяў куртку, пайшоў на двор, на выхадзе зірнуў у люстра — так і ёсць, белы як сцяна. Усё знаёмае зараз наваліцца — і няма ратунку, фініш. Я павярнуўся, бягом забег на твой паверх і без стуку ўвайшоў. Ты была адна, сядзела за сталом і перабірала кіпу старых лістоў. Гэта і ёсць «важныя справы», але хай: галоўнае, я падышоў, сеў насупраць — і ўсе страхі адышлі без следу. Як гіпноз. Як п’яніцу з пахмелля трэба гарэлка, так мне трэба яе бачыць увесь час.

— Куды ты ўжо сабраўся?

— Так, гуляць. (Які я, мабыць, быў смешны! Ты ж мяне бачыш усяго як шклянога). Што, Таня?

— Вось што, Вяргейчык. Хай да восені будзе так, як ты напісаў, а там пабачым.

— Па тваім голасе, мусіць, трэба разумець: ні да восені, ні пасля восені гэта немагчыма.

— Час пакажа, давай чакаць.

— Чакаць, пакуль я цябе перастану кахаць?

— Перастанеш, дык хто будзе вінаваты?

Ты ўздыхнула, склала свае лісты ў шафу, лягла на ложак. Зноў — ноч за акном, мы — удваіх, паўгода ў жыцці як і не было.

— Таня, няўжо табе не будзе сорамна? Вось ты паедзеш, выйдзеш замуж. Па Фрэйду ўсялякае каханне цягнецца не больш двух з паловаю гадоў; пройдуць гэтыя два з паловаю гады, і табе, і чалавеку будзе брыдка спаць разам, а трэба будзе. Няўжо ты не ўспомніш і не зразумееш, што так, як ты робіш цяпер, не робіцца? Дык гэта ў лепшым выпадку, а калі ты не выйдзеш хутка замуж? Усё роўна ж знойдзецца чалавек — не такі, як я, не будзе табе баяць казкі... Ён будзе табе падабацца, і ты хочаш не хочаш... Няўжо ты не ўспомніш мяне і гэтыя паўгода?

— Хутчэй за ўсё, так яно і будзе. Я ведаю, што вяду сябе жорстка, але інакш не магу.

— Нічога не разумею!

Прыйшла Віка, села побач з табою. Мінуліся часы, калі ты хоць знешне хавала радасць, калі заходзіў хто трэці. Цяпер ты ззяеш — не будзе ж Вяргейчык гаварыць пры ёй! Назло буду. Ух, як я люблю такія хвіліны, калі злосць сядзіць, здаецца, нават у каленях і тыя пачынаюць уздрыгваць!

— Віка, у цябе хлопец ёсць? — пытаю я.

— Ёсць.

— А хутка вы пажэніцеся?

— Не ведаю, ён пакуль маўчыць, — чырванее няхітрая Віка.

Ты здагадалася, табе не хочацца, каб я пытаўся далей. Табе хочацца перавесці размову, але ж ты разумная і хітрая і здагадаешся, што я здагадаўся. Ты не толькі не перавядзеш яе, а актыўна яе падтрымаеш. Зараз скажаш: «Вяргейчык чаму пытае?..»

— Справа ў тым, Віка, — смеючыся, кажаш ты, — што Вяргейчык зрабіў мне прапанову. Я сказала, каб пачакаць да восені. Не ведаю, чаго ён пакрыўдзіўся. Ён у цябе, знаеш, чаму пытае? Думае, што на прапановы выйсці замуж бывае нейкая адмысловая рэакцыя, не такая, як у мяне.

— Усё гэта не зусім так, Віка, — пачынаю ўжо я, — а справа ў тым, што з пэўнага часу я стаў заўважаць, што захварэў. Усе свае дзеянні я раблю як у нейкім страшным сне і ўсё не магу прачнуцца. Нармальны чалавек не можа кахаць дзяўчыну, ведаючы, што яна была і збіраецца яшчэ быць з рознымі людзьмі; гэтак сама не можна ўявіць сабе з ёю жаніцца, бо калі яна не выкіне фокус у дзень вяселля, дык выкіне ў самым хуткім часе. Можа, я ўтрырую...

— Добра, я кепская, я прастытутка — дык не кахай мяне такую! Я аднаго не разумею — хто вінаваты?

— Каб я мог, я даўно цябе не кахаў бы.

— У такім разе, ты сапраўды хворы, але я, прабач, не доктар.

Я ўстаў. Бедная Віка, відаць, ніколі не чула і не ведала, што пра такое можна гаварыць так, і не падымала вачэй. А ты толькі пасміхалася, і ўсмешка была злосная, адчайная, як у мацнейшага, якога стукнуў слабейшы...

(5 гадзін раніцы, выходзіў пакурыць і цяпер дапісваю).

— Сядай, чаго ты ўсхапіўся? Слухай, ты нагаварыў цяпер, што я сама нічога

не разумею. Можа, сапраўды я якая ведзьма? Я ўжо сама сябе не ведаю. Вяргейчык, а калі даб'ешся свайго, хвароба твая пройдзе?

— Я не ведаю. Але буду шчыры: мне здаецца, яна амаль пройдзе.

— Віка, выйдзі, калі ласка, на паўгадзіны. Толькі на паўгадзінн, чуеш?

Віка зачырванелася, як мак, засмяялася і выйшла. Ты трохі пасунулася: «Лажыся». Я пакорна сеў побач, прыўзняў тваю галаву і пацалаваў.

— Вяргейчык, — адварочваючыся, сказала ты, — нашто нам жаніцца? Я сапраўды цябе не кахаю; я не ведаю, як буду весці сябе замужам. Глядзі, каб пасля не было шчэ горш.

— Як жа ты... згаджалася?

— Думала, што зраблю ўсё, каб ты не заўважыў. Я, можа, шчэ і зраблю, можа, прыйдзе час, калі скажу: «Я даўно цябе кахала, даўно хацела выйсці за цябе замуж», але гэта будзе няпраўда. Ну, чаму цяпер не прыгон?! Хай бы за каго бацька аддаў, за таго й пайшла...

— Можа, калі мы пажывём разам, ты пакахаеш мяне?

— Не. Ніколі. Я ўжо бачу.

Колькі секунд ува мне бунтаваў фальшывы інстынкт, якому я падпарадкоўваўся. Інстынкт бунтаваў: трэба ўстаць, усміхнуцца і сказаць: «Ну, бывай!» альбо: «Што ж, ад гэтага ніхто не паміраў. Бывай». Але я ўпаў тварам у падушку і затросся ў плачы. Каму трэба мой гонар, калі прагучала слова «ніколі»!

— Але ж я не каменная... Я шкадую цябе! Ты столькі мяне дабіваўся — вось я твая. Дваццаць хвілін рабі са мною што хочаш.

Мяне трэсла, як у Кушлянах. Я аберуч схапіў тваю далонь, прыціснуўся да яе лбом, пасля глянуў — ты заплюшчыла вочы. Я рвануў уніз маланку твайго швэдара... Усё. Ты ўскочыла на калені і адкінула маю руку.

Тады я апусціўся каля ложка на калені і ціха і сур'ёзна сказаў:

— Танечка, памажы мне...

— Значыць, праўда? Значыць, праўда, ты ідзеш на ўсё толькі з-за некалькіх хвілін? Праўда? Каб ты ведаў, як я цяпер цябе ненавіджу! І раней, калі хацелася сказаць адно, а трэба было іграць, казаць другое...

Я падняўся і сеў на крэсла. Ты адышлася да шафы і стала там — відаць, я добра быў страшны.

— Ты проста баба... Жорсткая і злая баба...

Ты ўсміхалася. Я бачыў, што ты чакала гэтых слоў ужо даўно, яны табе трэба, каб апраўдацца за нешта перад сабой. Хай.

— А цяпер выйдзі. І ніколі больш не смей прыходзіць.

***24 чэрвеня, 10 гадзін раніцы***

Здаў іспыт на «чатыры». Моўчкі пасядзеў, пакруціў у пальцах білет. «Не ведаеце?» — «Я захварэў». — «Ідзіце, чатыры». На калідоры сустрэў Рамановіча, ён падбег:

— Дзе Міцура?

— Адкуль я ведаю!

— Ён жа ходзіць да Мяцельскай, мо ты дзе бачыў у інтэрнаце?

— Хіба ён з ёю?..

— Мо разы тры ці чатыры. Дзіўна, што ты не ведаеш, але ты ж не заходзіў у апошні час да Мяцельскай.

— Я хварэў. А дзе ж... Віка была?

— Ну, пэўна ж, выходзіла. Я адзін раз толькі быў у яе з Міцурам, пасядзелі гадзін да дванаццаці, і Мяцельская сказала: «А цяпер — спаць». Віка пайшла наверх, я дадому, а Міцура застаўся.

— А-а.

***25.6.87***

Таптаўся перад дзвярыма псіхіятра і ўспамінаў Талстога: «Было дело до жида, и я дожидался». Чортавая памяць — нават звар'яцелы, я помню слова ў слова цэлыя абзацы і старонкі чытанай даўным-даўно класікі.

«Што ў вас?» — спытала жанчына-псіхіятр.

«Не ведаю. Я пакахаў дзяўчыну, а яна мяне — не. І я ўжо паўгода не магу зразумець чаму».

«Вы ведаеце, колькі такіх выпадкаў па свеце?»

«Ведаю, чаму я да вас і прыйшоў. Па ідэі, у кожным такім выпадку павінен быць вар'ят. Хіба можна зразумець, калі цябе ненавідзяць за тое, што ты кахаеш?»

«У чым канкрэтна выяўляецца ваша хвароба?»

«Мне ўвесь час, і днём і ноччу, страшна, амаль жахліва. Ні адну з'яву не магу ацаніць так, як раней».

«Напрыклад?»

«Напрыклад, я сядаю есці. А нашто? Каб жыць. А нашто? Каб не памерці. А каму трэба, каб ты не паміраў? Вось усе пытанні і адказы, і мне робіцца гідка нават пазіраць на яду. Тое ж са сном, тое ж з вучобай...»

«Як вы вучыцеся?»

«На чатыры і пяць».

«Вось што: ваша хвароба завецца «функцыянальнае расстройства нервовай сістэмы». Яна ў тых ці іншых памерах бывае ў кожнага чалавека. Раней дваране лячыліся тым, што мянялі формы жыцця, ездзілі за мяжу, на воды... Я магу выпісаць вам снатворнае, а ва ўсім іншым вы самі павінны разабрацца лепш, чым хто. Чалавек вы разумны, але, прабачце, адкуль у вас такі акцэнт?»

«Я ўжо цэлы год не гаварыў па-руску».

«Ясна», — і ўсё.

А мне сапраўды стала зразумела, што апошняе здалося ёй больш ненармальным, чым уся мая хвароба. Дваранская! Воды і заграніцы! Усё гэта мне знаёмае, мілая Раіса Аронаўна!

***Вечар, 2 ліпеня***

А цяпер, хлопчык, глядзі, як замыкаецца кола.

— Што цябе гэтак мучае?

— Тое, што я згубіў лепшую дзяўчыну, якую калі небудзь сустракаў. Яна мне

верыла, і, калі я сказаў, што кахаю, яна была шчаслівая, думаючы, што маё каханне будзе не такое, як ва ўсіх. Яна маральна была чысцейшая за мяне, а я цягнуў яе ў свой бруд.

— Я не верыў, што такая дзяўчына маральна стаіць вышэй за мяне, не верыў, што яна можа зрабіць чалавека шчаслівым.

Хлусня. Ты проста не ведаў, якое бывае шчасце. Табе здавалася, шчасце ў тым, каб зрабіць так, як зрабіў Сяргей. А яно зусім у зваротным.

— Шмат мне шчэ мучыцца?

— Невядома.

— А можна як уратавацца?

— Табе трэба ўбачыць самога сябе збоку, чужымі вачамі. Трэба даказаць самому сабе, што цябе няма за што кахаць. Тады ўсё зробіцца заканамерным і лагічным.

***10.7.87***

Здаў усе экзамены. Яна паехала. Разлічыўся з інтэрнатам і пішу, седзячы на голай сетцы. Брусавец паехаў дадому, я ездзіў на два дні — туга. Чым далей, тым горш. А як хочацца жыць, каб хто толькі ведаў! Калі ўжо я змагу глянуць на травіну, на кветку, на неба і, як у дзяцінстве, зарадавацца, што проста жыву! Калі ўжо ў вушах перастане гучаць яе голас, а перад вачамі стаяць твар, цела і ногі! Божа, калі Ты ёсць, знішчы маю памяць, і я буду жыць па Тваіх законах. Я ўжо ведаю, што такое шчасце — гэта калі нічога не хочаш. І я нічога больш не хачу — ні грошай, ні славы, ні волі, ні быць на кагосьці падобным. Хачу працаваць, як да войска, мулярам ці бетоншчыкам, хачу пасля работы вяртацца ў сваю хату да непрыгожай, добрай жонкі, а па выхадных лавіць рыбу. Хачу гаварыць так, як умею, на ўкраінска-беларуска-рускай мешанцы, каб не цягалі абы-куды з-за гэтай «няшчаснай маёй беларушчыны», як казаў некалі Гарэцкі. Толькі зрабі, Божа, каб я не хацеў нічога большага, пазбаў мяне самага страшнага ў гэтым свеце зла — хацення.

Калі мяне не прызнаюць хворым, значыць, я здаровы. Магчыма, шмат людзей адчуваюць тое ж самае, але прызвычаіліся. Магчыма, я выжыву, нават не звар'яцею. Але хто, калі і чым мне ўсё гэта акупіць? (*Канец дзённіка).*

***Мяцельская***

Я чакаў два, тры дні — Брусавец не заяўляўся, а я не ведаў, дзе ён цяпер жыве. Урэшце неяк цераз дзесятыя рукі даведаўся, што ён увогуле нідзе не жыве — ні ў нашым інтэрнаце, ні ў Мінску. Зацяжарыла ягоная дзяўчына, тым жа вечарам, калі мы разбіраліся ў Вяргейчыкавых дзённіках, яна прыехала, нарабіла плачу, і Брусавец, доўга не думаючы, напісаў заяву аб пераводзе на завочнае і паехаў з ёю дадому — здаецца, у Лоеў.

Паперы паперамі, есці яны не просяць. Цікавіцца імі мог адзін Брусавец, але і той з'ехаў, і ні слыху ні дыху. Папка ляжала ў тумбачцы, на кніжках, і, лазячы ў тумбачку па некалькі разоў на дзень, я звыкся з ёй. Здавалася, гэта так і трэба, каб

яна тут ляжала. Занесці на сметнік і выкінуць мне, як чалавеку практычнаму, і ў галаву не прыходзіла. І дачакаўся-такі выпадку ўладкаваць гэтыя паперы! Памагло, што нашыя з Вяргейчыкам прозвішчы на «В». Недзе перад Кастрычніцкімі святамі, пераглядаючы лісты і паштоўкі свае скрынкі, убачыў паштоўку — Вяргейчыку. На зваротным штэмпелі — горад Ленінград. Прачытаў: «Вяргейчык, мне вельмі кепска. Ці можна хоць што-небудзь вярнуць? Калі можна, я вельмі хачу цябе бачыць. Таня».

Людзі, людзі! Як Мяцельская апынулася ў Ленінградзе, чаго ёй кепска — можна толькі здагадвацца. Ды мяне гэта і не цікавіла. Я напісаў збольшага, што ведаў пра Вяргейчыкаву смерць, уклаў у канверт паштоўку і адаслаў па адрасе. У той жа вечар узяўся за работу, анігадкі ўрокаў на пачатку года было мала. Вечарамі, за тыдзень, перапісаў дзённік на сучасны лад (акрамя лацінкі, Вяргейчык карыстаўся дарэформавым правапісам), падабраў эпіграф, памучыўся трохі з назовам... Перш даў «Гісторыя дзіўнага кахання», а тады падумаў, падумаў і назваў гэтае пачуццё словам «хвароба» — так, як часта называў яго і сам нябожчык.

1988г.

***Апавяданні***

***У выхадныя дні***

I

У пятніцу вечарам, дачакаўшыся, калі з’ехаў дамоў у вёску сусед па пакоі, Анатоль Хальчэня сядзеў на ложку і складаў верш. За паўгадзіны ён адолеў толькі адно чатырохрадкоўе, праўда, ніштаватае:

Цяплынь жнівеньскай ночы...
Было ў вас такое, скажыце?
Я глядзеў ёй у вочы —
Васількі ў спалавелым жыце.

Перачытаўшы разоў пяць запар, што аж паблыталіся ў галаве рыфмы, Хальчэня падняўся, запаліў цыгарэту і пачаў хадзіць узад-уперад па пакоі, паплёўваючы і збіваючы на падлогу попел. «І ў каго я, цікава, пытаю: «Было ў вас такое, скажыце?» — падумаў ён. — У чытача, ці што? Вядома, што было... Рытарычнае пытанне. А сентыментальнае параўнанне вачэй з васількамі? Ці я ўжо сам да сябе прыдзіраюся?»

Каля шафы ён прыстоіў, адчыніў левую і правую палавіны і аглядзеў суседавы штаны клёш на вешалцы, брызентавую рабочую куртку і новыя кеды з беленькімі забарскамі; гэтак жа нетаропка аглядзеў трое сваіх штаноў: ваўняныя ў клеткі, джынсы, вараныя ў белыя плямы, і штаны з мяккае шэрае матэрыі, якая звалася «палавіком»; аглядзеў акуратныя польскія спартоўкі і сінія, з белымі плоскімі падэшвамі, туфлі... Раптам ён пачырванеў, асцярожна прычыніў дзверцы і вярнуўся да ложка. «Цікава, ён хіба не бачыць, што носяць другія... — падумаў ён ужо пра суседа. — Ходзіць такім вахлаком... Незразумела»,

За шэсць дзён, якія яны пражылі разам, Хальчэня так і не змог звыкнуцца з гэтым чалавекам. Увечары сусед звычайна ляжаў упоперак ложка — ногі на табурэт — і моўчкі гартаў часопісы ці чытаў газеты, а ўначы, калі тушылі святло і клаліся, доўгімі і зануднымі аповядамі не даваў Хальчэню спаць. Тут былі і вёска, і фільмы, і кнігі, і войска, і, зразумела, былое няўдалае каханне — нейкая Наташа, якая выйшла замуж, не дачакаўшыся яго з войска. Ён называў яе цяпер «дурніцай» і «шкурай барабаннай» і казаў, што яна растаптала ў ім веру «ў людзей і чэсных жэншчын».

Хальчэня быў рады, што працаваў гэты хлопец у брыгадзе бетоншчыкаў, а не з ім разам: хоць удзень ён яму не назаляў.

«Добрая асацыяцыя — васількі ў спалавелым жыце і шкура барабанная! — Хальчэня ўявіў, як бы ягоны верш чытаў сусед, пачырванеў, схапіў даўгапіс і так крамзануў накасяк па лістку, што падралася папера. — Калі ўжо й пісаць, дык, пэўна, не так!»

Яму захацелася напісаць празаічны твор, але добры, абсалютна праўдзівы, які ніхто яшчэ ніколі не пісаў. Ён узяў са стала два часопісы, якія забыў сусед, лёг упоперак ложка, паклаў ногі на табурэт, адзначыўшы, што ляжаць так усё ж няблага, і пачаў чытаць, каб павучыцца, як пішуць і думаюць сапраўдныя пісьменнікі.

II

Хальчэня, хоць і нарадзіўся і гадаваўся ў вялікім горадзе, быў усё ж, як цяпер кажуць, гарадскім толькі ў першым пакаленні. Бацькі яго былі тыповымі урбанізаванымі вяскоўцамі: маці — з Лоеўшчыны, бацька — з Мазыршчыны.

Пражыўшы багата ў Гомелі, займаючы пасаду начальніка аддзела кадраў будупраўлення, бацька ці то не хацеў, ці то папраўдзе так і не навучыўся гаварыць чыста па-гарадскому. Калі яшчэ дзе ў людзях ці на рабоце ён і стараўся ламацца па-руску, то ўжо дома, у сям'і, даваў сабе поўную волю. Бы смакуючы, з задавальненнем, ён гаварыў «дзёўка, дзядзько, муло, забуўся, знушчаўся, хай яму гор, здарову як бук» і г.д. Ён быў з'едлівы да ўсяго, чаго не разумеў: да музыкі, акрамя народных песень; да фільмаў, акрамя як пра дзяцей, да кніжак пра вайну, у якіх, як ён казаў, «восе пара пішуць адно й тое ж». Не любіў, як ні дзіўна, газет на беларускай мове, лічачы гэтую газетную мову не сапраўднаю беларускаю, а «скалечанаю», і, зрэдку чытаючы, сярдзіта казаў: «Ні па-польску, ні па-конску...» У сям'і ён трымаўся свайго вясковага парадку, які заключаўся, па-першае, у дыялектна-беларуекай мове, і, па-другое, у выхаванні сына. Анатолю дазвалялася рабіць тое, што сам бацька ў свае маладыя гады зрабіць альбо не паспеў, альбо рабіў не так, не ў поўнай меры, як хацелася. Кожныя паўгода сын адзяваўся ў новае, і не абы-якое, — з галавы да пят. Акрамя таго, ён заўсёды меў грошы «на дробныя расходы». Бацька верыў яму, ён мог прыходзіць позна ўночы ці начаваць у сяброў, не баючыся, што яму будуць чытаць мараль. Патрабавалася ад яго не шмат: не піць, не лаяцца і не пярэчыць бацьку.

Волю, што яму давалася, Хальчэня скарыстаў перш за ўсё ў вучобе. Не дужа налягаючы на кніжкі, скончыў дзесяць класаў, падаў дакументы, як і параіў бацька, у будаўнічае вучылішча, — і толькі праз год, атрымаўшы ўжо дыплом і накіраванне ў адно з мястэчкаў Брэсцкай вобласці, Хальчэня зразумеў, што волі ён практычна не толькі не мае, але што яе ў яго і не было.

Тады бацька бадай што ўпершыню адкрыўся яму. Хальчэня ўбачыў у ім не таго чалавека, да якога прывык. І здарылася гэта ў той дзень, як ён атрымаў дыплом.

Быў позні вечар. Толькі што павячэралі, папілі гарбаты з тортам, маці прыбірала са стала, бацька, седзячы на канапе, дапіваў гарбату. Хальчэня апранаўся перад трумо, меўся ісці да сябра.

— Ты б цяпер менш хадзіў, а больш падчытваў, — сказаў, назіраючы за ім, бацька. — Я сёння гаварыў з адным чалавекам. Ён паможа табе паступіць у ваеннае вучылішча.

Хальчэня не так здзівіўся, як спалохаўся. Ён зразумеў, што бацька не жартуе.

— Дзе ж ты раней быў? — няўцямна спытаў ён. — У мяне ж накіраванне...

— Наплюй ды выкінь! — засмяяўся бацька. — Скора дадуць табе новае накіраванне! Аць-два — лева!.. Аць-два — права!..

— Я не хачу, ясна? — хмура сказаў Хальчэня. Ён падышоў і сеў на канапу, побач з бацькам. — Ніколі я... не хацеў быць вайскоўцам.

— Думаеш, я хацеў быць у аддзеле кадраў? Я хацеў быць у міністрах, — усё смяяўся бацька.

Маці ціхенька прысела за стол. Ёй хацелася, каб выйшла так, як кажа муж, але разам з тым хацелася, каб і Толік трохі паспрачаўся — нямоцна, не па-

сапраўднаму, а каб паказаць сваю самастойнасць і ўрэшце скарыцца бацьку. Яна ведала, што так часта спрачаюцца ў іншых сем’ях, і такія спрэчкі нават карысныя: бацькі звычайна давольныя, што выйшла па-іхняму, а дзеці — што пярэчылі і спрачаліся, калі іх угаворвалі.

Бацька паставіў на стол парожні кубак і паклаў на сынава пляча руку.

— Давай, сынок, пагаворым, — сказаў ён. — На свеце жыць не так лёгка, як табе здаецца. Ці ты думаеш, мне лёгка было, што ўсё, што ў нас ёсць, само прыплыло ў рукі? Папытай у маткі, як мы пачыналі жыць. Думаеш, хто-небудзь нам памог? Ніхто! Тады яшчэ я падумаў, што, як той казаў, шануй здароўе, а ўсё другое купіш за грошы. Грошы я табе не шкадаваў і не пашкадую ніколі. Дзякуй Богу, табе ёсць каму памагаць. І не трэба самому сабе выдумляць клопат, яшчэ ў жытцы ўсяго хопіць. А войска дасць табе (ён пачаў загінаць пальцы) і здароўе, і грошы, і кватэру, і... Не думай, што туды дурні ідуць.

Хальчэня маўчаў, а бацька, было відаць, і не дабіваўся адказу, проста гаварыў, як бы сам сабе, пры кожным слове злёгку націскаючы на пляча рукою. Маці ўздыхнула, падперла шчаку і задумалася.

— Людзі, праўда, і цэглу з розумам кладуць, — працягваў бацька. — Яе як з розумам класці, дык будуць і грошы тыя самыя, і... хіба што не так скора. Але ж гэта хітраваць неяк трэба, умець...

— Я ж казаў, што не хачу ні хітраваць, ні быць вайскоўцам! — Хальчэня зняў з пляча бацькаву руку.

Бацька сашчапіў пальцы, абняў калена і паглядзеў чамусьці на жонку.

— Як ты не хочаш ні таго, ні другога, дык выбірай з етых двух, што лягчэй.

Хальчэню ў бацькавым голасе пачулася нейкая нерашучасць, няпэўнасць, нібы той і сам толкам не ведаў, чаго хоча. Яму раптам захацелася сказаць нешта насуперак бацьку, пацыкнуць яго:

— Так і быць — выбіраю войска. Каб нічога не рабіць.

Бацька ўздыхнуў і злёгку прытупнуў нагою, быццам паказаўшы, што яму гэта ўжо надакучыла.

— Па-твойму, ахвіцэры нічога не робяць? — спытаў ён. — Ты...

— Я лічу, — перабіў Хальчэня, ледзь стрымліваючы нецярплівую радасць, — што маршыраваць лягчэй, чым класці цэглу! Але...

— Ты ж не ўмееш ні таго, ні другога, — перабіў ужо бацька. Чамусьці яго таксама ўзяло за жывое. — Каб ты быў на што здатны, хіба я не знайшоў бы табе якое месца? Ты шчэ ў школе вучыўся, як я прыкідваў сам сабе — мо выйдзе з яго якая карысць? Мо ў інстытут яго? А тады глянуў... — Бацька недаказаў.

Маці спалохана пераводзіла вочы з мужа на сына, увесь час парывалася нешта сказаць. Хальчэня пасля бацькавых слоў перш пачырванеў, тады нават трошкі збялеў. Праўда — ён быў пасіўны; праўда — за што б ні браўся, не мог давесці да ладу; праўда — кепска вучыўся... Але ўсяму гэтаму знаходзілася апраўданне. Ён лічыў, што проста не хоча ўсур’ёз ні за што брацца, а калі захоча — усё атрымаецца.

Можа, каб бацька сказаў гэта неяк па-іншаму, без насмешкі, дык словы яго не былі б такія балючыя.

— Ты ж мой бацька, — не знайшоў нічога лепшага, як гэтыя словы, Хальчэня. — Як жа ты так гаворыш?

— Я кажу праўду, — строга сказаў той, падняўся і пайшоў да дзвярэй. Але ў парозе затрымаўся. — Не ведаю, чаго ты натапырыўся — як хочаш ехаць, дык едзь. Пакатайся. Прыедзеш, дык я заўсёды табе памагу.

Ён выйшаў, і Хальчэня крыкнуў у нустыя ўжо дзверы:

— Трэба мне твая помач!

З крыўды ён ледзь не плакаў, адвярнуўся і ў бяссіллі па-дзіцячы шморгнуў носам. Ззаду пачуліся хуткія крокі, і матчыны рукі мякка абнялі яго за шыю, паспрабавалі прыгарнуць да сябе; ён адштурхнуў іх і, ускочыўшы, прыкусіў губу. У гэты момант матчына ласка была яму непрыемная.

— Толічак, я ж невінаватая!

— А чаго ты мне не верыш? — крыкнуў Хальчэня. — Але хай — я нікуды не варты!

Ён схапіў куртку і выскачыў за дзверы.

Пакуль ішоў да сябра, думаў, што дадому цяпер не вернецца, будзе жыць па чужых кватэрах — у сяброў, у знаёмых... Карацей, выдумляў сабе ўсялякія беды, якія нібыта яго чакаюць, а мучыцца ад гэтых бедаў павінны былі, вядома ж, бацькі... Сябравы вокны былі ўжо цёмныя. Хальчэня патаптаўся трохі пад імі, змерз на халодным ветры і вярнуўся дадому.

...Месяц адпачынку, што даваўся пасля вучылішча, Хальчэня амаль не бываў дома. Бацька яго больш не чапаў, быццам і не было паміж імі ніякіх размоў, а маці вельмі любіла сына і таму адчувала сябе ў нечым вінаватаю перад ім, давала кожную раніцу грошы і шаптала: «Не слухай яго, рабі як хочаш...» Крыўда на бацьку прайшла, але Хальчэня так і не збіраўся паступаць вучыцца на афіцэра. Сяброў аднаго за другім бралі ў войска, і, утойваючы зайздрасць, ён праводзіў іх; сам, перад ад’ездам, зняўся з вайсковага ўліку і выпісаўся ў пашпартным аддзеле. Пасля вясёлых праводзікаў яму звычайна рабілася сумна, ён адзін блукаў тады па Гомелі, заходзіў часта ў парк імя Луначарскага, глядзеў на Сож, на драўляныя, амаль што вясковыя хаткі па той бок ракі. Смутак мацнеў, рабіўся соладкашчымлівы, і Хальчэню хацелася рабіць тады нешта вялікае, незвычайнае, каб не толькі бацькі, а і шматшмат людзей пабачылі, які ён таленавіты, не падобны на іншых — убачылі і здзівіліся, і ўзрадаваліся ад гэтага.

З такімі думкамі ён ад’язджаў з Гомеля.

III

«Можа, напісаць, як я пасварыўся з бацькам, як прынцыпова не захацеў паступаць па блату?» — падумаў Хальчэня, седзячы за сталом над сшыткам, у якім намаляваў ужо некалькі красачак. Але гэта было б вялікай хлуснёй, і ён выдатна адчуваў гэта. Спрачацца з бацькам прымушаў яго не прынцып, а тое, што ён не любіў вайскоўцаў, наслухаўшыся розных гісторый пра «дзядоў» і «маладых». Можа, каб бацька замест вайсковага вучылішча прапанаваў інстытут, ён бы падумаў, спрачацца ці не. Можна, вядома, выдумаць, напісаць пра абавязак перад дзяржавай, якая яго вучыла, але Хальчэня толькі кісла скрывіўся. Словы гэтыя так часта паўтараліся ў школе, у вучылішчы, на ўсіх камсамольскіх і іншых сходах, пісаліся ў газетах і зноў паўтараліся па тэлебачанні, што абсалютна, беззваротна

страцілі ўсялякі сэнс. Не хацелася пісаць Хальчэню аб спрэчцы з бацькам яшчэ і таму, што ён за гэты тыдзень на свае вочы пабачыў, што такое будоўля, што такое жыць у інтэрнаце і што такое чужы, маленькі горад з чатырма крамамі і з клубам у былым касцёле. У ягонай брыгадзе самаму маладзейшаму было сорак гадоў: людзі не любілі свае работы, працавалі, каб атрымаць кватэры, і, атрымаўшы, адразу пераходзілі на іншую, лягчэйшую работу. Нязменны быў хіба што адзін брыгадзір, які незалюбіў Хальчэню, калі даведаўся, што той — начальніцкі сын. Відаць, ён лічыў, што добрага сына ніякі начальнік на будоўлю не зашле. Хальчэня здагадваўся пра гэта, яму было непрыемна і страшэнна сумна.

Хальчэня зірнуў на гадзіннік і не паверыў: ён сядзеў ужо дзве гадзіны, а здавалася — хвілін пятнаццаць, ад сілы. За акном сцямнела. Нехта хадзіў па калідоры, пасля спыніўся, пастукаў у дзверы і ляпнуў разы з два ручкаю. Хальчэня нават не зварухнуўся, разважыўшы, што гэта ўсё роўна не да яго, а да суседа. Нешта ціха дзынкнула ў шыбіну, Хальчэня ўскочыў і, пакуль адчыняў фортку, убачыў, як ад знадворнага падаконніка зляцеў верабей. У фортку дзьмухнуў вецер, але такі цёплы, такі прыемны, які бывае толькі напачатку вясны, перад першымі навальніцамі. Неба было цёмнае, і дрэва перад акном было цёмнае, страшнаватае, яшчэ без лісця, толькі цьмяна свяціўся ліхтар за гэтым дрэвам, а далей нічога ўжо нідзе не свяцілася — інтэрнат стаяў каля самага лесу, і Хальчэнева акно выходзіла якраз на гэты лес. «Калі не развіваць сябе, не займацца чым-небудзь — я тут да восені здзічэю», — падумаў хлопец, зачыніў фортку і сеў за стол. Адзінота і гэтая невыносная вусцішнасць надалі яму рашучасці.

Ён успомніў апавяданні, якія толькі што прачытаў у часопісах, і пачаў пісаць. Адразу з сярэдзіны, бо канцоўка была ўжо ім прыдумана, і адкуль бы ён ні пачаў, усё роўна скончыў бы так, як прыдумаў. Пісалася з непрывычкі марудна, але Хальчэня быў настроены, паліў цыгарэтку і раз-пораз пасміхаўся са свае выдумкі. Ён пісаў пра вёску, а сам быў з горада; пісаў, як у вёску прыехалі дзяўчаткі сельгасатрадам, а сам ніколі не ездзіў ні сельгас-, ні якім іншым атрадам — практыка ў іхнім вучылішчы была толькі ў горадзе; пісаў, як ягоны герой пайшоў на поплаў касіць, а сам не трымаў за ўсё жыццё касы ў руках. На поплаве ён нібыта сустрэў дзяўчыну, якая збірала там кветкі і якая папрасіла навучыць яе касіць; пасля прызначыла яму спатканне, а калі ён вечарам прыбег пад бярозу, сельгасатрад паехаў у горад. Дзеля мастацкасці і таму, што нешта падобнае было ў часопісах, якія ён чытаў, Хальчэня падпусціў у апавяданне хмары, якія збіраліся цэлы дзень і абрынуліся страшэннай навальніцай у той самы час, калі герой плакаў пад бярозай. Хмары і навальніца павінны былі перадаваць псіхалагічны стан героя.

Цалкам твор быў скончаны ў дванаццаць гадзін ночы. У беднага аўтара балела галава, у роце было суха і горка ад курэння. Спаў ён зусім кепска. Некалькі разоў прачынаўся сярод ночы, быццам хто штурхаў яго, расплюшчваў вочы і глядзеў у цёмную столь, успамінаючы да драбніц, што было ўдзень.

Раніцай скрозь сон яму падалося, што зноўку нехта стукае ў дзверы і тузае ручку, але пакуль Хальчэня адышоў ад сну, пакуль падняўся, расчыніў акно, папрысядаў і ўрэшце адчыніў дзверы, нікога там ужо не было. Хальчэня вярнуўся і сеў за стол — пачытаць на свежую галаву апавяданне.

Ужо хвілін праз пяць яму стала зразумела, што перад ім — набор сказаў. Само сабой прыйшло ў галаву параўнанне з музыкам, які не можа чытаць ноты, а бярэцца за інструмент, каб зайграць нешта сур'ёзнае ці пяшчотнае. Галоўнае, здавалася, ён добра ведае і бачыць свае памылкі, але выправіць іх — не можа, не ўмее. Рабіць больш не было чаго, ісці ў гэтым мястэчку не было куды, наперадзе былі два дні... Дваццаць чатыры гадзіны.

«Што, павуяваў з бацькам?» — папытаў сам сябе Хальчэня і ледзь не заплакаў. Ён апрануўся, паволі выцягнуў з шафы вялікі плоскі чамадан і абы-як пачаў складвацца: на дно паклаў брудныя рабочыя чаравікі, зверху — тры кашулі, куртку, штаны... Апусціў рукі і сеў на ложак. У гэты момант адчыніліся дзверы — ужо без стуку, і ў пакой увайшла вахцёрка з тэлеграмай у руцэ.

— Хто Хальчэня?

— Я.

— Чаму не адчыняў? — сярдзіта сказала яна. — Тэлеграма прыйшла, а ён не адчыняе.

Хальчэня схапіў тэлеграму і прачытаў: «Толик отцом плохо».

— Бяжы на вакзал, пакуль не позна, — спагадна сказала жанчына, і ён чамусьці зразумеў яе «пакуль не позна» як «пакуль не памёр».

IV

У Гомель ён дабраўся толькі ўвечары, стомлены, напаўсонны, знерваваны таўхатнёй каля касаўд дарогаю. Ехаў з вакзала на тралейбусе, пасля — пехам, па бруднай вуліцы з калюгамі ў выбоінах асфальту, — і ўсё стараўся забыцца прыкрага здарэння на местачковым вакзале. Прамыя аўтобусы адтуль на Гомель не хадзілі, на прахадныя было толькі па два-тры месцы. Прапусціўшы два аўтобусы, Хальчэня, калі падышоў трэці, махаючы тэлеграмай, праштурхаўся да касы і закрычаў: «Мой бацька памірае!» Тады толькі прачыталі тэлеграму і далі білет без чаргі. Цяпер было сорамна свайго крыку і адначасна яшчэ больш сорамна, прыкра, што ён думае пра такую драбязу, калі, можа, бацька і сапраўды памірае.

Ён узбег па сходках, адамкнуў сваім ключом дзверы і стаў здымаць брудныя спартоўкі і мокрую куртку. Здзівіўся, што ў зале ішоў яшчэ тэлевізар, чуліся адтуль глухія частыя стрэлы і каманды на нямецкай і на рускай мовах. З залы выйшла маці. Абняла яго і ўсхліпнула ад радасці.

— Што з бацькам? — нездаволена павёў галавою сын пасля пацалункаў.

— Быў сардэчны прыступ, — прашаптала маці, быццам палохаючыся сама сваіх слоў, і выцерла вочы, — я так спужалася, Толічак...

— У больніцы?

— Не захацеў... У спальні, спіць. Ты... чым ехаў?

Хальчэня адвёў яе руку, увайшоў у спальню, стараючыся, каб выйшла як мага цішэй. Пстрыкнуў выключальнік.

Бацька ляжаў каля акна на канапе, перанесенай з Хальчэневага пакоя. Ён не спаў, моршчыўся са святла і ўсміхаўся.

— Здароў, — сказаў Хальчэня, падышоў і ўзяў бацькаву руку ў сваю. — Ведаеш, пакуль не паказаў тэлеграму касіру, не мог убіцца ў аўтобус... — Ён, сам не ведаючы чаму, гаварыў зусім не тое, што думаў. Яму хацелася сказаць, што ён зробіць усё, як хоча бацька: што працу ён згодны кінуць, што будзе паступаць у

ваеннае ці ў любое іншае вучылішча, што ён не ўмее, зусім не ўмее жыць сам... Ён паглядзеў бацьку ў вочы.

«Мне страшна, я сам нічога не ведаю», — прачытаў ён у бацькавых вачах.

— Ідзі, Толічак, паеш, — уздыхнула побач маці. Яна падаткнула бацьку пад ногі коўдру, і, зірнуўшы на гадзіннік, узяла са стала шклянку з нечым жоўтым.

У зале ўсё стралялі і ўсё крычалі па-руску і па-нямецку.

***Труцень***

I

Увечары Алена накарміла старога, цёмна-чырвонай масці коніка — Трутня, як яна яго звала, і, запрогшы ў калёсы, паехала на канюшню. Конюх Міронечык, стары ў куфайцы і без шапкі, пачысціў ужо ставок, падмайстраваў яслі і сядзеў пад сцяною і курыў. Як толькі Алена пад’ехала, ён забурчэў:

— Чаго ты іх слухала ды перла сюды гэтага каня? Яны там сядзяць-сядзяць, а тады як надумаюцца... Пабачыш, што ён прастаіць тут і нічога не будзе. Хто ім будзе вазіць тое сена? Ты зранку павязеш малако — добра, як у абед прыедзеш... Хто цябе тут будзе чакаць сядзець?

— А ты дык ужо лепш за ўсіх знаеш, як трэба рабіць.

— Знаю, бо я адзін і раблю...

Пакуль Міронечык распрагаў, Алена пакульгала ў канюшню. Канюшня была доўгая, разлічаная не менш як на пяцьдзесят коней, будыніна з вузкімі вакенцамі. Некалькі катухоў даверху былі набітыя сенам; у цёмным, процілеглым ад дзвярэй кутку буркалі галубы, адтуль несла пусткаю. Праз частыя шчылінкі з шыфернага даху сачыліся тонкія струменьчыкі святла. Коні, апусціўшы галовы і махаючы хвастамі, глядзелі на Алену, але, пачуўшы чужога каня, якога заводзіў у ставок Міронечык, занепакоіліся. Адзін раптам заіржаў, прасунуў галаву паміж агрызеных завалкаў і пачаў мыляць губамі.

— Ну! — крыкнуў Міронечык і замахнуўся кулаком. — Не здохнеш! — Паставіўшы каня, ён узяў вілкі і стаў скубаць на зямлю сена.

— Чаго яны ў цябе такія худыя, як шкілеты якія, — пашкадавала Алена коней. — Майму не кладзі — я карміла...

— Худыя... Будуць худыя, як цалюткі дзень цягаюць сена, а цалюткую ноч недзе марнуюцца, — абыякава сказаў Міронечык. — Іх жа крадуць на ноч.

— Хто?

— Гарадскія. Перш, мабыць, думалі, што ў нас паздавалі ўсіх коней, а цяпер апатрылі і панадзіліся.

— Дык чаго ты маўчыш?

— А каму я што скажу? Што ім можна зрабіць? Пасадзіць іх не пасадзіш, бо яны шчэ смаркачы, дый няма за што саджаць. Закону такога няма. Яны, з аднаго боку, быццам бы і не крадуць, як разбірацца. Пакатаюцца і адпускаюць.

Алена і верыла і не верыла. Яна ўспомніла, як адзін раз прачнулася сярэдначы і чула гіканне і конскі тупат.

— Дык пгго ж гэта, кожную ноч такое... крадуць?

— Спужалася! — засмяяўся Міронччык. — Твайго гэтага ўкрадуць, ці што, як і прыйдуць? Не кожную, не бойся... Хадзем на двор.

Яны выйшлі з канюшні. Алена расказвала, як добра ёй цяпер з гэтым канём: вясною давала яго людзям араць соткі, дык цяпер без клопату галава — і самой пааралі мужчыны, і дроў прывезлі, і сена пакасілі. Міронччык курыў, слухаў яе і чуў, як у канюшні пырхае чужы конь і чухаецца аб завалку. Хутка ён зачыніў вароты, і яны з Аленаю пайшлі дадому.

II

Міронччык, калі казаў Алене, што крадуць не кожную ноч, казаў няпраўду. Коней кралі ледзь не праз дзень ад пачатку лета — так часта, што Міронччык пакрысе і прывык да гэтага. Пакрысе, бо ў першыя дні ён баяўся канакрадаў і страшэнна шкадаваў коней. Ён хадзіў у сельсавет да ўчастковага. Участковы падумаў і сказаў, што ў прынцыпе памагчы ён мала ў чым зможа, хіба што калі сабраць мужчын і зрабіць на канакрадаў аблаву. Але, дадаў ён, калі канакрадаў і ўдасца палавіць, то невядома будзе, нгго з імі рабіць. Па-першае, крадзеж коней малалеткамі лічыцца чамусьці за забаву і няма такога артыкула, каб іх неяк сур’ёзна пакараць; па-другое, пакараць іх можна толькі цераз камісію па справах непаўналетніх, на якой з імі праводзяцца прафілактычныя гутаркі, але, як паказвае практыка, гутаркі гэтыя мала што даюць. «Я ведаю хлопцаў, — сказаў участковы, — якія былі на камісіі па сем разоў. Гэта ім як школьны сход — апусціў галаву, паслухаў — і тое, што рабіў, тое й робіць».

Для таго каб не баяцца і не шкадаваць коней, Міронччык стараўся прывыкнуць да крадзяжоў. Ён узгадваў сам сабе тое, што яму каза’лі іншыя: што коні гэта не свае, а калгасныя; што не сёння-заўтра іх здадуць на каўбасу; што чорт гэтых коней не бярэ — крадуцькрадуць, але пасля ж адпускаюць, і яны вяртаюцца. — Міронччык узгадваў гэтыя словы, і ў яго трохі менш балела душа.

Пасля таго як Алена пайшла, конюх доўга яшчэ сядзеў на перавернутай скрынцы ў каморы і пры святле моцнай лямпы падшываў і падладжваў хамуты. Пасля звязаў з трох кавалкаў адну доўгую вяроўку і, калі ўжо збіраўся дамоў, успомніў, што трэба яшчэ рубель, якім цягаюць сена ў копах. «А ён тут трэба быў на дзень ці два», — прывычна забурчаў конюх, але пайшоў у пусты цёмны куток, навобмацак выцягнуў з-пад сена старую завалку і, выцягнуўшы яе пад святло лямпачкі, пачаў выразаць нажоўкай пазы.

З двара нехта шморгнуў за дзверы — раз, другі, пасля тузанулі больш рашуча. «Адчыні, дзед, вайна даўно скончылася», — пачуў Міронччык знаёмы хлапечы голас. Ён адлажыў свой рубель і пайшоў адчыняць. У канюшню адзін за другім праціснуліся чатыры хлапчукі.

Трох Міронччык добра ведаў, а адзін, якога ён бачыў першы раз, — зусім падлетак, у кедах, спартыўных штанах і ў сіняй клетчатай кашулі, — стаў каля парога і моргаў ад лямпачкі. Ён трымаў вялікі цэлафанавы пакет з малюнкам. Два другія былі ўжо каля стаўкоў і выцягвалі завалкі. Чацвёрты падышоў і падаў конюху руку.

— Здароў, дзед! — сказаў ён і засмяяўся: — Не забыўся мяне? Добры ты дзед. Слухай, як будзеш у горадзе і будуць трэсці капейкі, скажы... Карацей, кажы мне, добра? Праходзь, Алежка, не бойся, — кіўнуў ён падлетку каля дзвярэй,

— Ай, Матрос... — збянтэжыўся Алег і падышоў бліжэй, — нічога я не баюся.

Матрос узяў ад яго пакет, перакуліў, і на зямлю пападалі новыя самаробныя вуздэчкі.

— Што, дзед, даеш нам коні? — засмяяўся Матрос, нагінаючыся і разбіраючы вуздэчкі. — Можна будзе сказаць, калі што-якое, што конюх даў пакатацца?

— Вы ж самі бераце.

— Ты ж пазаўчора даваў і ў пятніцу даваў, а сягоння ўжо дык не дасі... Хадзіце сюды! — крыкнуў ён і падняўся. — Наце вуздэчкі... Дык так, дзед, калі мяне зловяць, я скажу, што ты даваў нам кожны дзень коні, добра?

— Матрос, пабач — нейкі конь, — сказаў адзін з хлопцаў і з вуздэчкай пайшоў да стаўка каля самых дзвярэй. — Як ён тут узяўся?

Матрос падышоў таксама, цераз верх зразу пералез у ставок, абышоў вакол каня.

— Конь нягодны — капыты паразбіватыя. І жывот вісіць, — сказаў ён. — Але да горада давязе, спакойны, цярплівы, мусіць. Паедзеш, Алежка?

— Гэтага не бярыце! — крыкнуў раптам конюх, падбег і выцягнуў верхнюю завалку. — Давай вылазь адсюль! — тузануў ён Матроса за плячо, перагнуўшыся ў ставок.

Але ў той жа момант Матрос хапіў яго загрудкі і прыціснуў да завалкі, трасянуў так, што з конюха зляцела і ўпала ў гной шапка.

— Сука!..

— Кінь, Матрос! — усклікнуў нехта. — Заб’еш!

Алега быццам штурхнулі ў плечы — ён пераскочыў паўз конюха праз завалкі і аберуч схапіўся за адведзены Матросаў кулак.

— Ты што, Віця... Кінь дурня... — умольна замармытаў ён, — Я як-небудзь... Дайду.

Матрос паволі аслабіў кулак і злёгку адштурхнуў ад сябе дзеда.

— Чаго збялеў? Твае коні, ці што? — голас яго дрыжэў ад крыўды.

Збялелы, як палатно, дзед, паціраючы шыю, моўчкі пасунуўся на двор.

III

Хлопцы заварушыліся, нібы толькі цяпер, пасля здарэння з конюхам, адчулі, што робяць нешта нядобрае — такое, што пажадана рабіць і хутчэй, і моўчкі: моўчкі і хутка накінулі на коней вуздэчкі і павыводзілі іх на двор. На двары выйшла зноў замінка: натомленыя за дзень коні кружыліся, пырхалі, не слухалі седакоў і не хацелі ісці з двара. Матрос вылаяўся, саскочыў з каня, прывязаў яго да плота і бізуном секануў па нагах бліжэйшага ад сябе каня — Алегавага. Той рэзка прыпаў на заднія ногі — так, пгго рукі ў Алега разляцеліся ў бакі, ён ледзь утрымаўся — і з месца рвануў наўскач. Алег хутчэй адчуў неяк, чым убачыў перакладзіну над шуламі і паспеў цудам прыгнуцца. Конь вынес яго на вуліцу. Ззаду чуўся свіст і гіканне — відань, Матрос гнаў коні тых двух.

Прабегшы крыху, конь перайшоў на ступу, а тады і зусім стаў, нагнуўшы галаву, пачаў скубці траву.

— Но! — Алег няўмела шморгаў павады, а конь круціў сабе галавою, пазвоньваў вуздэчкаю і скуб траву. Наперадзе, праз голле вялікага саду, свяціліся агні вёскі; дарога ж на горад ішла не праз вёску — адзінае, што помніў Алег, як ішлі сюды. І тыя прапалі... Алег спачатку ціха, а потым добра свіснуў і счакаў трохі, а тады пачуў часты глухі тупат.

— Алег, ты? — пачуў ён хутка Матросаў голас і ўбачыў сілуэт каня і чалавека на ім.

— Я, — узрадавана адказаў ён. — Я ўжо думаў, вы паехалі, а мяне кінулі...

— Тыя дурні паляцелі. А я здагадаўся, што конь у вёску пабег, паехаў наўздагад — тут, чую, ты свішчаш...

Хлопцы завярнулі коней і паехалі назад да канюшні.

Дарога ішла паўз могілкі, тады началося нейкае поле. Коні ішлі па самым краі дарогі, і Алегу даводзілася штораз падымаць ногі, каб не абрасіцца. Стаяла такая ціша, што чуваць быў нават гул далёкай шашы.

— Чуеш, як у твайго каня ў жываце булькае? — азваўся Матрос. — Дзед дурны зашмат іх поіць, а гэта кепска коням. А шкода, што я не даў яму па мардасах...

Ехаць было так добра і спакойна, што Алегу захацелася шчырасці, захацелася сказаць Матросу, які той добры хлопец — такі, што нават сам не ведае... Дзіўна, але здарэнне з крыклівым конюхам, тое, што Матрос паслухаўся яго, неяк уздымала Алега ў сваіх жа вачах; разам з тым ён быў за нешта ўдзячны Матросу пасля гэтага здарэння.

— Як гэта ты насмеліўся пайсці з намі, такі мамчын сынок? — Матрос пытаўся не з насмешкаю, а з павагаю, як роўны з роўным.

— Насмеліўся, бо баяўся, — шчыра сказаў Алег, і аж яму самому стала прыемна ад свае шчырасці. — Праўда, не здзіўляйся! — усклікнуў ён, хоць у цемры і не мог бачыць, здзівіўся Матрос ці не. — Ты ж ведаеш Алу з трэцяга пад’езда? З майго класа? Я з ёю так... — Алег памяўся, — не тое каб ужо моцна любіў... Проста, ведаеш, неяк прыемна глядзець на яе. Акуратная такая... Ну, вось. Некалькі разоў спрабаваў падкаціцца і, ведаеш, ніяк... І я падумаў, дый цяпер думаю — мо яна чакае ад мяне якраз нечага такога?.. Ну, каня ўкрасці, ці што... — засмяяўся Алег.

Матрос ажывіўся:

— Не, гэта не тое! Трэба нам з табою пабіцца ў яе на вачах. Я табе паддамся, зробім так, што ты мяне паб’еш. А можна яшчэ і так...

— Слухай, чаго я цябе раней не ведаў?! — усклікнуў Алег. — Дурны, столькі я намучыўся, баючыся пазнаёміцца з табою... Ніхто гэтага не ведае. Я ж баяўся вас... ну, не такіх, як сам, як агню. Баяўся і зайздросціў, а каб не зайздросціць, выдумляў, што гэта я жыву так, як трэба, а яны — проста ні на што больш не здатныя, як курыць у пад’ездах ці піць... Я, можна сказаць, на сваёй скуры адчуў, што за такія «актывісты» і «пяцёрачнікі»... Усе, усе яны думаюць і жывуць так, як я — ведай гэта, Віця.

— Дык ты зайздросціш такім, як я? — памаўчаўшы, сказаў Матрос. — Добра, хопіць — давай наўскачкі!

— Не, я гэта, паслухай... — заспяшаўся Алег, адначасна з гэтымі словамі думаючы: «Што я кажу яму? Яму ж да лямпачкі ўсё! Ведаю, што да лямпачкі, але

ўсё роўна хачу і буду гаварыць! Зараз, каб зацікавіць яго, скажу, што жыў з ім у адным доме і не ведаў, які ЧУДоўны ён хлопец; пасля — пра Алачку, якая цяпер, пэўна, з нагамі ў крэсле сядзіць перад тэлевізарам; пасля — што кожны раз цяпер буду хадзіць з ім...»

— Можа, памяняемся коньмі? — запытаўся Матрос. — Чаго мы гэтую здыхляціну бралі?

— Не, мне добра.

— Ну, едзь паціху. Я трошкі разамнуся.

Матрос гікнуў, свіснуў сваім бузіном, і конь цяжка пабег у цемру.

Алег дагнаў яго каля самай шашы.

— Тут машыны будуць, глядзі, — папярэдзіў Матрос, пад'ехаўшы. — Трымай каня, бо паўз дарогу тут — балота. Я раз ускочыў, — успомніўшы, засмяяўся ён.

— Слухай, Віця, не падумай, што я баюся. Але што, як нас паловяць?

— Нічога. Хіба могуць выклікаць на камісію па справах непаўналетніх. Ды гэта глупства. Я быў разоў, здаецца, пяць ці то шэсць. Кепска, як конь не вернецца — во! Добра, калі ў каго бацькі багатыя, штраф заплоцяць.

Хлопцы зноў крокам паехалі паўз шашу, ужо моўчкі. І калі праязджалі паварот з нахіленымі літарай «А» слупамі, за якімі пачынаўся рэдкі нізінны лес, намяць вярнула Алегу тое, што сказаў Матрос. «У каго бацькі багатыя... Гэта ж ён пра мяне. Цікава... І чаго ён не паверыў, што я яму зайздрошчу? Я ж бачыў, што не паверыў. А ён сапраўды бедны — апранаецца горш, як усе. Як цікава — няўжо ён і мне зайздросціць? Гэта ж можа быць, што як мне незразумелае яго жыццё, так і яму — маё? Не, я пасля добра ўсё гэта абдумаю... Добра, што я пайшоў з імі...»

Роўны, прыцішаны адлегласцю гул не даў яму дадумаць. Алег прыслухаўся, азірнуўся і ўбачыў як бы ў тумане цьмяную пляміну святла, якая досыць хутка набліжалася і большала.

— Матрос! — пазваў ён ціха.

— Чую. Спакойна, — не азіраючыся, кінуў той, аднак з'ехаў з асфальту на край насыпнога вала. Ён прытрымаў каня, Алег — таксама.

— Што за чорт! — углядаючыся, устрывожыўся раптам Матрос. І калі машына, асляпіўшы іх фарамі, параўнялася, ускрыкнуў: — А-а!

Машына затармазіла так рэзка, што кінуліся ўбок коні, і ў Алегаў твар секанулі драбнюткія каменьчыкі.

— Менты!!! — звонка крыкнуў Матрос. — У лес!

Ён мог бы і не крычаць: напужаны святлом, віскам тармазоў, конь пад Алегам ляцеў, не выбіраючы дарогі... Пад капытамі нешта трашчала, чаўкала і гэтаксама трашчала і чаўкала ззаду. Матрос?.. Ці гоняцца?.. Алег ляжаў грудзямі на мокрай кастлявай шыі, якая хадзіла пад ім і муляла, і з жахам чакаў, што восьвось зляціць у гэтую цемру, у гразь, пад ногі свайму ці Матросаваму каню. Адной далонню ён закрываў вочы, а ў другой намёртва заціснуў пук грывы. Пра вуздэчку ён даўно забыўся, і павады целяпаліся недзе каля конскіх каленяў.

— ...Аве-ей! — данеслася да яго, але ён нават не паварушыўся. «Зараз я заб'юся... Зараз я заб'юся...» — скакала ў ягонай галаве, акрэслівалася нават у нейкую мелодыю, як у чалавека, што едзе цягніком...

Матрос скакаў увесь час ззаду, за Алегам, і ў думках хваліў яго за кемлівасць. Алег быццам чытаў ягоныя думкі: нацянькі прабрацца ў густы лес, паўз паплоўчык, там перачакаць і, можа, нават лесам ужо і дабірацца да горада. Але нечакана Алег рэзка ўзяў управа, а Матрос ведаў — там было балота, і вельмі проста магло здарыцца, што конь, даўшы паўз балота круг, вынесе яго зноў праменька да машыны. «Правей!» — крыкнуў ён, але ўжо ў наступны момант пачуў, як нешта цяжка бухнула на зямлю, чаўкнула, гікнула, і прыглушаны Алегаў ускрык.

«Во, чорт», — Матрос свіснуў бізуном і напралом наўздагад папёрся на тое месца.

Алег стаяў, прываліўшыся бокам да алешыны, і зацiскаў рукою правае плячо. З-пад парванае кашулі свяцілася голае цела.

— Во, чорт! — выдыхнуў узрадаваны Матрос. — Я думаў, ты ўжо халодны!

— Ай-яй, плячо!.. — прастагнаў Алег, падымаючы і апускаючы руку.

— Стукнуўся моцна? — Матрос саскочыў на мяккую балотную зямлю і пачаў мацаць таўсцейшую лазіну, каб прывязаць каня. — А дзе конь?

— Я яго, мабыць, загнаў... Вунь! — паказаў рукою Алег.

Матрос глянуў туды і тут толькі ўбачыў, што тое маўклівае і чорнае, што ён спачатку палічыў за тоўстае бервяно, і было канём.

— Загнаў... — усміхнуўся Матрос. — Што ж за конь такі, што загнаўся праз кіламетр? — Ён падышоў да маўклівага і чорнага і, намацаўшы вуздэчку, ірвануў на сябе: — Но!

Конь тузануўся наперад, але не зрабіў нават намагання падняцца. Матрос шморгнуў яшчэ разы з два і, здагадаўшыся, што тут нешта не тое, чыркнуў запалкаю. Закрываючы яе далонню, схіліўся бліжэй, сунуў другую руку каню пад жывот і ўсё зразумеў: пярэдняя нага моцна сядзела паміж тоўстымі каранямі магутнай балотнай алешыны. Доўгія карані адыходзілі ад ствала ва ўсе бакі і, здавалася, прыпадымалі алешыну над зямлёю.

Падышоў Алег і таксама нагнуўся, каб глянуць, але запалка патухла. Матрос падзьмухаў на пальцы.

— Што? — прашаптаў Алег.

— Нагу ў карані ўпёр... Рабі цяпер што хочаш. Сам не вылезе, а пакінем — здохне к чорту... Тады ўжо іменна — чысты крадзеж! Я ж табе крычаў «управа».

— Здохне? І... што? — Алег нават забыўся на боль у плячы. — «Турма? Ці калонія?» — халадзеючы, падумаў ён.

— Штраф, што! — Матрос плюнуў. — Упякуць рублёў па дзвесце! Ён жывы рубля не варты, а здохлага ацэняць як залатога, не бойся!.. Выламай галузіну і аперажы добра! — распарадзіўся ён. — Ці бізун там недзе пад лазою...

Алег вобмацкам, хапаючыся, выламаў маладую алешыну і, пакуль церабіў, ліхаманкава перабіраў у думках: «Штаны — сто дваццаць рублёў, куртка — сто, спартоўкі, туфлі, магнітафон чатырыста рублёў...» За тыя рэчы, якія ён насіў на сабе і якімі была завалена кватэра, яго пакой, бацькі, калі верыць Матросу, што за каня запатрабуюць чатырыста рублёў, заплацілі як за некалькі коней. Алегу стала лягчэй — ён не сумняваўся, што, як прыпячэ, яны заплоцяць не толькі чатырыста, але й яшчэ шмат-шмат грошай... Толькі няўжо прыпячэ, няўжо такое будзе?

Алег нерашуча падступіўся да каня. Матрос узяў за вуздэчку.

— Бі!

Алег заплюшчыў вочы і з усяе сілы ўдарыў на чорнай спіне. Ён ледзь паспеў адскочыць, бо конь з нечаканаю прыткасцю падкінуў зад, адначасна брыкнуўшы паветра заднімі нагамі. Вызваліцца яму не ўдалося.

— Давай, Алежка! — шморгаючы вуздэчку, закрычаў Матрос. — Бліжэй падыходзь і бі тоўстым канцом!

Але конь стаяў цяпер з паднятым задам, брыкаўся і пагрозліва фыркаў.

— Ідзі па бізун! Бегаеш з гэтым дубцом, як...

— Віця, пайшлі, кідай к чорту! — узмаліўся раптам Алег, як нядаўна, калі абараняў конюха. — Ну, заўтра скажам, дзе гэты конь, пісьмо напішам і прышлём!

Моўчкі Матрос выпусціў павады і пабег да лазіны, намацаў у мокрай траве бізун і, вярнуўшыся, схапіў Алега загрудкі.

— Ану адсюль, смятаннік! — прашаптаў ён, — пакуль я добры. Бягом! — ён адштурхнуў Алега, размахнуўся і са свістам, два разы, секануў каня па галаве.

Конь тоненька гікнуў і, як пасля ўспамінаў Алег, падскочыў на паўметра ўгору — Алегу здалося, што, перабіраючы ў паветры капытамі, конь ляціць проста на яго. Ён упаў на спіну ў твань, закрыўшы твар рукамі, але ўжо ў наступную хвіліну перакуліўся на карачкі, прапоўз так метры са два і што было сілы кінуўся ў лес...

Напуджаны сам, Матрос стаяў у лазовым кусце і глядзеў, што робіцца з канём. Пасля ўдараў той ірвануўся і, мабыць, выцягнуў нагу, але з зямлі не падыма^ўся і нікуды не ўцякаў. Матрос паслухаў трохі, як конь дяжка соп, ці то ён так стагнаў, паслухаў і ўжо смялей вылез з куста. Калі адвязваў свайго каня, той хрыпеў і не даваўся ў рукі.

А Алег тым часам, паблукаўшы па ажынніку з паўгадзіны, увесь абдзёрты, мокры, як мыш, выбраўся на шашу.

Ішоў не шашою, а паўз саменькі лес, спыняўся, прыслухоўваўся і быў гатовы кожную хвіліну кінуцца ў гэты мокры страшны лес. Але, на шчасце, было ціха.

Калі з высокага месца замільгалі агні горада, ён аж трошкі заплакаў. «Я тут блукаю, мокры, галодны, а Алачка... Ты недзе спіш пад цёплай пушыстаю коўдраю — самая лепшая, самая прыгожая мая дзяўчынка! Спі сабе, — гаварыў ён, выціраючы слёзы замілавання, — спі, не чакай мяне, не думай пра мяне! Я чалавек канчаны!»

Ён шаптаў і добра ведаў, што ніякі ён не канчаны, а Ала зусім яго цяпер не чакае і нічога аб ім не думае. Але думаць так было прыемна — тым больш прыемна, што ўсё скончылася. «А магло ж і не скончыцца... Ой-ой! Маглі б забраць у міліцыю, мог бы скалечыць конь, я мог бы павыбіваць сабе вочы... Мяне маглі, урэшце, судзіць! Судзіць! У дзесятым класе, выдатніка!.. І нічога гэтага няма, можна жыць як і жыў».

«Шчасце, шчасце... я шчаслівы! — шаптаў ён, але думаў, што цяпер ён будзе ведаць тое, чаго не ведае Алачка, і калі ёй аб гэтым расказаць, дык ён у яе вачах... Алег палохаўся, быццам нехта мог пачытаць гэтыя думкі і зрабіць не так, і шаптаў: — Я шчаслівы... Добра, што ўсё абышлося. Больш мне нічога не трэба».

IV

Рана-рана, мо не было яшчэ і пяці гадзін, Алена прачнулася і ўспомніла, што па каня трэба ісці на канюшню, што трэба ўжо ўставаць. Трэба было яшчэ выграбці з печы попел. Яна паднялася, накінула на плечы хустку і пайшла на двор, па вядро і па гразны венік. На вуліцы раптам заіржаў конь. Алена адчыніла фортку.

Труцень стаяў, хістаючыся, высока падняўшы пярэднюю нагу, якая ад капыта да самага калена была тоўстая, як калода. Дрыготкімі рукамі Алена стала здымаць вуздэчку і раптам войкнула і адхіснулася: з чорнай дзіркі пад рассечаным брывом, адтуль, дзе раней было вока, звісала доўгая крывяністая плеўка.

Жанчына заплакала, абдымаючы каня за шыю. Яна не ведала, нашто такое зрабілі з канём. Ён быў для яе як родны чалавек.

***Заява***

Узбегшы на шосты паверх, Міцура счакаў трохі, супакойваючы дыханне, зверыўся па лістку з нумарам кватэры і цісканув чорную кнопку. «Ну, адчыніць жанчына — стане па-мойму», — загадаў ён не без хвалявання, покуль за дзвярыма чуўся заўсёдны прыцішаны шоргат, яшчэ нейкія гукі і, урэшце, шчоўкат замка.

У дзвярах стаяў дзябёлы, здаровы на выгляд мужчына ў трыко і ў майцы, падобны нечым на цыркавога барца — тым больш што, разглядаючы Міцуру, мужчына ад нечага склаў на грудзях рукі і выставіў трохі наперад бараду.

— Дзяньдобры, — пачціва павітаўся Міцура, зазіраючы зноў у паперку. — Тут жыве Ласніцкая Іра?

— Гэта мая ўнучка, — адказаў мужчына басам, прасунуў руку пад майку і пачухаў грудзі. — А што вам трэба? І хто вы такі?

З размоваў у другіх кватэрах Міцура меў ужо сякітакі вопыт: ён заўважыў, што, пачуўшы толькі беларускую мову, не ведаючы нават, чаго ён прыйшоў, людзі насцярожваліся і пачыналі глядзець на яго падазрона.

Справіўшыся з сабою, Міцура зірнуў мужчыну ў вочы і роўным голасам назваў сваё прозвішча, імя і інстытут, дзе вучыўся. Мужчына здзівіўся. Ён апусціў галаву, перастаў чухаць грудзі і сказаў:

— Дык нашто табе мая Іра?

— Бачыце, яна сёлета пойдзе ў школу... У рускую школу, так? Можа, вы дасце згоду, каб яна вучылася ў беларуекім класе, дзе ўсе прадметы будуць на роднай мове?

— Ну, праходзь, — нечакана сказаў мужчына, адступіўшы ўбок. — Прайдзі, прайдзі — пагаворым.

Ён зачыніў дзверы і, не даўшы Міцуру разуцца, нравёў яго на кухню.

— Тут бардачок, але нічога...

Мужчына прыняў са стала парожнія пляшкі з-пад піва, з серванта дастаў дзве поўныя. На стале стаяла талерка з ружовымі застылымі галубцамі, слоік з лыжкамі ды відэльцамі, ляжаў слюдзяны мяшэчак з магазіннай вэнджанай рыбаю. Мужчына пераставіў галубцы на сервант і, палічыўшы, відаць, што гэта ўжо наведзены парадак, апусціўся на стульчык каля акна.

Міцура прысеў насупраць.

— Калі вы даяце згоду, — асцярожна пачаў ён, гледзячы, як мужчына канцом відэльца адкаркоўвае пляшку, — ну... згоду на беларускі клас, то трэба, каб Ірыніны бацька ці матка напісалі заяву. Я пакажу зараз...

— Ну — ужо табе заява... Ты ж пераконвай мяне, пераконвай! Пераканаеш — адразу пішу заяву і выдаю на рукі, — мужчына пляснуў далонню па стале. — П’еш піва?

— П’ю, але не цяпер. А ў чым вас пераканаць?

— Ты ў мяне пытаеш? Табе ж трэба заява, а не мне.

Міцура паўтарыў, што заяву пісаць маюць права толькі бацькі, успомніўшы чамусьці менавіта ў гэты момант, як ён загадваў перад дзвярыма. «Адчыніў мужчына — значыць, будзе ўсё добра, — падумаў ён. — Ці то я на жанчыну загадваў?»

— Як я захачу — так і будзе, — заявіў мужчына. — Ты лепш мне вось што скажы: тое, што ты хочаш, не зусім супадае з дзяржаўным, так?

— Усё з усім супадае, — паспяшаўся запэўніць Міцура. — Усё з усім супадае, толькі для таго, каб вучыцца па-руску, ніякіх заяваў чамусьці не трэба, а на роднай мове...

— Э-э, лектар! — перабіў мужчына і зморшчыўся — не то ад піва, не то ад Міцуравых слоў. — Ты пераконвай мяне, пераконвай, а не чытай лекцыі. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж, — важна сказаў ён. — Мне цікава, што будзе мець мая ўнучка з беларускае мовы? Якія ёй будуць перспектывы?

— Па-першае, яна будзе ведаць родную мову, — сказаў Міцура не зусім упэўнена, адчуваючы, невядома чаму, няшчырасць, — ну, і вырасце сумленным чалавекам.

Мужчына ўсміхнуўся, каўтануў піва і пасыпаў соллю край рыльца.

— Ты хочаш сказаць, што кожны, хто ведае родную мову, сумленны чалавек? Не пераканаў.

Міцура ўздыхнуў і выцягнуў з кішэні цыгарэты. Мужчына, не ўстаючы, адчыніў фортку і працягнуў яму чыстую попелку-чаропку.

— Дзякую. Пры вашых разважаннях... — Міцура прыкурыў, — вы добра ведаеце... павінны, ва ўсялякім разе, ведаць, што практычных перспектыў няшмат. Можна, канечне;..

— То чаго ты ідзеш агітаваць? Няўжо ты думаеш, што перад табой дурні сядзяць? Чакай, чакай, — памякчэў ён, пабачыўшы, што Міцура падняўся. — Я ж сказаў, што падумаю — можа, і напішу.

— У мяне мала часу, — Міцура, аднак, сеў. Яму дужа хацелася прынесці хлопцам хоць адну заяву, і гэтае хаценне прымушала яго не зважаць на грубасць. — Вы ўжо дзед, а яшчэ так добра выглядаеце, — насмеліўся ён на камплімент.

— Я працаваў настаўнікам фізкультуры, таму такі здаровы. Цяпер ужо... даўно не тое. Што ўспамінаць, — мужчына памаўчаў. — Але слухай; чаму ты запнуўся, называючы сябе, га? — спытаў ён раптам. — І чаму, калі твая справа дзяржаўная, яе праводзіць не дзяржава, а... немавед хто?

«Мая справа», — з прыкрасцю зазначыў сабе Міцура.

— Дзяржава ж не нейкі абстракт, — вяла сказаў ён, адганяючы рукою цыгарэтны дым, — нейкім чынам я ж таксама часцінка дзяржавы, малекула яе —

так скажам — і маю права нешта рабіць ад яе імя. Тым больш калі гэтае «нешта» — на карысць самой дзяржаве.

— Падай там збоку адчынялку, — бразнуўшы аб стол відэльцам, папрасіў мужчына.

Міцура падаў. Мужчына адчыніў другую пляшку.

— Абрыдла мне ўжо і гэтае піва, — каўтануўшы, скрывіўся ён. — Дык ты кажаш, дзяржава? А ты ведаеш, якіх дроў наламалі такія, як ты, ад імя дзяржавы?

— Пры чым тут я і беларуская мова?

— А пры тым! — Мужчына хоць і сказаў болыпменш спакойна, відаць, ужо ап’янеў, вочы парабіліся чырвоныя, а на руках панапіналіся сінія жылы. — Што вы хочаце ад людзей з гэтымі школамі і з гэтымі мовамі? Якая ў вас мэта? Чаго б вы навыраблялі, дай вам волю? Кідай курыць! — ён адкінуўся спінаю да падаконніка, зачыніў фортку і закашляўся. — Дык вось: я ўжо чуў пра такіх, як ты, — адкашляўся ён і строга паглядзеў на Міцуру, гаворачы гэта. — Вы ходзіце па кватэрах і збіраеце заявы на беларускія класы, гаворыце заўсёды па-свойму. Ці не так?

— Ну, так.

— Смаркачы вы! Што вы хочаце зрабіць? Калі нават па-вашаму зрабіць, вярнуць гэтыя школы і гэтую мову — вам жа захочацца болыпага. Якога чорта вы марочыце галовы сабе і людзям? Вы што, сляпыя? Ці не ведаеце, чым такое канчаецца? Кажу, як старэйшы ад цябе ў тры разы, — кідай! Ты шчэ малады чалавек!

Міцура разгубіўся. Магчыма, іншым часам, калі б ён не быў такі стомлены, калі б мужчына гаварыў трохі спакайней, ён і знайшоў бы нейкія аргументы: цяпер жа толькі ціха, быццам просячы мужчыну не сердаваць, выціснуў:

— Але што каму з таго, што я люблю мову? Я ж размаўляю ёй, я проста адчуваю... што... што нашая мова — цудоўная... Дык хай бы і другія адчулі гэтае! Што ў тым благога?

— Вось! — мужчына аж пляснуў у ладкі, быццам злавіў Міцуру на нечым недазволеным, быццам толькі і чакаў моманту, калі Міцура скажа гэтыя словы. — Сам гавары ты хоць па-кітайску! Любіш — любі, гаворыш — гавары, а другіх прымушаць — не смейце! Бо так прымусяць, што дзесятаму закажаш...

Мужчына выдаваў зусім ужо п’яным.

— Хто вас прымушае? — падымаючыся, зазлаваў Міцура. — Столькі часу было загублена, а ўсё гэта можна было прадбачыць з самага пачатку.

— Вы!.. Такія, як ты!..

Ён раптам прыслухаўся.

З вітальні пачуўся звонкі дзіцячы голас. Мужчына натапырыўся, сплюнуў і скоса паглядзеў на парожнія пляшкі.

На кухню забегла спрытнае чарнавокае дзяўчо з вялікімі белымі каснічкамі на русай галаве.

— Мама! — ускрыкнула яна і паказала пальцам на стол. — Дзед апяць натрескался!

— Хадзі, мая ластачка малая, — працягнуў да яе дзед свае голыя рукі з жыламі, — хадзі, мая ластачка залатая...

Ён нахіліўся наперад, стульчык пад ім упаў, унучка адскочыла, але дзеду ўдалося злавіць яе за руку.

Адбіваючыся, унучка плюнула дзеду на грудзі і гнеўна ўскрыкнула: «Не трож, кракадзіл п’яный!»

Прыбегла высокая жанчына ў расшпіленай кофце і ўдарыла дзеда па руцэ, вырвала малую. Дзед, насмех хукаючы на пабітую руку, быццам яму балела, падняў стульчык і падсунуў жанчыне.

— Вось, Марыя, — вінавага пасміхваючыся, сказаў ён, — не было цябе тут, а то б паелухала... Не хочаш сядаць? Дык я сяду.

— Ах, божа мой мілы, нашто вы тут накурылі! — прастагнала Марыя і ўзялася за галаву. — Нашто вы тут напілі, накурылі...

— Агітавалі нашую ўнучку! — абвясціў урачыста мужчына, быццам гэтая абвестка павінна была зняць з яго віну за парожнія пляшкі і за цыгарэтны дым. — Скажы, Ірачка, сама — хочаш вучыцца па-беларуску?

— А вы мо настаўнік? — жанчына паглядзела на Міцуру.

— Я... ведаеце... Не, не настаўнік. Можа, вы напішаце такую заяву, каб Ірына вучылася на роднай мове, у беларускім класе? — сказаўшы ўжо, Міцура зразумеў, што зрабіў памылку. Трэба было ісці не адразу ў лоб, а пагаварыць увогуле, растлумачыць хоць збольшага. Але дужа ён быў стомлены, каб пачынаць усё спачатку. — Падумайце, я прашу вас...

— Не, вось пісаць я нічога не буду, — пакруціла галавой Марыя, — як усе — так і я.

Дзяўчынка тым часам спадылба агледзела Міцуру і падышла да дзеда. Здаволены, ён схапіў яе, пасадзіў на калена і пачаў прытупваць нагою.

— Мая-лас-тач-ка-малая, — нараспеў, у такт, казаў ён.

Міцура зразумеў, што яму трэба ісці.

На пыльнай вечаровай вуліцы ён прыпаліў цыгарэту і, лена перастаўляючы ногі, пайшоў у канец двара, да месца збору. Каля аднаго з пад’ездаў, на лаўцы, ён убачыў Вяргейчыка, свайго сябра з педагагічнага інстытута. Паўгода назад Вяргейчык пачаў вучыць Міцуру мове, а сёння ўпершыню прывёў на збор заяваў.

— Што, як улоў? — падымаючЫся, Спытаў Вяргейчык. — Нашыя ўсе ўжо паразыходзіліся. Напісаў хоць хто?

— У мяне — ніхто.

Яны пайшлі ў бок прыпынку.

— Чуе мая душа, што заявы гэтыя няшчасныя мала што дадуць. Звычайна яны ці «губляюцца», ці «назад забіраюцца»... Крыўдна, Міцура, вось што — мы б’ёмся-б’ёмся, а толку мала, — Вяргейчык засмяяўся, зірнуў на Міцуру і змоўк. — Прыйдзеш заўтра?

— Прыйду, — адказаў Міцура рашуча. — Дзе і калі збіраемся?

***Падстрэлены***

Перад самай ціхай гадзінаю поўная, павольная ў рухах медсястра хірургічнага аддзялення, якая хадзіла па калідоры і заглядала ў палаты, правярала, ці ўсе хворыя на месцах, у адной палаце ўбачыла наведнікаў.

Гэта былі маладыя людзі — хлопец з дзяўчынаю; на выгляд так гадоў па дваццаць пяць ці мо нават маладзей. Дзяўчына сядзела на табурэтцы, а хлопец стаяў, паклаўшы далоні на спінку ложка. На іх паверх свае вопраткі былі накінуты халаты. На ложку сядзеў пануры стары чалавек у сіняй піжаме, якая разыходзілася на грудзях і якую ён абцягваў за рагі леваю рукою; правая была ў гіпсе — свежым, беленькім, з-пад якога тырчалі, бы чужыя, жоўтыя пальцы з чорнымі дужкамі пазногцяў. Стары гэты без аніякіх рухаў глядзеў у акно, хоць нічога, акрамя хіба кавалка цаглянае сцяны суседняга корпуса ды шэрага зімовага неба, не мог там бачыць і, здавалася, аніяк не быў рады дзяўчыне з хлопцам.

Акрамя гэтых трох у палаце былі яшчэ ляжачыя хворыя, якіх медсястра добра ведала. Адзін, Віктар Пятровіч, чытаў цяпер газету і адначасова размінаў нагу — то выдоўжваў яе, то падцягваў пад сябе. Ён лічыў сябе ўжо амаль здаровым і прасіўся, каб выпісалі, але доктар хацеў зрабіць яшчэ два кантрольныя здымкі нагі. Другі хворы, Змітравіч, ляжаў на выцяжцы і, павярнуўшы толькі галаву, стараўся з-за спіны дзяўчыны разглядзець, хто зайшоў у палату.

— Чаму чужыя ў палаце? У нас рэжым, — строгасказала медсястра, сілячыся ўспомніць прозвішча старога. Ён паступіў сюды толькі ўчора вечарам з «раненпем в областн плеча н локтевого сустава», як было запісана ў гісторыі хваробы...

«Малінок», — успомніла ўрэшце медсястра.

— Шчэ не спяць людзі, — няпэўна сказала дзяўчына, аднак паднялася з табурэткі.

— Мала што не спяць. Прашу вас пакінуць палату.

Дзяўчына зірнула на хлопца, а ён між тым марудзіў. Было відаць, што яму і хочацца хутчэй пайсці, і быццам бы нешта трымае яго.

— То як мне быць, дзеду? — крыху заікаючыся, сказаў ён да старога і ўсміхнуўся: — Сушыць сухары... ці пашкадуеце мяне?

— А ты мяне шкадаваў? — задзірыста адказаў дзед. — Што ледзь не забіў?

Дзяўчына, што стаяла ўжо каля дзвярэй, кінулася назад:

— Як вам не сорамна — ледзь не забіў! Хто гэта хацеў вас забіваць? Павел памог вам, выцягнуў з лесу, выклікаў «хуткую»... Калі б не шкадаваў, дык рабіў бы ўсё гэта?

— А чаго ён стрэліў па мне?

— Людзі добрыя! — пляснула рукамі дзяўчына. — Хіба ён па вас? Ён стрэліў па лісе, а ў вас папаў рыкашэт!

— Якая там ліса, — махнуў дзед здаровай рукою.

Малады чалавек крыва ўсміхнуўся, нібы пасля гэтых дзедавых слоў яму ўсё стала ясна, і хутка, паўз дзяўчыну з медсястрою, выйшаў з палаты. Дзяўчына выбегла следам не развітаўшыся.

Сястра паглядзела, як яна ў канцы калідора дагнала хлопца і пачала гаварыць яму нешта, але ён адварочваўся і не хацеў слухаць.

— Бач, маладыя, ды швідкія, — сказала медсястра абы сказаць.

— Гэта, сястрычка, такія людзі, — азваўся Змітравіч, пасля, стогнучы, падклаў пад спіну падушку і пачаў глядзець на сваю задзёртую ўгору, зжаўцелую нагу. Малінок зняў піжаму, выцягнуў з кішэні «Прыму», запалкі.

— Дзед, чуеш, як я табе краю? — сказаў Змітравіч ціхім і хітрым голасам. — Вазьмі з яго грошы — рублёў пяцьсот. Ён заплоціць, я па ім бачу.

— А што ж, — Малінок асцярожна, бокам, залез пад коўдру.

— Смешны ты, дзед. Ты ведаеш, што з табою шчэ будзе? Адрэжуць руку, дык тады будзе «а што ж». Ты не хочаш, дык хай баба возьме, ці дачцэ пашлеш.

— А то ў мае дачкі няма, што яна чужыя будзе браць?

— Такая ўжо яна багатырка. Ці ты.

Малінок падбіў падушку, паўздыхаў трохі, нічога не сказаў. Змітравіч пакалупаў пазногцем ёд на назе каля костачкі, дзе яна была праколата спіцаю і, памацаўшы спіну, пі няма пролежняў, лёг таксама. Твар яго быў засмучоны, як бы ён зайздросціў каму ці шкадаваў аб нечым.

У Змітравіча не было вінаватых у сваім няшчасці: ён палез на пахілы дах сянец, паслізнуўся і ўпаў на кучу прысыпанай снегам цэглы пад сцяною.

* * *

Пад раніцу рука разбалелася так, што няможна было ні драмаць, ні нават проста ляжаць у ложку. Малінок апрануў піжаму, выйшаў на калідор і, трымаючы здаровай рукою хворую, пайшоў да сястры.

Сястра драмала за сталом, паклаўшы рукі на галаву. Дзед сеў непадалёку ў крэсла пад фікусам, заплюшчыў вочы. У калідоры было ціха і паўцёмна, святло ішло толькі з лямпачкі над сталом, за якім снала сястра. Аднекуль з вуліцы данёсся грукат цягніка, пасля праехала машына — і нейкімі вельмі чужымі і зусім непатрэбнымі тут здаваліся гэтыя гукі далёкага жыцця. Ад прыцемак, цішыні і болю звінела ў вушах, і была тупая абыякавасць да ўсяго, што навокал і што даносілася з вуліцы...

Аб чым ён думаў? Цяжка сказаць, можна хіба што здагадвацца. Пражыў ён ужо шмат, была дачка, унукі, грошай трохі на кніжцы... І ўсё? Думаў, канечне, і пра смерць. Мінула яго смерць на гэты раз, дык усё роўна хутка паміраць. І нашто яму, сапраўды, браць з некага грошы? Нашто на тым свеце грошы? І што яму з таго, сядзе нехта ў турму ці не?

Хутчэй за ўсё аб нечым такім, блытаным і няясным, ён і думаў.

Сястра заварушылася, прыўзняла галаву, гучна пазяхнула, зірнула на гадзіннік — і гэтыя простыя, спакойныя рухі вярнулі хворага старога дзеда да адчування жыцця. Ён паварушыўся ў крэсле.

— Баліць? — спытала сястра, убачыўшы яго, не стрымалася і зноў пазяхнула: — А-а-а... Я ўкол зраблю.

— Зрабіце, няможна трываць.

Сястра пайшла ў ардынатарскую і хутка вярнулася са шпрыцам і з кавалачкам ваты, ад якой дужа несла спіртам.

— Напішыце мне заяву, — папрасіў стары, калі яму зрабілі ўкол, — я на іх у суд падам.

Сястра не здзівілася, дастала з шуфляды лісток паперы, папытала, як прозвішча паляўнічага, пагартала Малінкову гісторыю хваробы і напісала заяву.

— Ідзіце ў палату, пасядзіце, скора лягчэй стане.

Дзед пайшоў. У палаце яшчэ спалі. Ён пасядзеў трохі, і боль сцішыўся. Яму захацелася яшчэ пагаварыць з медсястрой. Ён выйшаў на калідор і сутыкнуўся з мужчынам у бальнічным халаце і ў зімовай шапцы. Мужчына паглядзеў на яго гіпсаваную руку:

— Вы не Малінок будзеце? Да вас там прыйшлі.

Малінок кіўнуў. Надзеў халат і спусціўся ўніз.

Павел з Кацяю (так звалася дзяўчына) сядзелі на лаўцы побач і маўчалі. Пабачыўшы старога, Каця падхапілася і падбегла да яго. Павел устаў.

Яны хвіліну пастаялі моўчкі адно насупраць другога: маладая, з чырвонымі ад марозу шчокамі жанчына, адзетая ў белае футра і ў шапку з лісы, і пануры, з жаўтлява-белым ад хваробы і бяссонніцы тварам дзед — у выцвілым халаце, з-пад якога тырчэла загіпсаваная рука, у даўганосых тапках. Пасля Каця замітусілася і прынесла ад лаўкі чорную сумку.

— Гэта вам гасцінцы...

— Тут кормяць, — насупіўся стары.

— Не тут кормяць, а трэба есці, каб папраўляцца, — з хітраватаю вясковаю прастатою загаварыла Каця, расчыніўшы сумку. — Вазьміце, вазьміце, тут жа ўсё сваё... І каўбаса, і яйкі... Мы, як хочаце, паедзем у вёску, прывязём вам бабу пабачыцца...

— Едзьце куды хочаце... Я на вас заяву напісаў!

Малінок ганарыста (яму здавалася, што ганарыста) выцягнуў з кішэні паперку і паказаў сваім жоўтым пальцам на словы «народный суд». Павел ступіў бліжэй, углядаючыся, але дзед схаваў паперку назад.

— Саджайце! — усхліпнула раптам Каця, апусціла сумку і закрыла твар рукамі. — Хай, саджайце... Як вам пагана, хай усім будзе пагана...

Павел падняў рукавіцу, што выпала з жончынае кішэні, узяў сумку, што ляжала на баку. Малінок завярнуўся і пайшоў.

— Пасадзіце? — крыкнула ўслед Каця.

Дзед нават не павярнуўся.

На пляцоўцы паміж другім і трэцім паверхамі ён патаптаўся каля сметніцы, падумаў, дастаў з кішэні паперку, перачытаў і, парваўшы, кінуў у сметніцу.

* * *

Калі Малінок вярнуўся ў палату, Віктар Пятровіч чытаў учарашнюю сваю газету, а Змітравіч боўтаў лыжачкай у шклянцы, мяшаў таблеткі. Малінок зірнуў — і на яго тумбачцы стаяла шклянка з вадою і ляжалі каляровыя таблеткі. Ён кінуў іх у шклянку і таксама стаў мяшаць другім канцом вялікай лыжкі.

Віктар Пятровіч адклаў газету і пацікавіўся:

— Сястра казала, што вы напісалі заяву?

— Напісаў, — дзед пракаўтнуў ваду і скрывіўся, як ад гарэлкі. — Напісаў, а тады парваў... Як горка ў роце! Нашто мне, старому, гэтыя суды.

Змітравіч, відаць, не паверыў. Ён пакруціўся ў ложку, паперакладаў падушку раз-пораз то пад спіну, то пад галаву і ўрэшце не вытрымаў:

— Маладзец, дзед, правільна зрабіў, што парваў. Хвалю. Ты малі шчэ бога, каб руку не адпілавалі па самае плячо! Ці каб на выцяжку, як мяне, не паклалі на

месяц! Хто табе «вутку» прыйдзе падасць — ён? Ці баба будзе ездзіць? Ты мне не раўняйся, у мяне дачка мазырская — хоць зболыпага прыбягае ды даглядае. А к табе хто прыйдзе?

Малінок лёг і заплюшчыў вочы.

— Можа і такое быць, — уздыхнуў Віктар Пятровіч. — Цікава, у нас жа ёсць медвучылішча? Чаму нельга прымаць студэнтак, якія даглядалі б ляжачых хворых? Ці самі не хочуць ісці?

Зміtравічу прыйшло раптам у галаву, што дзед парваў заяву не так сабе, а перш прыпалохаў ёю паляўнічага і вытаргаваў тым самым сабе больш грошай. «Так яно й будзе», — падумаў ён.

— Нешта доўга не нясуць сягоння есці, — сказаў Віктар Пятровіч і засмяяўся: — Што дзіўна: дзень ляжыш, ноч ляжыш, нічога, здаецца, не робіш, а есці хочацца як не ў сябе...

* * *

Павел з Кацяю паехалі ад бальніцы аб'ездам, па вузкай вулачцы, думаючы, што так будзе хутчэй. Але на перакрыжаванні гэтай вулачкі з лельчыцкаю шашою нечакана аказаўся новенькі, можа, з тыдзень назад пастаўлены святлафор. Павел прытармазіў на чырвонае, нецярпліва пазіраючы ў люстэрка.

— Уп-п... — заікнуўся ён і раззлавана крыкнуў: — Глянь уп-права!

Жонка здзіўлена і спалохана паглядзела на яго.

Ён і сам разумеў, што яна тут ні пры чым, але ледзь стрымліваўся, каб не нагаварыць ёй злога. І тое, што яна параіла ехаць у вёску, прасіць Малінкову старую, каб яна ўжо як памагла, здавалася яму цяпер смешным, абразлівым... Перад кім яму ставаць на калені? Аб чым прасіць? Каб не саджалі ў турму? Але ж ён невінаваты — Божа, каму і як даказаць? Ён стрэліў, здалося, па лісе, пачуў, як ускрыкнуў чалавек... І Малінок не вінаваты! Чаго з двух невінаватых абавязкова трэба, каб адзін сядзеў у турме? Каму з гэтага лягчэй? У турме працаваць, зарабляць грошы... Добра. На каго? Ясна, што не на Малінка, але няясна нашто, нашто ўсё гэта? Прадаў бы машыну, заплаціў бы тыя самыя грошы...

— Я ўжо, К-каця, і ехаць баюся... Яшчэ саб'ю каго. Ці самі паўбіваемся...

— Не трэба, міленькі, не едзь! — яна цалавала яго ў лоб, у шчаку і ў рот — куды трапляли вусны — і плакала. — Я сама паеду, аўтобусам... Я ўсё зраблю...

Павел сціскаў пальцамі шкляны шарык лапкі перадач, глядзеў на святлафор і ўсё чакаў, пакуль загарыцца «зялёнае».

***Пісьмо***

Перад тым як выйсці на галоўную вуліцу, што вяла за горад, узводу быў дадзены загад спыніцца.

Малады высокі лейтэнант у акуратным шынялі, перацягнутым рамянямі, з сумкаю на баку, адступіў амаль да сярэдзіны вулачкі, на якой спыніўся ўзвод, і пільным паглядам абвёў сваіх падначаленых, нібы збіраўся палічыць іх. Гэта былі зусім маладыя салдаты — усе з аднаго прызыву, — якія праслужылі толькі чатыры месяцы.

Стаяла мяккая, адліжная раніца — бадай, першая больш-менш цёплая раніца за ўвесь люты. Гурбы снегу паўз дарогу за адну ноч пацямнелі, зрабіліся рыхлымі, снег раставаў, і пахла вясной. У тым канцы вулачкі, адкуль толькі што ішлі салдаты, вісеў рэдкі туман — пэўна, з-за таго, што раставаў снег. На гэтай жа вулачцы, зусім блізка адсюль, размяшчалася і вайсковая часць, толькі цяпер варотаў з зоркамі не было відаць за туманам.

Сягоння ўжо як ніколі адчувалася, што, нарэшце, настае канец доўгай завейнай зіме. Праўда, тут, у цэнтры Расіі, такія зімы — звычайная з’ява.

Чакаючы новае каманды, салдаты стрымана перагаворваліся, нецярпліва пазіраючы на лейтэнанта, і не разумелі, чаго іх спынілі. Нядаўна ж строіліся ў казарме і гэты самы лейтэнант Логінаў — іхні ўзводны — правяраў усё што трэба і ўсё што (як ім здавалася) не трэба: глядзеў рэчмяшкі, каб нічога, акрамя кацялка, лыжкі ды кружкі, там не было; правяраў аўтаматы, падсумкі, процівагазы; прымусіў зняць боты і пазіраў, ці правільна закручаны анучы... Узвод павінен быў прайсці нейкіх пятнаццаць кіламетраў за горад, у лес, дзе знаходзіліся склады іхняе часці, і хоць прайсці трэба было дзе пехатой, дзе бягом, пры поўнай выкладцы — лічылі, што не такое ўжо гэта важнае заданне, каб марнаваць час на розную драбязу.

Цяпер салдаты думалі прыкладна адно і тое ж: маладому ўзводнаму хочацца лішні раз пакамандаваць імі.

Між тым сам узводны глядзеў на шыхт — строй — і хмурыўся. І ў казарме, і тут, калі ўжо крыху адышліся ад часці і ён убачыў, як салдаты ідуць, яго не пакідала адчуванне незадаволенасці. Калі глядзець на кожнага паасобку, то, здаецца, усё як трэба, і салдат як салдат. А вось у шыхце яны неяк не глядзеліся, неяк не атрымоўвалася ў іх таго прыгожага, зладжанага шыхту, які бывае ў салдатаў, што адслужылі па паўтара-два гады. Гэтыя ўчарашнія цывільныя хлопцы здаваліся яму цяпер нібыта дэталямі, якія яшчэ не прыцерліся адна да другое, і ад таго шыхт — гэтая канструкцыя, што яны складалі — быў няскладны, вуглаваты. Нібы знарок для параўнання паперадзе ўзвода стаялі сяржанты — памкамузвода і камандзіры аддзяленняў. Гэтыя ўсе чацвёра трымаліся спакойна, упэўнена і ў падцягнутасці мала ў чым адставалі ад самога ўзводнага. Гледзячы на сяржантаў, Логінаў разумеў, што патрабаваць цяпер ад маладых ідэальнай выпраўкі — амаль тое ж самае, што падаграваць зялёны яблык, каб хутчэй паспеў; разумеў, што залішняй прыдзірлівасцю да іх можна зрабіць не лепш, а горш, што не столькі, можа, тут прыдзірлівасць патрэбна, колькі час.

Але чым больш разумеў гэта малады лейтэнант, тым больш яму не хацелася быць пасіўным, а хацелася рабіць нейкія заўвагі і аддаваць нейкія распараджэнні,

Логінаў паіішоў паўз строй.

— Папраў шапку... — на хаду кідае ён. — Аўтамат падцягні... Так... Гаплікі і верхнія гузікі можна расшпіліць...

Дайшоўшы да канца, лейтэнант уздыхнуў і ўжо ўзняў руку, збіраючыся аддаць каманду, як у гэты момант позірк яго спыніўся на высокім танклявым сцяжковым, які стаяў у канцы і крыху ў баку ад калоны. Салдат машынальна круціў у руцэ невялікі сцяжок і, выцягнуўшы худую шыю, прыжмурыўшыся, пазіраў некуды паверх даху цаглянага будынка, насупраць якога стаяў узвод. Гэта быў Ракіцкі, з трэцяга аддзялення, адзіны з узвода беларус.

«Задумаўся!» — непрыязна падумаў лейтэнант. Ён чамусьці не любіў Ракіцкага. Нейкім кволым, ненадзейным здаваўся ён лейтэнанту. Здаецца, і робіць тое, што ўсе: і днявальным, і ў нарадах на кухні, і на палітпадрыхтоўцы нешта адказвае, — але ўсё з такім выглядам, бы робіць каму паслугу. І цяпер: стаіць, пазірае некуды, быццам не «малады», а сам лейтэнант, не іначай. «Як гэта я недагледзеў? — папракнуў сябе лейтэнант. — Знайшлі каго ставіць сцяжковым... Як на смех — самага горшага! З такім сцяжковым ідзі ды бойся, каб самога машына не зарэзала!»

Заўважыўшы, што на яго глядзяць, Ракіцкі замітусіўся, хапатліва падняў сцяжок да ўзроўню грудзей. Лейтэнант падышоў бліжэй і, стараючыся, каб выйшла і строга, і абыякава, сказаў:

— Ракіцкі, вы зможаце быць сцяжковым?

Ракіцкі міргнуў вялікімі сінімі вачыма і, пачырванеўшы, прамаўчаў. І так заўсёды! Гэтае маўчанне было, бадай што, галоўнай прычынай непрыязі лейтэнанта да Ракіцкага. Ну, цяжка табе, дрэнна — скажы! Лейтэнант жа таксама чалавек — дзе параіць, дзе паможа, падкажа... Не, маўчыць. А маўчыш — дык маўчы. Армія для ўсіх аднолькавая.

— Хто яго паставіў? — павярнуўся лейтэцант да ўзвода.

— Я паставіў, таварыш лейтэнант.

Са строю выступіў малодшы сяржант Данчык, камандзір аддзялення Ракіцкага. Лейтэнант не стаў выгаворваць яму — і так пазніліся.

— Вазьмі сцяжок. Ракіцкі — у строй!

Ракіцкі перадаў сцяжок, спадылба зірнуў на ўзводнага, ступіў да строю.

— Адставіць!

Салдат схамянуўся і паспешліва ўскінуў руку да шапкі:

— Дазвольце стаць у строй?

Лейтэнант кіўнуў і з адчуваннем, што хоць нейкі парадак удалося навесці, зычным голасам скамандаваў:

— Узв-о-од, інтэрвал адзін метр!..

Праз хвіліну былі ўжо на галоўнай вуліцы.

Салдаты ішлі ахвотна, з прыемнасцю грукаючы ботамі па асфальце, пазіраючы на машыны, на людзей, што спяшаліся некуды, калі-нікалі кідаючы цікаўныя позіркі на хлопцаў у шынялях і з аўтаматамі за плячыма. Амаль увесь час калону абганялі грузавыя машыны, аўтобусы, уздымаючы за сабой мокры пыл: разпораз пад’язджаў ззаду тралейбус, і тады сцяжковыя ўзмахвалі сцяжкамі, і салдаты вымушаны былі трымацца паўз самы тратуар.

Ракіцкі ішоў у апошняй шарэнзе, крайнім да цэнтра дарогі, побач з Завітняком, заўсёды вясёлым, бесклапотным хлопцам са свайго аддзялення. Невысокі, плячысты Завітняк паварочваў цікаўны свой твар ва ўсе бакі: то глядзеў на машыны, то на людзей на тратуары, то азіраўся на свайго камандзіра аддзялення Данчыка, з якога любіў пакпіць. Данчык тады сярдзіта хмурыўся, спадцішка аглядаў свой шынель, шапку, боты, думаючы, відаць, што нешта не так у яго з вопраткаю. Ад гэтага ягогіага нёепакою Завітняку станавілася весялей.

Калі праходзілі ля аўтобуснага прыпынку, ажывіліся. Завітняк таксама высунуўся і, выглядаючы нешта, узрадавана павярнуўся к Данчыку:

— Таварыш малодшы сяржант, гляньце!

Данчык махнуў яму кулаком. Усцешаная ўвагай дзяўчына ў светлым футэрку з башлыком засмяялася, адвярнулася, пасля зноў паглядзела ўслед салдатам.

Ракіцкі міжволі з зайздрасцю сачыў за Завітняком і прыслухоўваўся да ягонае балбатні. «Вось абжыўся ж неяк, прывык, — думалася яму, — жартуе сабе — хоць бы хны... І Логвінаў хваліць, і Данчык гэты самы... А тут — усё як не ў людзей».

Ракіцкі ўздыхнуў, сцягнуў рукавіцу і, сунуўшы руку пад шынель, на нейкі момант затрымаў яе там. Завітняк адразу зацікавіўся:

— Што ты там мацаеш?

— Пісьмо, — неахвотна сказаў Ракіцкі, выцягваючы руку.

— Ад каго?

Ракіцкі прамаўчаў.

«Табе яшчэ не хапала расказваць, ад каго! — нечакана з раздражненнем падумаў ён. — Зараз і пачну — настаўляй вушы!»

Ён паправіў шапку і моцна сціснуў рэмень аўтамата, з цвёрдым намерам не чапаць больш пісьма і не думаць пра яго. Хоць пісьмо гэтае з учарашняга вечара так і ляжала ў кішэні нераскрытым (пісьмы раздалі перад самым адбоем), хлопец цвёрда верыў, што нічога добрага яму ў гэтым пісьме не магло быць. Гэта было пісьмо ад дзяўчыны, якой ён прызнаваўся ў каханні і якая з яго насмяялася.

Салдаты мінулі апошні квартал і выйшлі за горад. Ісці стала крыху вальней — і таму, што менш цяпер траплялася машын, і таму, што вочы цяпер не натыкаліся на шматпавярховыя гарадскія будынкі. Вакол дарогі ляжала белае поле. Ішлі ўжо моўчкі, без азіранняў, зусім не так, як у горадзе: без гледачоў і салдат інакшы...

Ракіцкі скоса зірнуў на Завітняка. Той ступаў, апусціўшы ўніз галаву — відаць, лічыў крокі. Ззаду ішлі ўзводны з Данчыкам. Ракіцкі трошкі высунуўся і зірнуў уперад: дарога, хоць і не вельмі крута, падымалася ўгору, і толькі далёка-далёка на гэтай гары віднелася нешта цёмнае — не то лес, не то проста туман.

«Горы нейкія, горы... І здаецца ж, не так і далёка адсюль Беларусь, а ўсё нейкае другое... Ну, дзе ў нас у Беларусі горы?..»

І зусім нечакана перад вачыма Ракіцкага да таго ярка стаў малюнак вясковай, ціхай, летняй ночы, што ён страсянуў галавой і шырока расплюшчыў вочы, нібы хочучы ўпэўніцца, што перад ім усё тая ж дарога — падымаецца ўгору і абапал — брудныя гурбы снегу.

Што ж там была ўжо за такая ноч?..

...Ракіцкі сядзеў тады на лаўцы каля свае хаты. Спаць зусім не хацелася, хоць і быў натомлены за дзень — у тое лета перад войскам ён працаваў на чыгунцы манцёрам пуці. Пахла яблыкамі, свежай мокрай травою, свяціў месяц, і ад плота цераз вуліцу цягнуліся доўгія чорныя цені. Нікуды яму ісці не хацелася — дый куды было ісці? У сваёй невялічкай вёсцы Ракіцкі астаўся самым старэйшым з хлопцаў, другія — хто ў войску, хто ў горадзе. Было, праўда, некалькі школьнікаў, дык, мусіць, ужо спалі.

Ракіцкі проста сядзеў, выдаўжыўшы ногі, глыбока дыхаў і думаў пра тое, пра што думаюць хлопцы перад войскам. Яму думалася пра дзяўчыну, пра тое, як яна праводзіць яго на цягнік, як падымаецца на пальчыках і, абхапіўшы рукамі шыю,

цалуе... Што гэта будзе за дзяўчына, якая яна будзе з твару, як яе зваць, скуль яна ўвогуле возьмецца — гэтага Ракіцкі не ведаў і не хацеў ведаць. Калі б. яму, мабыць, удалося ўявіць на месцы гэтай прыдуманай німфы якую-небудзь сваю знаёмую дзяўчыну, то знікла б і слодыч ягонае мары. Выдуманая дзяўчына ў ягонай мары гаварыла толькі аб тым, што яму і хацелася ад яе чуць; знаёмая дзяўчына нават у марах магла гаварыць толькі пра нешта сваё, зямное, зразумелае і зусім непатрэбнае яму ў час развітання...

Так Ракіцкі трохі памарыў, са шкадаваннем у апошні раз глыбока ўздыхнуў і падняўся, каб ісці. У гэты момант ля суседняе хаты — па гэты бок вуліцы, дзе й хата Ракіцкага — пачуліся ціхія галасы. Ён здзівіўся і нават узрадаваўся, што яшчэ некаму не спіцца, акрамя яго. Углядаючыся ў цемру і разважаючы, хто б гэта мог быць, ён сабраўся быў ужо падысці і паглядзець, як пачуў дзявочы смех. Ракіцкі спыніўся як укопаны, натапырыўся і стаў слухаць. Ну, вядома, быў смех і голас Ірыны, суседкі ягонай, дзевяцікласніцы... Але ж яна раней ні на якія гулі не хадзіла. Цікава!

Ракіцкі адступіў да сваіх варот і прыціснуўся спінаю да шула. І хоць яму не ўдалося разабраць ніводнага слова, ужо адно тое, што Іру, гэтае дзіця, якое ён не лічыў за дзяўчыну, нехта праводзіць, размаўляе з ёю, цалуе, можа, — адно гэта прымушала яго трымцець ад нейкага незразумелага хвалявання.

З-за шула не было відаць ні самой лаўкі, ні тых, хто на ёй сядзеў. Але Ірына стаяла цяпер у вачах Ракіцкага так, быццам ён глядзеў на яе ў ясны сонечны дзень — невысокая, круглатварая, з жоўтай касою... Заўсёды сур’ёзная, задуменная, Ірына жыла сваім дзявочым, незразумелым Ракіцкаму жыццём і звычайна давала свайму маладому суседу ўвагі столькі ж мала, колькі і ён ёй.

Гэта была звычайная вясковая дзяўчынка, але цяпер, пасля таго, як Ракіцкі ўбачыў, што яе ўжо нехта праводзіць, Ірына здалася яму такой красуняю, якую ён яшчэ ніколі і нідзе не сустракаў. Хлопцу зрабілася сумна і прыкра, што не ён, а нехта другі змог першы разглядзець у гэтай дзяўчынцы дзяўчыну. Цяпер нічога не аставалася, як стаць пад шулам і лаяць сябе за слепату. Хлопец называецца! У войска сабраўся ісці! Можа, каб Ірына якую гадзіну назад прайшла каля яго адна, то Ракіцкі не павёў бы і брывом, павітаўся б, як заўсёды, — і ўсё. А цяпер у яго з кожнай хвілінай усё болын і больш з’яўлялася неадольнае жаданне нешта змяніць...

Ціснучыся да плота, баючыся неяк выдаць сябе, Ракіцкі дабраўся да канца агароджы і шмыгнуў за сваю хату. Пасля прыгнуўся, як кот, прабег цераз агарод, пралез паміж жэрдкамі і апынуўся ў Ірыным двары. Ён пабаяўся праходзіць цераз двор бліжэй да лаўкі, на якой сядзела Ірына, — чамусьці здалося, што могуць заўважыць у акно з хаты, і запыніўся пад клёнам, ля самых дзвярэй у калідор. Сэрца калацілася, як у злодзея, але ён паспрабаваў супакоіць сябе думкаю, што нічога кепскага не робіць — проста хоча пагаварыць з дзяўчынай.

Між тым цягнуўся час, а тыя, на лаўцы, усе не збіраліся разыходзіцца. Нарэшце, Ірына засмяялася, і той засмяяўся. «Яновіч, — пазнаў Ракіцкі, — смарчок...» Нанраўду ж Яновіч хоць і быў Ірыным аднакласнікам, плечы ў гэтага «смарчка» былі як не ўдвая шырэйшымі, чым у Ракіцкага.

На момант стала ціха. Відаць, развітваліся. «Можа, на вуліцу выйсці? Мо адна ўжо?» — Ракіцкаму здавалася, што Яновіч павінен быў адысціся далёка.

Рыпнула фортка. Каб не палохаць дзяўчыны, Ракіцкі адарваўся ад клёна і ціхенька кашлянуў. Нібы спатыкнуўшыся, Ірына спынілася за некалькі крокаў ад яго.

— То вы, тата?

— То я, Ірына, — сказаў Ракіцкі нейкім не сваім голасам і ступіў бліжэй.

Дзяўчына прыглядзелася і, пазнаўшы суседа, з палёгкай засмяялася.

— 0, Божа! Я думаю, нейкі дзядзька ходзіць па дварэ... Аж то мой сусед...

«Яна жартуе! Ірачка, любая, — ну, дзе я раней быў!» У Ракіцкага злёгку закружылася галава.

— Іра, — сабраўшыся з духам, сказаў ён. — Ты толькі не падумай, што гэта жартам і ўсё такое...

Дзяўчына ўважліва слухала і, калі ён запнуўся, нецярпліва сказала:

— Ну?

— Я, Іра, даўно цябе люблю... І па-сапраўднаму.

Ён хутка ўскінуў на яе вочы, але дзяўчына нават не зварухнулася.

— Усё? — раптам холадна сказала яна.

— Усё.

— Ну, а я люблю другога.

Праз момант дзверы ў калідор ляснулі і зачыніліся з сярэдзіны на ключ.

...Тую ноч Ракіцкі і цяпер лічыў для сябе самым дарагім успамінам, бо другой, лепшай ночы, у яго проста не было. І не за свае словы, і не за Ірыны было яму горка і сорамна, а зусім за другое — што не вытрымаў адзіноты першых дзён службы і напісаў ёй пісьмо. І што гэта было за пісьмо! Няўклюдныя словы, просьба прабачыць, просьба быць сябрамі... Тады, у першыя дні, пісьмо гэтае здавалася не толькі патрэбным, а нават неабходным. Нібыта не ўсё было сказана ў тую ноч! Але хіба ў першыя дні службы, калі вакол чужыя, часта грубыя і жорсткія парадкі, чужое і незразумелае жыццё, здаецца, калі каб мог, дык абняў бы таго, з кім да войска вітацца не хацеў, — хіба ў тыя дні Ракіцкаму ўспамінаўся сэнс слоў, якія яна казала яму?

Ракіцкаму ўспаміналася не само недарэчнае прызнанне, а тыя абставіны, пры якіх прызнанне рабілася. Успамінаўся двор, заліты месячным святлом, нейкі харошы хлопец і нейкая цудоўная дзяўчына, якія нешта гавораць адно аднаму...

Ракіцкі ведаў, што гэты хлопец быў ён сам, што дзяўчына была Іра, але колькі сабе ні ўяўляў — так і не ўспамінаў інакш, як позіркам на сябе збоку.

Гэта потым ужо, калі Ракіцкі прывык і да людзей, і да салдацкага жыцця, ён пачаў глядзець больш цвяроза і на сваё мінулае. Іру ён па-ранейшаму ўспамінаў кожны дзень, але той ружовы туман, які ахутваў ягоныя ўспаміны, патроху пачынаў ужо асядаць. Ён усё болын разумеў, што, якімі б харошымі ні былі гэтыя мары, яны застаюцца толькі марамі. Што б ён там ні прыдумваў і як бы ні цешыў сябе здагадкамі — яму ясна было сказана, што любяць не яго.

Атрымаўшы ад дзяўчыны запознены адказ на свой ліст, Ракіцкі і не ўзрадаваўся і не засмуціўся, а падрыхтаваўся перанесці нешта яшчэ больш непрыемнае для сябе.

— ...Узво-о-од, левае плячо ўпяро-о-од!

Салдаты спусціліся з шашы, паўз якую даўно ўжо цягнуліся абсыпаныя цяжкім снегам елкі, і звярнулі на лясную дарогу, разбітую ваеннымі грузавікамі. Да складоў заставалася не болын двух кіламетраў, але, як назло, і гэтая дарога забірала пад гару. Да таго ж ісці стала слізка.

Стомленаму Ракіцкаму здавалася, што дарозе гэтай не будзе канца і што прайшлі яны не дзесяць — дванаццаць, а ўсе трыццаць кіламетраў. Ногі яго так прызвычаіліся да таго тэмпу, якім ішоў узвод, што, здавалася, каб і захацеў, не змог бы прымусіць сябе ісці ні большымі, ні меншымі крокамі.

На павароце ўзводны спыніўся і, прапускаючы калону, пачаў углядацца ў твары салдатаў, нібы вагаўся, рабіць яму тое, што замысліў, ці не...

— Узво-о-од, бягом — марш!

«Якое бягом! — ледзь не ўскрыкнуў Ракіцкі. — Тут ісці не можна, а то бягом!» Але пярэднія пабеглі, чвякаючы ботамі па нарэзаным выпуклым шынамі грузавікоў мокрым снезе. I ён пабег, сабраўшы ўсе сілы і жадаючы толькі аднаго: не адстаць больш чым на два крокі ад таго, што бег наперадзе.

...Спыніліся гэтак жа нечакана, як і пабеглі.

Ледзь не выцяўшыся тварам аб нечы аўтамат, Ракіцкі, цяжка сапучы, узняў галаву і, нават калі ўбачыў сярод елак высокую цагляную агароджу, чорна-белы шлагбаум і салдата без шыняля каля яго, то не паверыў — няўжо ўсё, прыйшлі? Здалося, гэта нейкая выпадковая перашкода, і праз хвіліну зноў некуды пабягуць, і будуць бегчы, бегчы, аж пакуль зусім не зваляцца з ног...

— Паўгадзіны — на перакур, — коратка кінуў лейтэнант, вярнуўшыся з КПП. — Тады прыедзе машына I паедзем у часць. (Ён зірнуў на гадзіннік). — Прайшлі добра... для пачатку. Каму грэцца — за мной, курыць — сяржант пакажа. Данчык, правядзіце людзей.

Узвод рассыпаўся. Лейтэнант, сяржанты, акрамя Данчыка, пайшлі ў каравулку — невялікі цагляны будынак побач з КПП. Некалькі салдатаў пайшло за імі. Астатнія накіраваліся за Данчыкам.

У невялікім закутку паміж каравулкай, яшчэ адным будынкам і агароджай, да якой была прымацавана шыльда «Месца для курэння», было ў рад укопана чатыры лаўкі. Ракіцкі рукавіцай зболыпага змёў снег, сеў ля самага краю і адразу ж заплюшчыў вочы. Ад стомы не хацелася нават курыць.

— Прытопалі! — здаволена сказаў нехта.

— Во каб зараз — назад такім... такім...

— Ды людзі бегаюць больш, чьтм мы ішлі!

— Бяжы, калі хочацца.

— Той, іпто пабяжыць! Здаравяка такі.

— Дай прыкурыць...

Завітняк перш хацеў прымасціцца каля Ракіцкага, але, глянуўшы на яго пануры твар, перадумаў. Яму не падабаліся сур’ёзныя людзі — Завітняк лічыў іх альбо хворымі, альбо занадта вялікімі разумнікамі. Сам жа Завітняк быў чалавек вясёлы і ў любой справе стараўся знаходзіць забаву. Войска яму было ніякім не перыядам, у час якога (як пішуць у газетах) фізічна і духоўна загартоўваецца малады чалавек, а проста працягам ясыцця ў трохі інакшых формах. Сумна ці

весела будзе праходзіць гэтае жыццё — тое залежала ўжо ад яго самога, і ён хацеў, каб яно праходзіла весела.

Завітняк зашпіліўся на ўсе гузікі, паправіў шапку, рэмень і, адбіваючы крок, страявым падышоў да Данчыка. Данчык трымаў між ног аўтамат, курыў і паплёўваў. Завітняк ускінуў руку да шапкі:

— Таварыш малодшы сяржант, можна, я збегаю па ваду?

— Можна ведаеш што? — строга падняў на яго вочы Данчык.

— Ой, дазвольце, — паправіўся Завітняк, трымаючы рукі па швах.

Данчык змякчыўся:

— Ідзі. Мог бы і не падыходзіць.

Завітняк знарок залішне звонка стукнуў абцасамі і пабег у каравулку.

«Можна, дазвольце — ну, якая розніца! — Каб перабіць раздражненне, Ракіцкі пачаў часта-часта зацягвацца цыгарэтаю. — Ізноў — тупалі, тупалі... Чаго, пытаецца, якога! Ногі трэніраваць, дык можна было і ў часці пахадзіць». Перад ім на момант паўстала спіна ў шэрым шынялі, паўз дарогу паплылі елкі... І яму чамусьці здалося, што ў хадзе па гэтай дарозе і заключаецца служба, што ўсе два гады ён так і праходзіць па гэтай дарозе. «І каб жа ведаць, што гэта некаму трэба — яшчэ не столькі прайшоў бы... Знайшліся б сілы. Ды дакаціўся б, дапоўз... Казаць няма чаго! — абарваў свае думкі Ракіцкі. — Назад павязуць — і то добра...»

З гарбатнікам у руцэ, заклапочана праходзіў побач Завітняк. Ракіцкі папрасіў:

— Дай каўтнуць...

— Пастой!

Ён урачыста, аберуч працягнуў гарбатнік Данчыку, і пакуль той з рыльца піў, Завітняк, азіраючыся, падміргваючы салдатам, падтрымліваў яму ззаду шапку.

«Чорт з вамі», — абыякава падумаў Ракіцкі. За апошні час ён так прызвычаіўся да думкі, што ніхто яго не разумее і няма чаго чакаць ад другіх нейкае да сябе дабрыні, што цяпер, калі гэта лішні раз пацвердзілася, яму стала нават прыемна. Павольным, леным рухам ён расшпіліў шынель і выцягнуў вільготны ад поту канверт, нейкі момант абыякава глядзеў на блакітную марку, на хвалістыя чорныя лініі штэмпеля; потым адарваў ад ражка вузенькую палоску і выцягнуў невялікі ліст. Вочы адразу выхапілі некалькі слоў з сярэдзіны — пісьмо было напісана па-беларуску, роўным дзявочым почыркам, у якім літары стаялі асобна адна ад другой... «Дзяньдобры, Уладзімер! Зразу прызнаюся, што не чакала ад цябе такога пісьма. Ты пісаў, што калі я па-сапраўднаму некага кахаю, то не трэба табе й пісаць. Кажу табе, Уладзімер, адразу, што нікога я пасапраўднаму не кахала, і ты, калі ласка, пра гэта не думай. Тады мяне праводзіў Яновіч Антось з нашага класа, ён, праўда, мне крыху падабаўся, але цяпер, калі пачаў хадзіць з... (не буду пісаць з кім), то стаў зусім мне абыякавы. Толькі не таму, што памяняў мяне на другую! Калі б у нас было што сур'ёзнае, то я павінна была б перажываць, а я — ніколечкі! Значыць, нічога сур'ёзнага і не было. А што тады, ноччу, я так гаварыла — не вер мне! Не ведаю, ці змагу ў лісце напісаць так, як думаю, і так, як цяпер магла б сказаць...

Пасля таго як ён стаў мяне праводзіць... проста не ведаю, што са мной зрабілася' Здавалася, што ўсе кругом у мяне закаханыя і толькі таго і чакаюць, каб у гэтым прызнацца... Не, не змагу напісаць, як хацелася б! Валодзя, я пасля твайго

ліста багата чаго перадумала і багата чаго зразумела. Ты, канечне, не змог усяго напісаць, але я й без таго ведаю, што табе цяжка і, мусіць, усяго бывае. Я часта ляжу ноччу, як спаць не хачу, за сцяною мароз, завіруха — і як падумаю, што ты недзе цяпер у каравуле ці ў нарадзе, а побач лес, а вакол — глухая ноч... Выбачай, калі не так пішу. Можа, я ўсё гэта фантазірую, але ведай, што цяпер я тых словаў ніколі б не сказала... Пішы... Вышлі фотакартку...»

Ад радаснага хвалявання лісток дрыжэў у руках Ракіцкага. Наколькі моцна ён убіў сабе ў галаву, што пісьмо будзе дрэнным, настолькі нечаканай і ад таго вялікай была цяпер радасць. Ён нават не заўважыў, што прыпісвае сабе тое, чаго з ім яшчэ не здаралася: такога не было, каб ён не спаў начамі, у каравулы пакуль што таксама не хадзіў... Стараючыся сагнаць з твару сляды радасці, Ракіцкі падняўся, патупаў на месцы і падышоў да салдатаў, што сабраліся каля Данчыка і аб нечым гаманілі.

Ракіцкі прасунуўся між імі і, усміхаючыся, глядзеў на Данчыка, сам не ведаючы, чаго падышоў і што збіраецца казаць.

Аддзялённы заўважыў яго і пасунуўся.

— Ракіцкі, сядай, — загадаў ён. — Чаго сядзеў адзін?

— Пісьмо чытаў, таварыш малодшы сяржант, — ахвотна адказаў Ракіцкі і стаяў.

Данчык з ухвалой кіўнуў галавою. Ён крыху падумаў і сказаў:

— Калі салдату выпадае ісці ў каравул, перад гэтым пісьмы яму аддаваць не паложана,

— Чаго-та не паложана? — пацікавіўся Завітняк.

— Пойдзеце хутка ў каравул — скажуць чаго.

— Дык вы скажыце! — не адставаў Завітняк. — Вы ж малодшы камандзір, вучыце нас.

Данчык не змог не ўсміхнуцца здаволена, лішні раз пацвердзіўшы, што ён шчыры ўкраінец — хлебам не кармі, а пахвалі за што-небудзь.

— Таму, што пісьмы розныя бываюць, ясна? — сказаў ён. — Ёсць людзі, каторыя не разумеюць і пішуць абы-што. А другія чытаюць — і страляюцца...

— Чорт бы яго страляўся, — гмыкнуў Завітняк і, не вытрымаўшы, зарагатаў.

— Адставіць, Завітняк... — смеючыся сам, сказаў Данчык.

Ракіцкі смяяўся разам з усімі, але не сказаць каб ахвотна. Праўда, не надта ён і верыў у тое, што чуў — чаго гэта ні з таго ні з сяго будуць пісаць у войс-ка абышто? Ці страляцца — ідыятызм нейкі...

Хутка салдаты строіліся каля КПП. Чакалі лейтэнанта. Нарэшце ён паказаўся і спыніўся перад строем, з заклапочаным выглядам абцягваючы пальцамі рукавы шыняля, быццам хацеў схаваць у іх рукі.

— Так, таварышы байцы, — бадзёра сказаў ён. — Званілі з часці — машыны не будзе. Лепш сказаць, будзе, толькі не нам. Павязе катушкі з кабелем. Мы пойдзем пешкі. Трыццаць кіламетраў — не так многа для салдата. А тут не будзе і трыццаці, — ён памаўчаў і дадаў: — Мы ў вучылішчы больш хадзілі. І без перакураў. Вам, канечне, цяжэй з непрывычкі... У машыне, дарэчы, змогуць памясціцца два-тры чалавекі... Хто нацёр ногі?

Кульгаючы, выйшлі Іваноў і Новікаў — «пнтерскне», як яны сябе звалі і як іх усе звалі. Ракіцкі пачуў лёгкі ўдар далонню па плячы, звыкла ступіў крок уперад і ўлева, даючы магчымасць выйсці таму, хто стаяў за ім.

Завітняк аДчаКаніў тры кракі і зрабіў «іфугом».

— Завітняк? — здзівіўся Логінаў. — А з вамі што?

— Так... Нага баліць. Ды мне і ў нарад сёння, таварыш лейтэнант. Мне і Ракіцкаму.

Усе бачылі, што ён выскачыў, а цянер сам шкадуе, што выскачыў. Логінаў паморшчыўся: перад нарадамі наогул не рэкамендавалася браць у марш тых салдатаў, якія заступаюць. Але хто думаў, што так атрымаецца з машынаю?

— Ну, не ведаю, як вы там пасядаеце, — нервова торгнуў ён плячом. — Давай, Ракіцкі...

— Хіба я прашуся? — звонкім ад крыўды голасам сказаў Ракіцкі, і гэта было ўпершыню, што ён запярэчыў лейтэнанту.

Логінаў нават разгубіўся, настолькі моцна трымалася ў ім прадузятасць да гэтага салдата. «Ты пабач, які ўпарты... беларус», — са здзіўленнем падумалася яму, і тое, што Ракіцкі быў беларусам, набыло раптам для яго нейкае важнае значэнне...

— Тады і я пайду! — заявіў раптам Завітняк.

Сярод салдат пракаціўся рогат. «Пад’ехаў!» — сказаў нехта са строю. Адзін Данчык астаўся сур’ёзным.

— Ты што, на канцэрце? Пойдзеш, толькі ў другое месца, — шматзначна паабяцаў ён.

Лейтэнант, усміхаючыся, кіўнуў, і Завітняк зноў стаў у строй. Ён чамусьці злосна зірнуў на Ракіцкага, але нічога не сказаў.

...Хутка перад вачыма ў Ракіцкага зноў калыхалася спіна з аўтаматам, а ногі мясілі брудны, разбіты грузавікамі снег. На хаду ён яшчэ раз сунуў руку за борт шыняля і, патрымаўшыся за цёплы канверт, лёгка ўздыхнуў і зашпіліў гузік.

### *Малая*

Па вечаровым восеньскім праспекце няспешна ішоў малады чалавек у чорным ваўняным гарнітуры, з тонкім «дыпламатам» у руцэ. Пры хадзе адгорнутыя знізу калашыны цесна аблягалі ногі і адкрывалі снежнага колеру шкарпэткі, якія пасавалі да нізкіх чорных туфляў. Малады чалавек быў прыгожы, асабліва гэтым часам, пры ненатуральным святле ліхтароў. Сустрэчныя жанчыны касілі на яго вочы. Малады чалавек глядзеў пад ногі, на апалае волкае лісце, але адчуваў на сабе чужыя позіркі.

У «дыпламаце» ляжала бутэлька крымскай «Масандры» і загорнутыя ў хрусткую слюду ружы.

Малады чалавек вучыўся ва універсітэце, на факультэце гістарычных навук. Ён любіў думаць і філасофстваваць. Цяпер ён ішоў і думаў, што асалода ад славы ёсць катэгорыя пастаянная і не можа быць большая ці меншая ў залежнасці ад таго, хто гэтую асалоду славы адчувае: міліцыянер, дыктатар, прэм’ер-міністр ці

прыгожы малады чалавек з сярэдняй мінскай сям'і. «І гэта вось чаму, — думаў малады чалавек. — Прэм'ерміністра ведаюць мільёны людзей, але што ён для іх? Ідал, фікцыя, абстрактнае ўвасабленне ўлады. Ён для іх толькі нежывое імя. Адчуванне свае ўлады, асалоду ад гэтага даюць яму пяць-шэсць блізкіх знаёмых, з якімі ён найчасцей кантактуе».

Малады чалавек стаў каля сметніцы-урны і распакаваў цвёрды сіні пачак «Космасу».

«Я зацягнуўся і адчуў асалоду — і гэта максімальная асалода ад курэння. Хіба я магу адразу зацягнуцца шасцю ці нават дзвібма цыгарэтамі? Не, вядома, магу — а сэнс? Стане паскудна ў роце і ў галаве — галоўнае, знікне асалода.

Калі ў шаха ў гарэме дваццаць жанчын, ён не зможа «мець» адразу ні шэсць, ні дзве».

Малады чалавек быў перапоўнены спакойнай усемагутнай радасцю. Ён адчуваў сябе нікому не вядомым уладаром усяго свету.

* * *

Кіламетраў за трыста ад сталіцы, у апусцелай, а некалі вялікай і багатай палескай вёсцы, гналі з пашы тавар, і дзве жанчыны, якія хадзілі пераймаць кароў, злосна, голасна сварыліся, ідучы па доўгай вуліцы — адна спераду за сваёю каровай, а другая ззаду.

Чужыя людзі стаялі каля варотаў ці так, цераз платы, паглядалі з двароў і слухалі.

Сварыліся адначасна і тая і другая, і словы накладаліся, перапляталіся і ліліся з канца ў канец вёскі суцэльнаю плыняй:

— ...што б цябе на лаве абмылі ды цябе прыбралі — якое ты разачкі ка мне прычапіласа! Ты свайму сыну шапку ў труну ні паклала, што б цябе нежывую паклалі...

— ...мой сын без шапкі хадзіў, што б ты па сьвеці ні хадзіла...

— ...ні паспелі на памінках чаркі падапіваць, як ты з хаты паўганяла, што б зь цябе дух выгнало да зь цябе выперло...

— Што б вы ўсе павешаліса!

— ...што б вы ўсе патапіліса!

У аднае ляжаў на могілках, ці, па мясцоваму, «пад белаю бярозай», сын, які пяць гадоў назад павесіўся з-за пацягакі-жонкі. У другой — чалавек, які тры гады назад згарэў ад дэнатурату, і сын, які месяц назад папаў у вір і ўтапіўся перад самым сваім вяселлем. І што, здавалася б, ім дзяліць! Акрамя гора!

Пазаганяюць кароў, стануць даіць, душачыся слязьмі.

«А мой сыночак маленькі, а мой залаценькі! А што ж мне, бедненькай, рабіць?! І хіба ж я ні хацела, што б ты жыў! А хіба ж я ні хацела, што б ты прыязджаў ка мне з жонкаю і з дзіцятком! А хіба ж я калі шкадавала табе што!»

* * *

У інтэрнаце, да якога падыходзіў малады чалавек з «дыпламатам», у адным з пакояў жылі дзве дзяўчыны: трэцякурсніца і першакурсніца. Трэцякурсніца, белая, шыракатварая, з соннымі прыгожымі вачамі і вялікімі нефарбаванымі вуснамі ляжала на жываце на ложку, паліла цыгарэту і абівала яе ў папяровы кулёк.

Сяброўка, падобная на ляльку ад пудры, румянаў і памады, і з накручанымі, як у лялькі, валасамі, нервова круціла галавой перад малым настольным люстэркам.

— Мне здаецца, кепскія цені, — заўважыла белая, калі «лялька» павярнулася да яе. — Змый і вазьмі мае, святлейшыя.

— Ай, позна! — адчайна махнула рукой «лялька». Яна падсела на ложак, абняла за плечы і, помнячы пра памаду, асцярожна пацалавала сяброўку. — Маша, мілая, ты такая прыгожая, такая добрая! Што мне рабіць?

— Што — жыві, — ляніва сказала сяброўка, плюнула ў кулёк і патушыла недакурак. — У цябе шчэ ўсё наперадзе... Шчаслівая.

— Ах, я сама не ведаю, якая я! Гадкая! Месяц мінуў, як брата пахавалі, а я кахаюся... Я абамлела над труною... А цяпер шчаслівая. Дай руку, пакладзі — чуеш, як сэрца калоціцца? Я баюся, Машанька!

— Чаго баяцца?

— Я так кахаю яго — больш, чым брата, больш, чым матку! У мяне галавы няма...

— Пройдзе.

— Маўчы, мне й так страшна! — ускрыкнула «лялька», яшчэ мацней прыціскаючыся да сяброўкі. — Машанька, навучы мяне!

— Гэткая навука! — злосна засмяялася белая і пачырванела. — Усе мы яе праходзім, кожная — сама.

Белая запаліла новую цыгарэту. «Лялька» прыціснулася да яе рукі і заплюшчыла вочы, пацерлася шчакою.

«Што ў цябе наперадзе, бедная малая? Ты з ім знаёмая два дні, а ўжо страшна. Чаму я цябе навучу, калі я ведаю як божы дзень, чым ты цяпер жывеш! Было гора, утапіўся брат, адзінота, жах, з’яўляецца прыгожы мінчук — як у казцы. А яны! Яны ад прыроды, носам, як гончыя сабакі, чуюць, калі баба задыхаецца. Гэта ж завітай ён сюды, з кветкамі, спакойны, усмешлівы... Бр-р... Яна выкінецца з балкона, кіўні ён толькі пальцам! Добра, калі ён нацешыцца хутка і хутка кіне яе. Астаўшыся для яе незямным прынцам. Тады ёй лягчэй будзе ачуняць. А калі яна прывыкне, убачыць, што ён зямны... І мог быць бы заўсёды, навечна, маім, калі б я... Бедная малая!»

Пачуўся жаданы, няўмольны стук у дзверы.

### ***Памылка***

— Сягоння, Аксана, ты не зусім добра ведаеш правілы, — сказаў Максім Раманавіч і лагодна паглядзеў на светлавалосую, тоненькую, у акуратнай школьнай форме дзяўчынку, што стаяла каля дошкі.

Ад слоў настаўніка Аксана трошкі пачырванела і апусціла галаву, нібы прасіла тым самым у настаўніка прабачэння, што не змагла спадабацца яму сваім адказам.

— Але заўсёды ты так добра рыхтавалася, — працягваў Максім Раманавіч, — і, мабыць, зробім мы так: нрадыктую табе яшчэ некалькі слоў. Напішаш, не

саб'ешся — пастаўлю пяцёрку. Не спяшайся, успамінай правілы. І не хвалюйся. Будзе чацвёрка — дык і чацвёрка добрая адзнака.

Настаўнік зняў акуляры, расцёр пальцам чырвоны след ад іх на пераноссі і падняўся з-за стала. Другакласнікі, якія не адвыклі шчэ ад зімовых канікулаў, перашэптваліся і шумелі. Хутка ўрок павінен быў скончыцца. Каб супакоіць дзяцей, настаўнік прайшоў ад стала да сярэдзіны класа і назад.

— Ба-раць-ба, — прадыктаваў ён, а пачулася як «ба-радзь-ба». — Ма-лаць-ба, — ізноў пачулася як «маладзь-ба».

Аксана пісала марудна, абдумваючы кожнае слова, і настаўнік яе не прыспешваў.

— Кась-ба...

У гэты час празвінеў званок; дзяўчынка хутка дапісала слова і павярнулася тварам да класа. Дзеці ўсе разам загаманілі, зашамацелі кніжкамі, сшыткамі,

зашчоўкалі замкамі ранцаў і партфеляў. Максім Раманавіч прыжмурана зірнуў на дошку, падышоў да стала і схіліўся над журналам.

— Пяць! — аб'явіў ён, шукаючы пальцам патрэбны радок.

— У Аксаны ж памылка! — выгукнуў раптам адзін хлопчык, які сядзеў дагэтуль смірна за першай партаю. Ён быў тоўсценькі, круглатвары, зваўся Антосем і гэтак жа, як і Аксана, быў выдатнікам. — У Аксаны памылка, Максім Раманавіч, — паўтарыў ён, устаўшы з-за парты, — яна напісала «касьба» цераз «з».

Усе прыціхлі, перасталі нават збірацца. Максім Раманавіч надзеў акуляры.

— Гэта добра, што ты сочыш за ўрокам, — сказаў ён Антосю, — а памылку мы зараз паглядзім. Калі яна ёсць... — Настаўнік падышоў блізка да дошкі і ўбачыў памылку.

Дзяўчынка спехам, проста рукою, выцерла «з», але, відаць, ад разгубленасці напісала замест яе «ц». Стала ўжо зусім няправільна — «кацьба».

Настаўнік усміхнуўся:

— Ну, нічога... Ты заўсёды была такая старанная, а памылілася, мабыць, таму, што вучыла толькі правілы. Але ў кніжцы, пад правіламі, напісаны і выключэнні з правілаў, толькі дробнымі літаркамі. Усе гэтыя словы і ёсць выключэнні, бо пішуцца не так, як чуюцца.

— Яна вучыла, напісала ж два словы! — крыкнуў нехта.

— Трэба яшчэ лепш вучыць, — сказаў Максім Раманавіч.

Ён паставіў дзяўчынцы чацвёрку, Антосю — маленькі плюсік і адпусціў дзяцей.

На двары, калі Антось спускаўся па сходках школьнага ганка, адзяваючы на хаду паліто, да яго падышлі некалькі хлопчыкаў, аднакласнікаў. Заходзячы ўвесь час наперад, чапляючы ззаду за ногі, яны пачалі дражніцца:

— Ябеда тоўстая!

— Плюсік-шмусік!

— Гляньце, атрымаў плюсік — і рад!

— І рад! — агрызнуўся Антось. Што яму яшчэ было казаць? — А вы мне зайздросціце, бо я лепшы за вас. Бо мяне настаўнікі хваляць.

— Трэба дражніць яго цяпер Плюсікам! — выступіў наперад і крыкнуў Казімер, высокі задзіра з чубком, як у дарослых хлопцаў. Гэта ён заступаўся за

Аксану ў канцы ўрока. — Ты ніякі не разумны, як цябе хваляць, а пяцёркі табе ставяць за гэта... ну... — і Казімер засмяяўся, азірнуўся на хлопцаў.

Усе за ім засмяяліся. Антось не вытрымаў, скочыў з тратуара ў снег і аббег гурт, але дзеці лёгка дагналі яго і зноў акружылі. Цяпер яны нават не дражніліся, а проста стаялі і пасмейваліся, пераглядаліся і паплёўвалі сабе пад ногі. Антось спалохаўся:

— Не лезьце! Я не ябеднічаў, а< сказаў праўду!

— Праўду? А я табе зараз вушы буду церці брудным снегам, — сур’ёзным голасам сказаў Казімер, нахіліўся і набраў прыгаршчы снегу з граззю. — Я табе пакажу праўду...

Тут са школы выйшлі дзве настаўніцы, пайшлі да дзяцей. Зразу ажыўшы, Антось штурхануў Казімера ў грудзі і пабег. У спіну яму бохнула цяжкая снежка, ды ён не спыніўся, крутнуў за вугал школы, — а тут ужо й вуліца, людзі ходзяць і стаяць на прыпынку... Антось ускочыў у аўтобус, праехаў адзін прыпынак, а тады паціху ўжо, спакойна пайшоў дадому. Ён жыў адсюль недалёка, у новым мікрараёне.

«І сказаў, і атрымаў плюса! — пацыкаўся ў думках Антось з Казімерам, якога найболын баяўся з усіх. — І мая праўда, і вучуся я лепш за вас, і разумнейшы за вас. І вывучуея начальнікам, і куплю машыну самую дарагую. А вы пазірайце!»

Каля іхняга пад’езда, у падвале, жыў кот. Антось прыадчыніў дзверы, пазваў, і кот прыбег, пачаў хрыкаць, церціся вухам і пыскай аб чаравік. Антось пагладзіў яго па задзёртым, доўгім хвасце. Кот хацеў бегчы за ім і ў пад’езд, але ён не пусціў.

Дома бацька на кухні чытаў кніжку. Маці яшчэ не было з работы. Антось распрануўся, памыў рукі і сеў за стол.

— Калі ўжо, тата, дадуць нам новую кватэру? — уздыхнуў ён.

Тата паставіў перад ім талерку з галушкамі, паклаў лыжку.

— Скора, — сказаў ён, паліваючы галушкі смятанай. — Праз год-два.

— Ого! А ў школу я тады хоць у другую пайду?

— У другую, у другую.

— І то хлеб, — Антось зноў уздыхнуў. — Дужа кепскі ў нас клас. Нядружны... Тата, сёння настаўнік не ўгледзеў здалёк памылкі на дошцы, а я ўбачыў і сказаў.

Бацька патрусіў пляшкаю з малаком, адчыніў, паставіў перад сынавай талеркаю:

— Што-што? Я праслухаў, настаўнік зрабіў памылку?

— Не настаўнік, а Аксана — ты не ведаеш яе. Каб я не сказаў, што памылка — была б ёй пяцёрка. А так — чацвёрк^. Тата, казаць праўду — заўсёды добра?

— Заўсёды, — мармытнуў бацька, гартаючы кніжку. — Заўсёды трэба казаць праўду... Так, ты еш, а я пайду трохі паляжу — дужа галава з нечага баліць.

Бацька прыадчыніў трошкі фортку і пайшоў. Антось паеў, паклаў у мыйнік талерку. Задраў руку і пастаяў трохі насупраць форткі — рука хуценька змерзла і пачырванела. Антосю раптам чамусьці стала шкода і свайго ката, і ўсіх катоў, што жывуць зімой у магазінах, у падвалах, туляюцца па вуліцах... І сябе разам з тымі катамі.

Ён вылавіў з рандэлка лыжкаю чатыры галушкі, загарнуў іх у паперу і паклаў на падаконніку, каб астылі. Выйшаў на калідор надзяваць паліто, і якраз зазваніў тэлефон.

— Хто? — Антось падняў трубку. — Гаварыце!

— Мы аб’яўляем табе вайну! — Шчаўчок, упала манета, кароткія гудкі.

— Хто гэта? — гукнуў бацька.

— Ніхто... Гэта мне.

Антось узяў галушкі, спусціўся ў падвал, дзе на старой ватоўцы, у кутку пад цёплаю трубою, ляжаў кот. Кот пацягнуўся, падрыгаў заднімі лапамі і падбег да хлопчыка. «Кісынька, кісынька», — шаптаў Антось, гладзіў, карміў ката і слухаў, як той хрыкае.

Ён вельмі баяўся ісці заўтра ў школу.

Ён вельмі любіў дзяўчынку Аксану са свайго класа.

Ён ведаў, што трэба заўсёды казаць толькі праўду, але каяўся, што сказаў пра памылку.

Ён жа быў яшчэ зусім малы.

***Спісак***

I

Іван Закрэвіч, загадчык клуба, выйшаў з невялікай прыбудовы фермы, дзе размяшчаўся чырвоны куток, і спыніўся на высокім ганку, аглядаючы двор. З твару яго не сышлі яшчэ сляды нядаўняе заклапочанасці, што бывае ў чалавека, які зрабіў нялёгкую, нудную для сябе, але патрэбную іншым справу: загадчык клуба толькі што прачытаў даяркам лекцыю аб шкоднасці алкаголю, даказваючы гэтую шкоднасць і на мясцовых фактах, і на фактах з розных газет. Яшчэ Закрэвіч вывесіў «маланку», дзе пералічваліся поспехі і недахопы «ў надоях ад кожнай каровы» за апошні тыдзень. Мерапрыемства пад назваю «Дзень культуры на ферме» было скончана.

На дварэ па-веснавому цёпла. Ледзь чутныя подыхі слабага ветрыку праганялі рэшткі дзённай спёкі, прыемна халадзілі твар, і Закрэвіч расшпіліў кашулю на два верхнія гузікі. Сонца хоць было яшчэ і высока, але свяціла неяк мякчэй, лагадней, чымсьці днём: дзень якраз канчаўся, а вечар шчэ не надышоў. Цень ад фермы падзяляў двор на дзве роўныя палавіны і даходзіў ужо аж да ганка, на якім стаяў у задуменні загадчык клуба.

Пад сцяною, дзе цень быў найболын густы, на складзеных у штабель дошках сядзелі мужчыны, курылі і размаўлялі. Побач, прывязаны лейцамі да дзікай ігрушы, запрэжаны ў воз, пасся конь, пазвоньваў цуглямі, гучна пырхаў і ўскідваў галаву — відаць, у траву з ігрушы нападалі хрушчы.

«Каб узяў ды яшчэ якое меранрыемства нравёў, — падумаў Закрэвіч, гледзячы на мужчын, — сабраліся якраз...»

Загадчык клуба важка спусціўся з ганка, падышоў і, пераклаўшы сакваяж, пачаў вітацца з мужчынамі за руку.

— Чаго ў цябе, Закрэвіч, рука, як тая тарка, шурпатая? — смеючыся, сказаў дробны, з белымі доўгімі вусамі мужчынка ў кепцы — ляснік Папечыц Мікалай.

Сёння яго з канём адпусцілі з лясніцтва на ферму вазіць дошкі. — Ты ж нічога не робіш важкага такога, а такія мазалі панабіваў.

— А ты бачыў, што я нічога не раблю? — азваўся загадчык, сядаючы на шурпатую дошку.

— Я бачыў толькі, што ты паперы ўвесь век перакладаеш, — не сунімаўся Папечыц. — Хіба што паперамі ўмудрыўся панаціраць мазалі...

— Добра, што ты ўжо... не паперамі панаціраў.

Закрэвічу стала крыўдна: ён адразу ж падумаў, што сапраўды — ён хворы чалавек і не раўня тут нікому, нават гэтаму Папечыцу, і, як заўсёды, калі ён адчуваў сябе няроўняй, горшым ад іншых, справы ягоныя рабіліся для яго важнымі і неабходнымі. Ён дастаў з сакваяжа тэчку і асадку.

— У мяне тут, хлопцы, да вас такое дзела... Хочу зрабіць пры клубе гурток цвярозых, — сказаў ён, вымаючы з тэчкі ліст паперы, — пры ўсіх клубах ужо ёсць, а ў нас няма. Так, фармальна, для адчоту — вы не бойцеся...

Мужчыны пачалі смяяцца:

— Пішы-пішы сабе — чаго ты ў нас пытаеш?

— Што ж то ўжо — зусім не піць, ці як?

— Хіба вы малыя дзеці, што я вам загадаю піць ці не піць? — смяяўся сам загадчык. — Я ж кажу, што трэба, каб такое было пры кожным клубе!

— Я дык ужо запісаны, — уставіў Папечыц, — у лясніцтве.

Ён падняўся і пачаў адвязваць ад ігрушы лейцы.

— Ты запісаны ў таварыстве цвярозых, — растлумачыў Закрэвіч.

— Ну, а ты куды хочаш?

— Я нікуды не хочу! Не хочаш, дык не запісвайся, я ж цябе вяроўкаю не цягну. Каб і запісаўся, дыіс не памёр бы. Што я — грошы буду браць, ці што... А не хочаш — дык твая воля!

— Начорта мне твае запісы! — ускіпеў раптам і Папечыц. — Грошы я шкадую! Прыйдзі, як няма ў цябе грошай, дык я дам — толькі адчапіся ад галавы! Ніхто не едзе, хлопцы? Но-о... — Папечыц тузануў за лейцы, завярнуў каня і паехаў са двара.

Мужчыны кашлялі, смяяліся, і невядома было, з каго: ці то з Закрэвіча, ці то з Папечыца.

Сяк-так загадчык склаў свой спісак цвярозых, запісаўшы чатырох чалавек, якія былі тут, і яшчэ двух па памяці.

II

Увечары ў хаце Закрэвічавых вялася такая гаворка.

— ...я ж кажу, ужо людзі смяюцца! Каб хоць дзе ў двары ляжалі, а то прывёз пад плот, загарадзіў вуліцу — і анігадкі! — Жонка толькі што прыйшла з агароду, стомленая і злосная, стаяла ў парозе і выгаворвала Закрэвічу, што восе пара ляжаць нярэзанымі дровы. — Ідзі, пакуль шчэ не позна, папрасі ў Папечыца пілу. Ідзі, кажу, ён якраз на дварэ ходзіць!

— Можна было ўручную даўно парэзаць, — моршчыўся Закрэвіч. Ён схіліўся над сталом і поркаўся ў паперах, быццам шукаў сярод іх нейкую адну, самую важную.

— Такі разака — уручную! — перадражніла жонка. У яе даўно ўжо не было літасці да мужавае хваробы. — Ты ж хворы! А другое, то хто цяпер уручную рэжа? Каб ты раней трохі думаў, то можна было б паплёўваць з балкона, седзячы ў горадзе.

Пасля таго як пагадаваліся і параз'язджаліся дзеці, жонка ўзяла за моду ўпікаць Закрэвіча, што ў свой час не перабраліся ў горад.

— Рабі што-небудзь, бо наперамі тваімі я ў печы не напалю. Я іх паналю калі-небудзь, пабачыш...

Закрэвіч моўчкі выклаў з сакваяжа на стол свае паперы, дастаў з кухоннага шкапчыка пляшку віна і, закруціўшы яе ў газету, паклаў у сакваяж.

— Ты ж у хату не паўзі, аддай на дварэ, — сказала жонка, якая назірала за ім. — Ды сам там не сядзі, трэба зелле насіць.

— Не бойся, панашу...

Закрэвіч вылавіў відэльцам у бляшанцы два івасі і азірнуўся, аглядаючы газеты, але газет больш на стале не было. Тады ён загарнуў селядцы ў ліст, што першы трапіўся пад руку.

— Можа, ён сягоння прыйдзе яшчэ рэзаць, дык віно не паказвай, — параіла жонка ўжо лагаднейшым голасам, — парэжа, а тады вып'е.

Папечыц жыў цераз вуліцу.

Закрэвіч адчыніў фортку, тады загаўкаў сабака. Папечыц паказаўся з-пад павеці, дзе складаў дровы.

— А, зноў ты, — панура сказаў ён, выціраючы аб штаны далоні. — Сціхні! — крыкнуў сабаку.

Загадчык клуба хітравата прыжмурыўся і прайшоў пад паветку, сказаў: так і так.

— Чаго ж ты на ферме не сказаў? Ужо даўно твае дровы парэзаныя былі б! Ужо ж нярана, хіба заўтра падыду...

Закрэвіч дастаў пляшку, закусь. Папечыц заскочыў у сенцы і вярнуўся са шклянкаю. Закрэвіч паставіў на калодку магарыч і сабраўся ісці.

— Пастой, — Папечыц зубамі ўжо выцягваў пластмасавы корак. — Ты добра падышоў, бо мая якраз на сотках.

— І мне ж трэба шчэ зелле насіць... Няможна мне...

— Ну, трошкі... — Папечыц ужо наліваў.

Закрэвіч праз сілу выпіў паўшклянкі, выцер губы і пайшоў. Папечыц дапіў віно, засунуў у шчыліну паміж дрывамі парожнюю пляшку і, здаволены нечаканай і дармовай выпіўкаю, разгарнуў паперчыну. На лісце стаялі нейкія словы. Папечыц высунуўся на святло і, чаўкаючы селядцом, прыгледзеўся. Гэта быў спісак гуртка цвярозых. «Хіба дагнаць ды аддаць?» — перш на п'яную галаву падумаў Папечыц. Але ліст ад тлушчу свяціўся плямамі навылёт; у адным месцы ён быў прапораты селядцовай галавою. «Каб ён яму дужа трэба быў, дык ён не закручваў бы ў яго селядцы», — разважыў Папечыц. Даеўшы, сабраўшы ў жменю косткі і галовы, кінуў іх сабаку, ліст скамячыў і затаптаў ботам у зямлю.

А Закрэвіч, панасіўшы зелле, зрабіўшы такую-сякую работу ў гаспадарцы, пісаў у сваім журнале: «Пры клубе арганізаваны добраахвотны гурток цвярозасці...»

Трэба было прыкласці сюды і пратакол мерапрыемства, але загадчык клуба ніяк не знаходзіў ліста з прозвішчамі. «Мусіць, гэта я селядцы закруціў у яго, — з горыччу здагадаўся ўрэшце ён. — Але хай, заўтра ўжо ўсё пазапісваю — на свежую галаву».